**Ірына Масляніцына**
**Мікола Багадзяж**

# Беларусь далетапісная

Гістарычныя нарысы

Мінск
«Літаратура і Мастацтва»
2010

## ПАДАРОЖЖА Ў ТУМАНЕ
## (замест прадмовы)

Аднойчы ў прыватнай размове аўтарам гэтай кнігі давялося пачуць выказванне: «У той час, калі цывілізаваная Еўропа ўзводзіла гарады і хадзіла ў крыжовыя паходы вызваляць Труну Гасподнюю, нашы продкі апраналіся ў звярыныя шкуры і высвятлялі паміж сабою стасункі пасродкам дубіны». Было вельмі крыўдна, і не столькі за беспадстаўна абражаных продкаў, колькі за нашчадкаў, якія робяць сёння гэткія заявы, цалкам ўпэўненыя ў іх праўдзівасці.

І сапраўды, якія высновы прыходзяць на розум чалавеку, які сёння звернецца за ведамі пра мінулае свайго народа — любога з трох усходнеславянскіх — да падручніка гісторыі, гістарычнай энцыклапедыі, даведніка? Што гісторыя ўсходніх славян пачалася ў IX стагоддзі з легендарнага закліка трох братоў-варагаў Рурыка, Сінявуса і Трувора «правіць Руссю» з нагоды таго, што «зямля ў нас багатая, парадку толькі няма». Што ж было да іх прыходу? У неспрактыкаванага чытача ствараецца ўражанне, што нічога істотнага. Жылі, маўляў, продкі плямёнамі, кіравалі імі старэйшыя ў родзе альбо веча. Да IX стагоддзя пабудавалі некалькі гарадоў. Іншы раз сварыліся плямёны адно з адным, а то аб'ядноўваліся, каб адбіць напад іншых. Але ні выдатных асоб, ні вартых падзей быццам бы і не было.

Цяжка адказаць, чаму на працягу многіх стагоддзяў вучонымі мужамі замоўчвалася ад народа праўда. А менавіта тое, што і да Рурыка з яго варажскімі братамі ва ўсходніх славян была цікавая, насычаная гісторыя з датамі, героямі, вялікімі перамогамі, горкімі паразамі, бясконцай барацьбой за сваю свабоду, права на самасвядомасць, за існаванне, у рэшце рэшт. Магчыма, віной гэтаму празмерная педантычнасць і прыхільнасць традыцыям.

Першыя ўсходнеславянскія летапісы пачалі весціся ў X стагоддзі. Іх пісалі манахі, у светапоглядзе якіх уласна гісторыя нярэдка атаясамлялася з гісторыяй хрысціянства. Хрышчанне Русі яны ўяўлялі пачаткам адліку новага часу, крокам у цывілізацыю з цемры невуцтва. Ці трэба тлумачыць у сувязі з гэтым, чаму дахрысціянскае мінулае зусім не цікавіла іх? А даследчыкі, што жылі пазней, успрымаючы летапісы як самыя пэўныя сведчанні мінулага, не прынялі да ўвагі гэтыя абставіны і палічылі, што змаўчанне манахаў аб гістарычных падзеях, якія адбываліся ва ўсходніх славян у дахрысціянскую эпоху, азначае толькі тое, што значных сярод іх не было. Калі ж летапісец у выглядзе выключэння раптам прыводзіў больш-менш складны аповед пра якоганебудзь з герояў усходнеславянскай старажытнасці, што жыў да IX стагоддзя, яго абвяшчалі легендай. Гэтак паступова склалася традыцыйная гістарычная канцэпцыя.

І ўсё роўна дзіўна. Бо ўважліва вывучаючы нават рускія летапісы, параўноўваючы іх, за шэрагам збеглых нататак, абмовак і спасылак, ужо можна пабачыць цень той нашай гісторыі, якая нам, сённяшнім, практычна невядома. А калі ўлічыць, што пэўныя звесткі аб падзеях і людзях, якія жылі на нашай зямлі ў часы далетапісныя, можна запазычыць і з іншых крыніц, якіх на сённяшні дзень вядома не так ужо і мала, то для даследчыка-энтузіяста становіцца цалкам магчымым аднаўленне многіх цікавейшых эпізодаў нашага ранняга мінулага. Акрамя таго, што нашы продкі самі пісалі пра сябе, сведкамі іх дзеянняў выступалі таксама і іх шматлікія суседзі, як блізкія, так і далёкія.

У апошнія гады шмат што ў гэтым кірунку робіцца расійскімі і ўкраінскімі гісторыкамі. Натхнёныя іх распачынаннямі, мы вырашылі зрабіць спробу аднаўлення далетапіснай гісторыі Беларусі. У гэтым нам дапамаглі цудоўныя крыніцы, найбольш каштоўныя з якіх мы хацелі б прадставіць чытачу.

**Герадот «Мельпамена»**. Наўрад ці знойдзецца сёння чалавек, які, сур'ёзна захапляючыся мінулым, скажа, што яму невядома імя гэтага старажытнагрэчаскага навукоўца, названага ўдзячнымі нашчадкамі «бацькам гісторыі». Герадот жыў у V стагоддзі да нашай эры, шмат падарожнічаў, наведаў Вавілон, Фінікію, Егіпет, Кірэну, Фракію, Сіцылію, узбярэжжа Чорнага мора. Асноўная яго гістарычная праца — гіганцкі твор, прысвечаны грэка-персідскім войнам (500-449 гг. да н. э.). У яго рамках Герадотам апісана гісторыя краін і народаў Персідскай дзяржавы, іх побыт і культура, дадзены геаграфічныя звесткі і першае сістэматызаванае апісанне жыцця і побыту скіфаў, а таксама таямнічага народа неўраў, які жыў у басейне Прыпяці. Назва Герадотавай працы не захавалася. Пазней яго паслядоўнікі падзялілі твор на дзевяць кніг і кожную назвалі імем адной з дзевяці муз грэчаскай міфалогіі. Чацвёртая кніга — «Мельпамена» — прысвечана Скіфіі і яе наваколлям. Гэта самая ранняя пісьмовая крыніца звестак аб насельніцтве тэрыторыі Беларусі, з якім звязваюць Герадотавых неўраў.

**Іярдан «Гетыка»**. Гэта — галоўная праца гоцкага гісторыка VI стагоддзя, які распачаў сваю біяграфію на службе ў аланскага военачальніка і скончыў епіскапам. Іншая яе назва — «Аб паходжанні і дзеяннях готаў». У кнізе выкарыстаны багацейшы пісьмовы і вусны (гоцкія народныя легенды і паданні) матэрыял, які дае магчымасць даследчыкам скласці цэласнае ўяўленне аб перыядзе гэтак званага Вялікага перасялення народаў. У ліку іншых, у Іярдана ёсць таксама цікавыя сведчанні аб землях беларускага Палесся, званых ім «зямлёй Оўм».

**Ібн Хордадбег «Кніга шляхоў і дзяржаў»**. Геаграфічная праца гэтага перса — першы твор падобнага зместу, які дайшоў да нашага часу на арабскай мове. Напісаны ён быў ў сярэдзіне IX стагоддзя. У кнізе Ібн

Хордадбега шмат цікавых дадзеных аб сучасных яму ўсходніх славянах, якія аўтар запазычыў з іх жа аповедаў, сустракаючыся з нашымі купцамі, што падарожнічалі ў Багдад. Сам Ібн Хордадбег быў кіраўніком пошты ў вобласці Джэбэл, праз якую праходзіў сухапутны шлях з горада Рэя на ўзбярэжжы Каспійскага мора ў Багдад.

**Аль Масудзі «Залатыя лугі»**. Адна з сямі гісторыка-геаграфічных прац, напісаных у першай палове X стагоддзя арабскім купцом, географам, гісторыкам і падарожнікам, які пабываў нават у Хазарыі. З усіх яго прац захаваліся толькі дзве. Гэты твор мае цэлы раздзел, прысвечаны апісанню жыцця і побыту славян. Аўтар называе адзінаццаць славянскіх плямёнаў. Аль Масудзі заслужана звалі «Герадотам Усходу».

**Персідскі Ананім «Кніга межаў ад Усходу на Захад»**. Імя аўтара гэтай унікальнай працы, назва якой у арыгінале гучыць як «Худуд-аль-Алем» (часам у творах даследчыкаў яна праходзіць менавіта пад гэтай назвай), усталяваць не атрымалася. Вядома, што жыў ён у X стагоддзі. Каштоўны рукапіс быў выпадкова выяўлены ў Бухары ў 1892 годзе рускім навукоўцам А. Г. Туманскім, які шукаў там астранамічныя працы хана Улугбека. У «Кнізе межаў ад Усходу на Захад» нямала старонак прысвечана ўсходнім славянам. Кніга з'яўляецца цудоўным узорам кампілятыўнага твора. У ёй скарыстаны і супастаўлены тэксты геаграфічных прац многіх папярэднікаў аўтара, у тым ліку і ўслаўленага персідскага навукоўца Аль Балхі з яго кнігі, якая не захавалася.

**Ібн Хаукаль «Геаграфія арыенціраў»**. У кнізе гэтага арабскага аўтара X стагоддзя падрабязна апісаны гарады, норавы, звычаі тых народаў, з якімі сустракаліся арабскія купцы і вандроўнікі ў сваіх падарожжах. Задуманая як своеасаблівы даведнік для землякоў, якія адпраўляюцца у далекі шлях, сення яна дапамагае даследчыкам гісторыі тых народаў, аб якіх піша Ібн Хаукаль.

**Аль Ідрысі «Асалода тых, якія вандруюць вакол святла»**. Над гэтым вялізным па аб'ёме творам арабскі навуковец XII стагоддзя працаваў пятнаццаць гадоў Атрымаўшы адукацыю ў Еўропе, у іспанскім горадзе Кардове, Аль Ідрысі жыў потым і пісаў свае кнігі на Сіцыліі. Меў велізарную бібліятэку, дзе было мноства геаграфічных прац усходніх аўтараў, што жылі ў больш раннія поры, у тым ліку і працы вядомага географа пачатку X стагоддзя Джейхані, якія не дайшлі да нас. Аль Ідрысі меў магчымасць, супастаўляючы, правяраць дадзеныя, якія прыводзіліся ў іх. Звесткі аб усходніх славянах у яго кнізе вельмі каштоуныя для дaслед чыкау ранняга перыяду нашай гісторыі.

**«Тыфліскі рукапіс»**. Гэта — умоўная назва вялікага манускрыпта XI стагоддзя, які ў самым пачатку нашага стагоддзя патрапіў у царкоўны музей Грузінскага экзархата з Тыфліскага Сіёнскага сабора. Нягледзячы на вельмі цікавую гістарычную фактуру, у тым ліку і аб славянах, рукапіс

дагэтуль нідзе не надрукаваны, і мы маем магчымасць выкарыстоўваць толькі цытаты з яго, перакладзеныя на рускую мову ў 1901 годзе для часопісаў «Вестник Всемирной истории» і «Византийский Временник».

**«Жыціе Дзмітрыя Салунскага»**. На сённяшні дзень існуе некалькі варыянтаў (больш кароткія, пашыраны ў сувязі з занесенымі дадаткамі і г. д) гэтага помніка хрысціянскай літаратуры, напісанага невядомым аўтарам у эпоху ранняга сярэднявечча. Хоць галоўная тэма твора — жыццё, смерць і пасмяротныя цуды візантыйскага святога, у «Жыціі» прысутнічаюць важныя гістарычныя звесткі аб усходніх славянах, у прыватнасці, аб нашых продках дрыгавічах.

**«Сага аб Тыдрыку Бернскім»**. Гэты гістарычны твор, створаны сярод германамоўных народаў, мабыць, у V стагоддзі, і які атрымаў пасля шырокае распаўсюджванне ў многіх заходнееўрапейскіх краінах, быў запісаны толькі ў XIII стагоддзі. Таму на рэальныя гістарычныя факты, датычныя ўзаемаадносін готаў з князямі ўсходнеславянскіх гарадоў, у ліку якіх быў і Полацак, напластаваліся некаторыя чыста эпічныя дэталі.

**Быліны.** У адрозненне ад казак, што ствараліся ў народзе ўсё больш з мэтай забаўкі і прыкладнага павучання дзяцей, быліна апавядала пра падзеі, якія калісьці рэальна адбываліся. Улічыўшы пэўную долю ўмоўнасці былiннага аповеда, можна выкарыстаць некаторыя з іх у якасці каштоўнага гістарычнага матэрыялу адносна ранне-сярэднявечнага перыяду гісторыі ўсходніх славян.

**«Магілёўская хроніка».** Напісана на польскай мове ў XVII стагоддзі купцом Трафімам Суртой, перапісана з занясеннем неабходных выпраўленняў і дадаткаўу XVIII стагоддзі рэгентам Магілёўскай гарадской канцылярыі Юрыем Трубніцкім. Хроніка з'яўляецца вельмі падрабязнай, непасрэдна і нетрадыцыина выкладзенаи гісторыяй другараднага беларускага горада, пачынаючы з яго далетапіснай перадгісторыі. І менавіта ў сілу гэтага заслугоўвае пільнай увагі даследчыкаў.

**«Віцебскі летапіс»**. На самой справе летапісам гэтая праца, напісаная, як і «Магілёўская хроніка», на польскай мове, не з'яўляецца. Першапачатковая назва яе — «Гісторыя горада Віцебска». Створана яна была ў XVIII стагоддзі дзякуючы энтузіязму чатырох віцебскіх гараджан: Міхала Панцырнага, Яна Чарноўскага, Гаўрылы і Стэфана Аверак. Самую вялікую частку працы зрабіў Міхал Панцырны, які напісаў аб усіх найбольш значных падзеях з жыцця роднага горада да 1709 года. Форму старажытнарускага летапісу твору надаў Стэфан Аверка, аб’яднаўшы з кнігай Панцырнага кароткія запісы свайго бацькі Гаўрылы Аверкі, а таксама запісы Яна Чарноўскага. У «Віцебскім летапісе» змяшчаецца нямала цікавых звестак пра раннюю гісторыю беларусаў, якія нідзе больш не сустракаюцца.

**«Вялесава кніга»** — самая вялікая па аб'ёме крыніца, самая шырокая па наяўнасці звестак аб гісторыі, рэлігіі, міфалогіі, культуры

ўсходніх славян да прыняцця хрысціянства. Назва ўмоўная. Кніга ўяўляе сабою збор блізкіх па ўтрыманні, форме выкладу і мове, але напісаных у розны час рознымі аутарамі і, магчыма, навату рознай мясцовасці тэкстаў-пропаведзяў язычніцкіх жрацоў. Пропаведзі гэтыя, узнікненне якіх даследчыкі датуюць VIII-IX стагоддзямі, былі выразаны на двухбаковых букавых дошчачках. Аб гэтай крыніцы варта распавесці падрабязней.

«Вялесава кніга» была знойдзена і выратавана ў 1919 годзе афіцэрам белай арміі, дзянікінцам, палкоўнікам артылерыі, камандзірам Маркаўскага дывізіёна Алі Ізенбекам (у хрышчэнні Фёдарам Артуравічам). Яго дывізіён быў часова раскватараваны ў маёнтку князёў Задонскіх, недалёка ад станцыі Вялікі Бурлюк каля Харкава. Да гэтага мястэчка некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. Пасля таго, як у рэвалюцыю фальваркоўцаў расстралялі чырвонаармейцы, сюды прыходзілі ужо і сахараўцы, якіх змянілі дзянікінцы. Маёнтак быў разрабаваны, але сярод непатрэбнага хламу, якім падначаленыя Ізенбека сталі тапіць печ, палкоўнік убачыў дзіўныя, пакрытыя пісьмёнамі дошчачкі. Частка з іх ужо была абсалютна сапсавана, некаторыя патрапілі пад салдацкія боты і былі раздушаны. Ацалелае Ізенбек, зразумеўшы каштоўнасць знаходкі, сабраў у марскі мяшок і ўзяў з сабою. З трыццаці васьмі дошчачак, вывезеных гэтым дзянікінцам пры адступленні за мяжу, большасць уяўляюць сабою ўласна абломкі дошчачак, вялікія і малыя. На некаторых тэкст быў настолькі цяжка чытэльны, што атрымалася расшыфраваць толькі некалькі сказаў і слоў. Але, да шчасця, сярод астаткаў выратаванага помніка пісьменнасці некалькі тэкстау захавалася цалкам.

У 1924 годзе ў Брусэлі Ізенбек пазнаёміўся з літаратарам, які пісаў на гістарычныя тэмы, Юрыем Міралюбавым, і паказаў яму сваю знаходку. Міралюбаў быў першым, хто спрабаваў зрабіць пераклад тэксту «Вялесавай кнігі». Ён жа правёў карпатлівую працу па расшыфроўцы і перапісцы тэксту з дошчачак на паперу. Па яго патрабаванні з трох дошчачак былі зроблены фотаздымкі.

У гады Другой сусветнай вайны арыгінал «Вялесавай кнігі» беззваротна знік. Вывучэнне тэкстаў стала магчымым толькі дзякуючы таму перапісанаму асобніку, які зрабіў Міралюбаў. І ў 1953 годзе рускія эмігранты з Сан-Францыска ў часопісе «Жар-птица» апублікавалі свае версіі перакладу некалькіх тэкстаў «Вялесавай кнігі» на сучасную рускую мову. Але вядома, што ў перакладчыка, Аляксандра Куранкова, былога генерала белага войска, акрамя здымкаў, зробленых Міролюбавым, былі і іншыя матэрыялы. І значыць, ён альбо бачыў «Вялесаву кнігу» пасля знікнення, альбо сустракаўся з чалавекам, які бачыў яе і зняў частку тэкстаў на фота.

Першым, хто сур'ёзна стаў папулярызаваць «Вялесаву кнігу», выступаць з дакладамі аб ёй на навуковых канферэнцыях і выдаваць серыю

кніг аб гэтым тэксце, быў гісторык-славіст Сяргей Лясной. Ён у канцы 60-х гадоў па міралюбаўскім запісам зрабіў свой пераклад кнігі. Пасля працай з тэкстамі «Вялесавай кнігі» займаліся эмігранты Скрыпнік, Рэбіндэр, Лазарэвіч, Сакалоў, Цэгла, Качур. Большасць з іх былі лінгвістамі, і як лінгвісты яны прызнавалі несумнеўную сапраўднасць тэкстаў. Але адмысловую гістарычную экспертызу ў гэты час ужо нельга было правесці з-за адсутнасці прадмета даследавання.

Гэта і дало падставу для сумненняў крытыкі ў савецкай прэсе. У 1960 годзе на падставе адзінага ўбачанага ёю здымка дошчачкі з «Вялесавай кнігі» мовазнавец Л. Жукоўская абвясціла яе падробкай. Ёй паверылі, і больш шаснаццаці гадоў у айчынным друку да пытання аб «Вялесавай кнізе» не вярталіся. Толькі ў канцы 70-х гадоў на старонках расійскіх выданняў з'явіліся гіпатэтычныя артыкулы аб «Вялесавай кнізе» і разгарнулася гарачая дыскусія на тэму аб яе сапраўднасці. Галоўнымі супраціўнікамі «Вялесавай кнігі» выступілі акадэмік Барыс Рыбакоў і яго паслядоўнікі. На нясмелыя прапановы некаторых савецкіх даследчыкаў даць магчымасць айчыннай навуцы спачатку хоць бы пазнаёміцца з аб'ектам спрэчкі, надрукаваць дзе-небудзь тэксты «Вялесавай кнігі», структуры, ад якіх гэта залежыла, адмовілі.

Упершыню больш-менш поўны тэкст «Вялесавай кнігі» быў выдадзены ў Расіі дзякуючы намаганням Аляксандра Асава ў 1995 годзе. У першым выданні Асаў разам з перакладам прывёў уласна і сам тэкст, што дало магчымасць зацікаўленым весці вывучэнне самастойна. І некаторым з дасведчаных у лінгвістыцы і гісторыі чытачам адразу кінуліся ў вочы недахопы і недасканаласці перакладу. У наступных выданнях «Вялесавай кнігі», зробленых Асавым, арыгінальныя запісы ўжо не прыводзіліся. Ды і сам перакладны тэкст змяніўся. Даследчык адмовіўся ад першапачатковай версіі свайго перакладу, і прапанаваў іншы, які моцна адрозніваецца ад першага, але служыць на карысць той тэорыі паходжання славян і развіцця іх: ранняй гісторыі, да якой ён схільны. Асаў дазволіў сабе нават неабгрунтаванае раздзяленне тэкста на раздзелы, перанос цэлых яго частак у іншыя месцы, штучную храналагізацыю. Вынік аказаўся сумны. Тыя, хто да знаёмства з перакладам Асава нічога аб «Вялесавай кнізе» не чулі, расчараваліся ў ёй, так і не здолеўшы азнаёміцца з сапраўдным тэкстам.

Аднак, паралельна з Асавым на Украіне над перакладам «Вялесавай кнігі» працавалі сужэнцы Валянцін і Юлія Гнацюкі. Яны пачалі з таго, што звярнуліся ўласна да ўдавы Міралюбава, атрымаўшы ад яе дазвол працаваць з архівамі яе мужа. Гэта дапамагло ім рассартыраваць матэрыял і надаць перакладу даволі стройную канструкцыю. Але, добрыя спецыялісты-лінгвісты, яны відавочна недастаткова ведаюць гістарычныя акалічнасці часоў, пра якія пераважна ідзе гаворка ў тэкстах. Адчуваючы бездапаможнасць асобных людзей, якімі б

эрудзіраванымі яны не былі, перад велічынёй задачы, якая патрабуе, мабыць, напружанай шматгадовай калектыўнай працы, Гнацюкі самі прызнаюць, што ў перакладзе могуць быць недакладнасці, якія павінны быць выпраўлены зацікаўленымі спецыялістамі.

У гэтай працы ўрыўкі з «Вялесавай кнігі» даюцца на сучаснай беларускай мове, паводле тэкстаў, падрыхтаваных Валянцінам і Юліяй Гнацюкамі і з указаннем нумароў дошчачак паводле іх кнігі 2006 года выдання. Аднак, тыя, на наш погляд, вельмі каштоўныя ўрыўкі, з перакладам якіх мы не згодны, мы ўзялі на сябе адказнасць перакласці самі. Яны ў тэксце вылучаны курсівам.

Мы запрашаем чытача здзейсніць займальнае падарожжа ў наша далетапіснае мінулае, якое, як вы самі неўзабаве ўпэўніцеся, зусім не з'яўлялася дзікім і варварскім, але было высокакультурным і гераічным.

Няхай пакуль яшчэ вельмі часта асобы і падзеі выступаюць перад вачамі падарожнікаў у часе як няясныя, туманныя постаці. Смуга недасведчанасці абавязкова калі-небудзь рассеецца канчаткова. І мы захоплена ахнем, здзіўленыя прыгажосцю і велічнасцю свайго мінулага.

Аўтары

## ТАРГІТАЙ — СЫН ПРЫПЯЦІ

Калі ствараецца кніга па гісторыі якой-небудзь краіны, аўтары яе звычайна пачынаюць апавяданне з паведамлення пра тое, якія старажытныя народы жылі першапачаткова на гэтай тэрыторыі, якую яна цяпер займае. Першыя старонкі гістарычных прац аб Італіі абавязкова будуць прысвечаны старажытным этрускам і рымлянам, Турцыі — візантыйцам, Мексікі — ацтэкам. Не будзем адыходзіць ад традыцыі і мы, прысвяціўшы першыя раздзелы «Беларусі далетапіснай» тым, хто здаўна насяляў нашы землі. І пачнём аповед з далёкага XV стагоддзя да Нараджэння Хрыстова, з часоў услаўленага героя старажытнасці Таргітая, аб якім распавёў нашчадкам Герадот.

Хто жа такі Таргітай, які жыў на зямлі так даўно, што і ўявіць сабе тыя часы нам, сённяшнім, цяжка? І якое дачыненне мае ён да нас?

Сучасныя Герадоту скіфы звалі Таргітая сваім родапачынальнікам і красамоўна распісвалі яго шматлікія подзвігі, сярод якіх былі і бітвы з полчышчамі ворагаў, і знішчэнне агідных пачвар, і паядынкі з лютымі драпежнікамі, і супрацьстаянне злой магіі. Тым не менш, аб паходжанні Таргітая скіфы, здаецца, ведалі вельмі мала. І пераказалі Герадоту толькі прыгожае паданне.

Апавядаючы ў сваёй гістарычнай працы пра скіфаў і Скіфію, Герадот піша: «Першым чалавекам у гэтай краіне, тады яшчэ пустэльнай, быў Таргітай; бацькамі Таргітая яны (скіфы. — Аўт.) завуць, чаму я не веру, Зеўса і дачку ракі Барысфен. Такое паходжанне прыпісваецца Таргітаю».

Герадот быў не міфолагам, а гісторыкам, таму, вядома, цяжка яму было паверыць у існаванне на зямлі рэальнага чалавека, бацькамі якога былі б багі. Толькі ў нашы дні расійскімі даследчыкамі было асэнсавана і расшыфравана скіфскае паданне аб паходжанні Таргітая. І гэта прывяло да дзіўнага адкрыцця — аказваецца, Таргітай нарадзіўся на Прыпяці.

Зеўс названы бацькам Таргітая па традыцыі: вялікіх герояў нашы далёкія продкі амаль заўсёды лічылі сынамі багоў. Калі не так, то адкуль у героя такая сіла, прага подзвігаў, высакародства?

Што ж датычыць «дачкі ракі Барысфен», то гэта і ёсць вобразнае указанне на месца нараджэння героя. Барысфенам у часы Герадота звалі Днепр. Дачкой Барысфена — самы буйны яго прыток, знакамітую Прыпяць. Такім чынам, таемны сэнс легендарнага апавядання такі: вярхоўны бог Зеўс блаславіў зямлю ў басейне Прыпяці, каб на-

радзіўся там вялікі герой Таргітай. А вось і Герадотава датаванне падзеі.

«Ад пачатку іх (скіфаў. — Аўт.) існавання або ад першага цара Таргітая да паходу Дарыя (512 г. да н. э. — Аўт.) прайшло лікам не больш тысячы гадоў», — піша «бацька гісторыі».

І яшчэ адно паданне знаходзім у Герадота пра паходжанне скіфаў, якое ўскосна сведчыць аб тым, што стагоддзе, у якім нарадзіўся Таргітай, сапраўды XV альбо самы пачатак XIV стагоддзя да н. э. Паводле гэтага падання, родапачынальнікам скіфаў быў не Таргітай, а Геракл, які быццам бы патрапіў у прыдняпроўскія землі, здзяйсняючы адзін са сваіх подзвігаў, здабываючы для цара Еўрысфея кароў Герыёна. Аднойчы ўначы, калі герой размясціўся на адпачынак і заснуў, захопленыя Гераклам каровы раптам зніклі. Выкрадальніцай аказалася змеяногая багіня, спадарыня тутэйшых месцаў. Яна згадзілася вярнуць зведзеную скаціну герою за некалькі начэй кахання. У выніку Геракл стаў бацькам траіх сыноў — Агафірса, Гелона і Скіфа. Калі хлопчыкі выраслі, маці наладзіла ім выпрабаванні на сілу і мужнасць. Расчараваная вынікамі, якія паказалі двое старэйшых (яны не змаглі нацягнуць вялізны лук, пакінуты іх бацькам), багіня прагнала іх. Малодшага ж Скіфа абвясціла сваім спадчыннікам і ўладаром гэтых месцаў.

Расійскі даследчык Анатолій Хазанаў каментуе гэта так: «Герадот паведамляе, што гэтую легенду расказвалі грэкі ў горадзе Ольвіі (знаходзіўся ў нізоўях Дняпра. — Аўт.), але, безумоўна, у аснове яе ляжала нейкае скіфскае паданне. Верагодна, Гераклам грэкі звалі таго, каго самі скіфы ведалі як Таргітая — свайго героя-родапачынальніка. Былі, значыць, у абодвух герояў агульныя рысы, паколькі грэкі знайшлі патрэбным іх атаясаміць. І не толькі грэкі, але і скіфы, прынамсі, іх арыстакратыя».

Што ж, гэта падобна да праўды. Таргітай, паводле падання, — сын Зеўса, і Геракл таксама. Таргітай — герой, які змагаецца з моцнымі, злымі ворагамі і пачварнымі жывёламі (такім яго паказвалі скіфы), і Геракл таксама. Безумоўна, блытаніна ўзнікла з-за таго, што жылі грэчаскі і скіфскі героі ў адзін і той жа час. А даследчыкі Антычнасці называюць часам жыцця і дзейнасці Геракла XV стагоддзе да н. э.

З апошняга ж прыведзенага намі падання Герадота вынікае яшчэ адзін цікавы факт. Імя сына героя, названага грэкамі Гераклам, які, безумоўна, насамрэч з'яўляецца Таргітаем, — Скіф.

«Вялесава кніга» распавядае:

І былі князі Славен з братам яго Скіфам.

І даводзілася ім весці на ўсходзе вялікія войны.
І вырашылі яны: «Пойдзем у зямлю ільмерскую і на Дунай!»

*І так вырашылі,*
*каб старэйшы сына свайго пакінуў*
*са старыцай Іламерай,*

а сам пайшоў на поўнач і заснаваў там свой град Славенск.
А брат яго Скіф быў ля мора.

*І там састарыўся, меўшы сына свайго Венда,*

а пасля быў ўнучак яго, Кісек,
які валодаў паўдзённым стэпамі…

Калі верыць гэтаму тэксту, у Таргітая было два сыны. Скіф, мабыць, малодшы і старэйшы, Славен. Ільмерская зямля, куды накіраваўся Славен і дзе заснаваў горад Славенск, — гэта — землі сучаснай Прыбалтыкі і Наўгародчыны. Як тое будзе зразумела з іншых першакрыніц, Ільмерскай яна стане звацца пазней. У тэксце відавочны анахранізм. Горад, заснаваны Славенам — адзін з самых старажытных гарадоў на ўсходнеславянскай тэрыторыі. Зараз на яго месцы — сучасны Ноўгарад. Старыца або векавуха Іламера (на жаль, сужэнцы Гнацюкі не разгледзелі ўласнага імені сярод напісаных адзіным радком без прабелаў слоў) таксама ўзгадваецца і ў іншых старажытных крыніцах.

Пра вышэйпамянёныя падзеі распавядаюць таксама рускія летапісы. У прыватнасці, у Мазурынскім летапісцы знаходзім:

«А вялікі князь Славен паставіў град і даў яму імя па сваім імені Славенск, ён жа цяпер завецца Вялікі Ноўград, ад вусця вялікага возера Ільмера па рацэ Волхаву паўтрэцця попрышча. І ад таго часу новапрышэльцы скіфы пачалі менавацца славяне…»

Выбітны расійскі гісторык XVIII ст. В. М. Тацішчаў, пераказваючы Іаакімаўскі летапіс, таксама сведчыць:

«Славен з братам Скіфам, маючы войны шматлікія на ўсходзе, пайшлі да захаду, многія землі на Чорным моры і на Дунаі сабе скарыўшы… І ад старэйшага брата празваліся славяне… Славен князь… пайшоў да поўначы і град вялікі стварыў, у сваё імя Славенск назваўшы. А Скіф застаўся ля Понта і Меаціса ў пустынях жыць, харчуючыся ад быдла і рабаўніцтва, і прозвалася краіна тая Скіфія

Вялікая. Пасля ўпрадкавання Вялікага града памёр Славен князь, а пасля яго валадарылі сыны яго і ўнукі шмат соцень гадоў».

Сына Славена — таго хлопчыка, якога, паводле «Вялесавай кнігі», перад небяспечным паходам у «зямлю Ильмерскую» бацька пакінуў на апеку Іламеры, калі верыць таму ж Мазурынскаму летапісцу, клікалі Волхаў. Мала таго, гэтая ж старажытная першакрыніца растлумачвае, кім даводзілася Славену і Скіфу Іламера (або Ірмера). Яна была іх роднай сястрой, і значыць, дачкой Таргітая.

«...Чатырнаццаць гадоў пустыя месцы і краіны абыходзячы, дайшлі да возера нейкага вялікага, якое называлася Маіска, а пазней Ірмер, у імя сястры іх Ірмеры. Тады валхаванне загадала ім спадчыннікам і месца гэтага быць. І старэйшы Славен з родам сваім і са ўсім, што пад рукой яго, сеў на рацэ, што тады называлася Мутная, а пазней у Волхаў была перайменаваная ў імя старэйшага сына Славенава, Волхава».

Класік расійскай гісторыі М. М. Карамзін, які даследаваў у ліку іншых крыніц і летапісы, робіць для сваёй славутай «Гісторыі дзяржавы Расійскай» цікавую заўвагу, што дапаўняе сведчанні, прыведзеныя вышэй: «Славен пасяліўся на рацэ Мутнай, заснаваў горад Славенск, і назваў раку Мутную Волхавам, пратоку яго Волхаўцам (па імені дваіх сыноў), другую раку Шалонню, а возера Ільмерам (у гонар жонкі сваёй Шалоны і сястры Ільмеры). Старэйшы сын быў люты чарадзей, ператвараўся ў кракадзіла, хаваўся ў рацэ, тапіў і пажыраў людзей, якія не хацелі шанаваць яго як Перуна. Ен жыў у асобным гарадку на беразе ракі ў тым месцы, якое мянуецца Пярынню, і дзе язычнікі пакланяліся яму. Яны запэўнівалі, што Волхаў сеў у багі, але мы ведаем, што нячысцікі ўтапілі яго ў рацэ. Над целам злога чарадзея, якое хвалямі было выкінута ў Пярынь, паганыя адправілі трызну і насыпалі высокую магілу, якая праз тры дні праваліласяў пекла. Імем Волхаўцава сына, Жылатуга, названа асобная пратока ракі Волхава, дзе ён патануў немаўлём».

Выключыўшы з гэтага ўрыўка містычны элемент з ператварэннем у кракадзіла, мы атрымаем цікавейшыя звесткі аб заўзятым прыхільніку сваёй рэлігіі Волхаве, які адрынуў уладу свецкую, належную перайсці да яго па старшынстве ад бацькі, дзеля ўлады духоўнай, і стаў паганскім жрацом. Ці не ад імені гэтага рэальнага чалавека паходзіць слова «валхвы», якім у старажытнасці называлі прадстаўнікоў славянскай жрэцкай касты?

Славенавых спадчыннікаў летапісцы лічаць родапачынальнікамі наўгародскай княжай дынастыі і нават наогул славян — зрэшты, гэта даказаць цяжка, бо славяне прыйшлі ў гэтыя мясціны на шмат ста-

годдзяў пазней, а Славенавы нашчадкі, відавочна, трывала абгрунтаваліся ля возера Ільмень і нікуды адтуль больш не сыходзілі.

Што ж да Скіфа, стэпавага ўладара, то пра яго нашчадкаў ёсць не меней цікавыя звесткі. «Вялесава кніга» называе сына Скіфа — Венда і «ўнучка Кісека». Але ў той жа таблічцы, на якой размяшчаецца гэты тэкст, (а менавіта 17-А) ніжэй згадваецца пра «вялікую вайну за стэпы», якая «вялася з усіх бакоў ад Дуная да гор Рускіх і пастбішчаў Карпенскіх». Пасля чаго ідуць радкі, якія ў арыгінале гучаць прыкладна гэтак: «А таму ряшете се бо утвре коле а бендеше опрец за не», і якія Гнацюкі перакладаюць наступным чынам: «І тады вырашылі (русы) ўзвесці агароджаныя ўмацаванні і біцца за імі». Аднак, у гэтым выпадку, магчыма, больш блізкі да ісціны пераклад Аляксандра Асава, які ўбачыў у радках гэтых наступны сэнс: «І там пачалі яны радзіць і выбралі Кола, і быў ён для іх правадыром».

Калі зноў звярнуцца да твора Герадота, то можна таксама знайсці там імя правадыра Колы (Калаксая). Метадычна і скрупулёзна запісваючы аповеды скіфаў аб іх першых царах «бацька гісторыі» нараўне з іншымі занёс у сваю працу і паданне (так расцаніў яго асцярожны грэк) аб трох братах Арпаксае, Ліпаксае і Калаксае. Непаслядоўныя скіфы называлі і іх сынамі Таргітая. Аднойчы, быццам бы, браты сталі сведкамі вялікага цуду: з нябёсаў — абіцелі багоў — на зямлю ўпалі па-майстэрску зробленыя залатыя рэчы: сякера, чара, ярмо і плуг. Арпаксай і Ліпаксай хацелі тут жа падабраць іх, але золата пры іх набліжэнні ўспыхвала жарам і не давалася ў рукі. Тады свае сілы вырашыў выпрабаваць малодшы брат — і пасланыя людзям багамі залатыя дарункі легка апынуліся ў яго руках. Здзіўленыя старэйшыя браты вырашылі саступіць Калаксаю свае правы на ўладу. Пазней Калаксай, стаўшы ўслаўленым скіфскім царом, падзяліў свае ўладанні на тры часткі і, узяўшы сабе лепшую, аддаў братам дзве іншыя. Святыя залатыя рэліквіі ён трымаў заўсёды пры сабе, і поспех спадарожнічаў яго кіраванню.

Калі прыняць да ўвагі, што нярэдка ўмоўна нашы продкі звалі сынамі якога-небудзь героя і яго ўнукаў, і нават праўнукаў, то цалкам дапушчальна выказаць здагадку, што персанажы прыгожага скіфскага падання і ёсць унукі Таргітая, дзеці Скіфа. А Калаксай — гэта Кола з тэксту «Вялесавай кнігі», які, пэўна, — адна і тая ж асоба з Вендам. Але чаму дошчачка называе два імені аднаго чалавека? Магчыма, таму, што адно з іх — зусім не імя, а мянушка.

Імкнучыся разгадаць таямніцу трох братоў Арпаксая, Ліпаксая і Калаксая, даследчыкі вырашылі, што другая частка імёнаў іх — гэта злёгку зменена іранскае слова «хшай», якое азначае «цар», «уладар».

Што ж тычыцца першай часткі, то мяркуецца, што імя малодшага з братоў Кола (Кала) азначае «сонца». І значыць, ён — Сонца-цар. Імя яго брата Арпа азначае «глыбокі» (успомнім назву Дняпра, якую нашы старажытныя славянскія продкі прамаўлялі як Данапр — «вада глыбокая»), І значыць Арпаксай — цар глыбінь. З гэтага пункта погляду Ліпаксай — некалькі скажонае імя Ріпаксай. І значыць яно — цар горных вяршыняў.

Калі так, то прыведзеныя імёны не могуць быць нічым іншым, акрамя як прынятымі братамі жрэцкімі мянушкамі. Бо менавіта жрэцкая арыйская філасофія падзяляла сусвет на тры сферы: верхнюю (нябесную, сонечную), сярэднюю (зямную) і ніжнюю (падводную і падземную).

На жаль, звестак аб тым, навошта спатрэбілася сынам Скіфа і ўнукам Таргітая прымаць жрэцкія імёны, няма. Гэтак жа, як няма пэўных крыніц, якія маглі хоць бы больш-менш складна распавесці нам аб тым, якім было іх кіраванне. Атрымаўшы ад багоў залатыя знакі зямной улады Калаксай стаў родапачынальнікам так званых царскіх скіфаў — сколатаў, якім падпарадкоўваліся ўсе іншыя скіфы. Іпацьеўскі летапіс, называючы Калаксая сынам Сварога, і атаясамляючы яго з Дажбогам сцвярджае: «...Сонца-цэсар, сын Сварогаў, які ёсць Дажбог, быў муж моцны...», «...ад яго ж пачалі чалавекі даніну даваць цэсарам». Гэта значыць, Калаксаем быў упершыню заснаваны інстытут царскай улады.

## СКРЭВА, ПРАМАЦІ КРЫВІЧАЎ

Легенды, паданні, міфы... Дзе праходзіць тая рыса, якая адмяжоўвае ў іх праўду ад выдумкі? Некаторыя даследчыкі мінулага сцвярджаюць, што наогул не варта разглядаць іх у якасці магчымых сведчанняў аб рэальных фактах сівой даўніны, каб выключыць усялякую верагоднасць прыкрай памылкі і ўсцерагчыся ад спакусы фальсіфікаваць гісторыю. Мы ж не з іх ліку. Таму што стоадсоткава пэўных крыніц аб ранніх стагоддзях нашага мінулага — не так ужо шмат, яны адрывістыя і разрозненыя. І ў такой сітуацыі народу, без сумнення, значна лепш мець за плячыма гісторыю легендарную, чым ніякую.

Мабыць, менавіта такімі меркаваннямі кіраваліся і сярэднявечныя летапісцы і храністы. У тых выпадках, калі іх складнае апавяданне аб «справах даўно мінулых дзён» пагражала абарвацца за адсутнасцю правераных фактаў, яны запаўнялі пустэчы гістарычнымі легендамі, паданнямі, міфамі. Так, пэўна, рабілі і аўтары «Вялесавай

кнігі» — самай старажытнай пісьмовай крыніцы ўсходніх славян, якая нам сёння вядомая.

Гаворачы аб паходжанні ўсходнеславянскіх плямёнаў, яны распавялі гісторыю трох дачок скіфскага правадыра Багуміра.

> У даўнія часы жыў Багумір, муж Славы, і
> меў трох дачок і дваіх сыноў.
>
> *Яны прывялі скіфаў у стэпы*
>
> і там жылі, харчуючыся травамі.

Багумір быў набожным чалавекам, а жонка яго, Славуня, мабыць, нават язычніцкай жрыцай, таму што, радок з дошчачкі 9-А «Вялесавай кнігі», які чытаецца як «Славуне про оватвряше потребы» можна зразумець не толькі як «Славуня клапацілася пра іхнія (сямейных сваіх. — Аўт.) патрэбы», але і «Славуня ім (багам. — Аўт.) рабіла трэбы».

> І сказаў аднойчы Багумір ў сядміцу: «Мы
> мусім дачок нашых аддаць (замуж) і
> пабачыць ўнукаў».

Але спосаб, які скіфскі правадыр выбраў дзеля ажыццяўлення сваёй мэты, быў надта незвычайным. Магчыма, яго падказалі багі, улагодненыя ахвярамі Славуні. Багумір выехаў у чыстае поле, дзе самотна стаяў Дуб (пэўна, свяшчэнны). Першыя стрэчаныя ім маладзёны і мусілі стаць яго зяцямі.

> І пабачыў вечарам траіх мужоў на конях, што кіравалі да яго.
> Сказалі яны: «Будзь здаровы! Што шукаеш?»
> Распаведаў ім Багумір пра сум свой.
> Тыя ж адказалі, што самі ў паходзе, каб знайсці жонак.

Невядома, кім былі гэтыя шукальнікі нявест: ці то сыны мясцовага правадыра, ці то нейкія пасланцы Нябёсаў. Імёны ў іх аказаліся дзіўныя: Ранішнік, Паўдзённік і Вячэрнік. Але, можа, былі таямнічыя вершнікі ўсяго толькі блізнятамі, і імёны свае атрымалі па часе іх нараджэння? Як бы там ні было, усе трое сталі зяцямі Багуміравых дачок. Ад шлюбу Дрэвы з Ранішнікам, сцвярджае «Вялесава кніга», пайшлі драўляне, ад шлюбу Палевы з Вячэрнікам — паляне, ад кахання ж Скрэвы і Паўдзённіка — крывічы. Браты ж маладзіц, якіх клікалі Севай і Русам, далі пачатак плямёнам севяран і русаў.

Своеасаблівы працяг гісторыі Багуміра і яго дзяцей маецца і на іншай таблічцы «Вялесавай кнігі» — 22. Тут распавядаецца пра тое, як «муж моцны і багамі ўцямлены» Багумір (Благамір) атрымаў ад самога бога кахання і сямейнага шчасця Ладо (ці, можа, ад багіні Лады) каштоўны рэцэпт прыгатавання сурыны — першага алкагольнага напоя нашых продкаў. Яго рыхтавалі з вады і мёда, доўга трымаючы на сонцы. Магчыма, першая дэгустацыя «дарунка багоў» адбылася, як раз на вяселлі дачок Багуміра, бо на той жа дошчачцы і змешчана пахвала Багуміру:

I вось ён пакінуў пасля сябе роды,
бо багі паклалі пачатак Роду.
I нашы роды — таксама ад тых родаў.

Уласна ж пра сурыну распавядаецца наступнае:

Наша ахвяра — гэта мёд-сур'я,
зроблены на дзевясіле з шалфеем
I на сонцы пакінуты на тры дні,
А потым праз воўну працэжаны.
I будзе ён нашай ахвярай багам правым,
Якія маюцца быць Прабацькамі нашымі. (24-В).
Яна для наталення смагі,
I мы маем ад яе радасць у багах,
Калі радуемся і скачам, падкідаючы вянкі да Сваргі
I спяваем славу багам, што стварылі квасуру...
...I калі іншы раз хтосьці не стрымае сваёй натуры
і скажа вар'яцкае — тое ад Чарнабога.
А іншы атрымае радасць — тое ад Белабога.
Гэтак мы мусім шукаць сяброў і ворагаў... (22)

Ці можа мець гэтая прыгожая гісторыя, падобная да казкі, пад сабою рэальную аснову? Паспрабуем выказаць здагадку, што так. Што і сапраўды існаваў нейкі правадыр Багумір, дзеці якога сваімі шлюбамі паклалі аснову розным славянскім плямёнам калісьці вельмі даўно, яшчэ да нашай эры, да прыходу славян на нашы землі.

Тады адразу варта адмовіцца ад сцвярджэння, што Багумір быў скіфам. Можа, невыпадкова Валянцін і Юлія Гнацюкі ў сваім перакладзе замяняюць слова «скіфы» на «скот» (напісанне падобнае — Міралюбаў мог зрабіць апіску). Але ў арыгінале стаіць менавіта «скуфе». Скіфы, сапраўды, некаторы час суседнічалі з праславянамі, славянамі, або тымі і іншымі разам, сапраўды далі ім сваю кроў, бо ніхто не забараняў славянам жаніцца са скіфянкамі, а скіфам браць у жонкі славянак. Але тэорыя паходжання славян ад скіфаў, у якой у пазамінулым стагоддзі гэтак жа, як і ў першай палове XX стагоддзя было

шмат прыхільнікаў, — сёння ўжо прызнаная хібнай. Гэта — два абсалютна розных народы, і таму ўзвядзенне жрацамі, якія склалі «Вялесаву кнігу», героя славянскай старажытнасці — бацькі Багуміра ў скіфы, можна смела назваць міфалагічным. Зрэшты, падобныя ж дзеянні са сваімі патрыярхамі рабілі нашы продкі і ў пазнейшыя часы, прыпісваючы ім «іншаземнае» або «іншапляменнае» паходжанне. Успомнім хоць бы, як называлі варагамі летапісцы кіеўскіх князёў, як продкам Вялікіх князёў Літоўскіх беларускія і літоўскія храністы называлі рымляніна Палямона (здаецца, абсалютна міфалагічнага персанажа).

Такім чынам, Багумір не скіф, а хутчэй за ўсё, праславянін. Аб гэтым гаворыць і яго імя. У дачыненні ж да яго дачок і сыноў можна сцвярджаць, што тыя, хто пераказваў іх гісторыю ў «Вялесавай кнізе», іх сапраўдных імёнаў не ведалі, або ж наўмысна ўтварылі іх ад назваў тых плямёнаў, якія маглі б лічыць іх сваімі прамаці і прабацькамі. Нам добра вядома яшчэ з часоў летапісца Нестара, што саманазвы «драўляне» і «паляне» паходзяць ад характару мясцовасці, якую дадзеныя плямёны засялілі, прыйшоўшы з земляў Заходняй Еўропы ў нашы. Драўляне пасяліліся «в деревах», гэта значыць, у густых лясах, паляне — у чыстых палях Прыдняпроўя. Наконт северан таксама ўсё зразумела — яны жылі паўночней за іншыя ўсходнеславянскія плямёны. Больш складаная справа з русамі і крывічамі. Назва «русы», сапраўды, можа быць вытворнай ад імя ўласнага. У славянскіх летапісах і візантыйскіх крыніцах часам сустракаецца імя Рус, і гэта не адзін і той жа чалавек, а розныя. Значыць, імя такое было ў славянскім асяроддзі даволі папулярным. Племя русаў магло атрымаць сваю назву і ад колеру валасоў, хоць мы, прызнаемся, у гэта менш верым, бо сярод славян вельмі многія былі русявымі, і асаблівасцю аднаго нейкага племені гэта не з'ўлялася. Даследчыкамі вылучаецца яшчэ адна версія: русы менаваліся русамі (росамі) па назве ракі Рось, на якой асела гэтае племя, прыйшоўшы з захаду на нашы тэрыторыі.

Наконт жа племені крывічаў — самага вялікага з тых, з якіх склалася беларуская нацыя, то аб паходжанні яго назвы існуе шмат паданняў. Паводле аднаго з іх, племя атрымала назву ад слова «крыве-крывейта», так зваў сябе галоўны язычніцкі жрэц у славян і балтаў. У перакладзе з балцкага гэта значыла: «вышэйшы над вышэйшымі». Паводле іншага падання, назва «крывічы» аднаго кораня са словам «кроў»,таму яго можна расшыфраваць як «людзі адной крыві», аднаго роду. Некаторыя лічаць, што назва племені пайшла ад балцкага «Krievi» — балота.

Любое з гэтых тлумачэнняў мае больш шанцаў апынуцца правільным, чым прыведзеная «Вялесавай кнігай» версія са Скрэвай.

Прынцыповая магчымасць таго, што гісторыя жаніцьбы на Багумiравых дочках трох братоў-блізнят — не выдумка, падмацоўваецца тым, што славянскі эпас і, у прыватнасці, легенды, песні, быліны, сказы, паданні, казкі ўсходніх славян, мноства раз паўтарае гэты сюжэт, злёгку трансфармуючы яго і відазмяняючы. Не змяняецца колькасць блізнят, іх імёны, авантурны характар іх падарожжа і факт жаніцьбы на трох сёстрах. Выдатна ведаючы, як доўга захоўваецца ў народзе памяць аб кіраўніках і героях, што ўразілі ўяўленне сучаснікаў якім-небудзь эпізодам або шэрагам эпізодаў сваёй біяграфіі (напрыклад — быліны пра князя Уладзіміра Чырвонае Сонейка, Іллю Мурамца, Дабрыню, народныя песні аб Еўпаціі Калаўраце, Аўдоцці Разаначцы, Марусі Багуслаўцы, атамане Кудзеяры, Сценьцы Разіне, легенды пра «Чорную даму» Барбару Радзівіл і караля Жыгімонта Аўгуста, салдацкія казкі пра Пятра Першага, Кацярыну Вялікую, Суворава і Кутузава і г. д.), мае сэнс казаць пра рэальнасць трох братоў-блізнят.

А гэта значыць, што ўяўны, на першы погляд цалкам міфалагічны, урывак тэксту з «Вялесавай кнігі» можа лічыцца і часткай сапраўднай гісторыі ўсходніх славян, смутным успамінам аб вельмі далёкіх часах.

## НЯЎРЫДА — КРАІНА ВАЎКАЛАКАЎ

Сярод таямніц, якія нібыта густым вэлюмам ахутваюць нашу гісторыю, адна з самых вялікіх — Няўрыда, загадкавая краіна ведзьмакоў і пярэваратняў. Мы даведаліся пра яе дзякуючы таму ж Герадоту. Гэты грэк пісаў: «Неўры маюць скіфскія звычаі. Атрымалася гэтак, што за адно пакаленне перад паходам Дарыя (які адбыўся ў 513 годзе да н. э. — Аўт.) яны пакінулі сваю краіну з-за змей. Справа ў тым, што шмат змей з'явілася ў іх краіне, а яшчэ больш напаўзло да іх зверху з пустэчаў. Неўры ж, выціснутыя імі, пасяліліся разам з будзінамі, пакінуўшы сваю зямлю. Гэтыя людзі, напэўна, чараўнікі. І скіфы, і эліны, што жывуць у Скіфіі, распавядаюць, што аднойчы ў год кожны неўр становіцца на некалькі дзён ваўком, а потым зноў прымае чалавечае аблічча. Я не веру гэтым аповедам, але так яны гавораць, і аповеды сведчаць клятваю».

Герадот, верны свайму правілу: я абавязаны перадаць тое, што гавораць, але не абавязаны ўсяму верыць, — запісаў гэтыя звесткі аб неўрах. А разгадку таямніцы пакінуў сваім паслядоўнікам. З таго

часу, калі «бацька гісторыі» ствараў сваю шматтомную працу, прайшло ўжо амаль дзве з паловай тысячы гадоў, аднак аб неўрах і іх краіне вядома не нашмат больш, чым тады. Нават месцазнаходжанне Няўрыды дагэтуль канчаткова не вызначана. Герадот пісаў, што жывуць неўры паўночней скіфаў-аратаяў. Але дзе дакладна?

Большасць сучасных даследчыкаў рассяляюць іх на беларускім і ўкраінскім Палессі, адводзячы Няўрыдзе тэрыторыю, якая пачынаецца ў вярхоўях рэк Збруч і Случ і распасціраецца адтуль у поўнача-усходнім кірунку за Прыпяць і Днепр, захопліваючы нізоўі Дзясны, Сожа і Бярэзіны, — менавіта там, дзе жылі плямёны, якія носяць умоўную назву «мілаградцы». На Украіне яны з'явіліся ў VIII-VII стагоддзях да н. э., а на тэрыторыі паўднёвай Беларусі пачалі рассяляцца з IV стагоддзя да нашай эры.

У выніку археалагічных даследаванняў было выяўлена: словы Герадота аб тым, што звычаі ў неўраў скіфскія, не пацвярджаюцца. Ды і не могуць пацвердзіцца, бо ў адрозненне ад скіфаў, што ў большасці сваёй былі стэпавымі качэўнікамі, неўры, якія жылі ў лясной глухмені, займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй. Але не конегадоўляй, а развядзеннем кароў. Прычым, кароў незвычайнай пароды. У фрагменце невядомай працы антычнага філосафа Арыстоцеля, які дайшоў да нас толькі ў пераказе, гаворыцца, што ў краіне неўраў «быкі маюць рогі на плечах». Што ў быкоў у краіне неўраў «рогі і вушы вырастаюць з аднаго месца і звязаныя паміж сабою». Мабыць, гаворка ідзе аб буйвалах, і менавіта гэтых дзіўных жывёлін настойліва «згандлёўвалі» у неўраў візантыйцы, адмыслова дзеля гэтага пранікаючы на іх «торжышчы».

У «Вялесавай кнізе» на дошчачцы 7-Б захавалася згадванне аб гэтым:

> Тады грэкі прыйшлі на «торжышчы» нашы
> і прапанавалі абменьваць нашых кароў на мазі і срэбра,
> якія патрэбны дзецям і жонкам.
> Хутка пачаўся абмен.
> Але як раней, так і пасля
> Грэкі шукалі ў нас слабіну,
> Вышуквалі, як бы гэта ўзяць нас у няволю.

Цяжка вызначыць рэлігійныя погляды неўраў. Яны нам невядомы, аднак можна выказаць здагадку, што пакланяліся неўры свайму родаваму татэму — Ваўку. З палітычнай сістэмай іх грамадства разабрацца значна лягчэй. Бачна, што знаходзіліся яны на той стадыі развіцця, калі родавыя адносіны пачыналі адміраць і пастулова адбывалася вылучэнне магутнай і багатай племяннай вярхушкі. Аднак, да

ўтварэння класаў, а тым больш дзяржавы, ім было яшчэ далёка. Зрэшты, Герадот сцвярджаў, што ў неўраў былі цары. Хутчэй за ўсё гэтым тытулам ён, як і тыя, хто распавядаў яму аб неўрах, называў ваенных правадыроў альбо старэйшын.

А цяпер можна разгледзець і пытанне пра перасяленне неўраў са сваёй радзімы. Што ж гэта былі за «змеі», якія «выжылі» іх з родных мясцін? Большасць даследчыкаў лічыць, што неўраў выцеснілі нейкія іншыя народы, якія або абагаўлялі змей, або мелі ў сваёй назве гукаспалучэнне, якое нагадвае гэтае слова ў грэчаскай мове. А можа, неўры пакінулі радзіму з-за нейкіх прыродных катаклізмаў? Цяжка сказаць...

Вось і ўсё, што вядома аб гэтым таямнічым народзе. Але недаказанасць дазваляе вылучаць самыя неверагодныя гіпотэзы і дае волю меркаванням. Колькі аўтараў прысвяцілі свае творы неўрам і Няўрыдзе! Колькі яркіх, маляўнічых радкоў напісана! З якім непадробным захапленнем апісваюцца гэтая зямля і яе насельнікі! Аднак, мабыць, найбольш паэтычна распавёў аб Няўрыдзе і неўрах, якіх ён, як і шэраг іншых даследчыкаў, лічыць праславянамі, у сваёй працы «Перадгісторыя Русі» сучасны расійскі даследчык В. М. Гобараў. Вось што ён піша: «Няўрыда! Таямнічая краіна першабытных лясоў, непраходных балотаў і сініх азёр. У пачатку другога тысячагоддзя да н. э. (у сваёй працы аўтар прытрымліваецца менавіта такога датавання. — Аўт.) менавіта тут з'явілася адна з найстаражытнейшых, калі не самая першая крыніца славянскага жыцця. Павольна, велічна нясуць свае воды Заходні Буг, Прыпяць, Нарэў, Гарынь, Стыр, Случ, Ясельда, Стаход, Тур'я, Цна, Сцвіга, Лань і яшчэ сотні рэк і рачулак і тысячы ручайкоў. Усіх і не пералічыш. Так жа няспешна цяклі яны і стагоддзі за стагоддзямі ў гэтым некранутым краі.

Некранутым таму, што праславяне, якія жылі тут, быццам зліліся з прыродай, расчыніліся ў ёй. Больш таго — зрадніліся. Нездарма ў рэк Няўрыды такія глыбока славянскія назвы. Для іншаземца тамтэйшая пушча — беспрасветная цемрадзь і непралазны ветралом. Для неўра, жыхара Няўрыды (Валыні і Заходняга Палесся), — родная хата з мноствам сцежак і сцяжынак. І не зблытаныя гэтыя сцяжынкі ў безнадзейны клубок. Кожная з іх вядзе то да невялікага драўлянага граду, то да схаваных сярод вербалозу рачных чаўноў, то да засеянай травой лясной паляны, а то і да мядзведжай бярлогі або ваўчынай нары. То быў сапраўды чароўны край... Іншаземныя гандляры не даходзілі да берагоў Заходняга Буга і Нарэва, застрашаныя чуткамі аб лесунах, вадзяных німфах і лясных пачварах. Нават суседзі неўраў мала што пра іх чулі... У Няўрыдзе людзі і звяры жылі ўперамежку.

Праедзеш паблізу драўлянага града — не зазначыш. Увесь накрыты яловым лапнікам і галінкамі, а вал выкладзены дзірваном. Не град — лясок на ўзгорку, ды і толькі. Хадзілі неўры ў ваўчыных і мядзведжых шкурах, таму самі да іх былі падобныя, ды яшчэ зарослыя густымі барадамі».

Дарэчы, гэты ж аўтар, Гобараў, вылучыў цікавую гіпотэзу аб тым, што вядомы скіфскі цар Арыянта, пра якога гаворыцца ў працы Герадота як пра кіраўніка вялізнага войска, загінуў падчас паходу на неўраў. Паводле Гобарава, магутнае, выдатна ўзброенае скіфскае войска ў пошуках здабычы і рабоў выправілася ў Няўрыду. Бразгаючы зброяй, з гіканнем уварваліся скіфскія коннікі пад зялёныя шаты пушч і... зніклі. Назад у стэп не вярнуўся ніводны ваяр. Заварожаны край нібыта праглынуў іх.

Здараліся падобныя з'явы ў гэтых месцах і пазней. І пасля кожнага з іх землякі чарговых гора-заваёўнікаў прыгадвалі, што амаль усе жыхары Няўрыды — ведзьмакі і пярэваратні. Распавядалі і аб тым, што неўры змагаюцца з ворагамі ў выглядзе ваўкоў. Паданні гэтыя дайшлі нават да нашых часоў. Напрыклад, на Гарадзеншчыне існуе паданне аб сівым ваўку, паводле якога нехта з мясцовых князёў для барацьбы з крыжакамі ператвараўся менавіта ў гэтага драпежніка і ваяроў сваіх ператвараў у ваўкоў.

Ды і самага, мабыць, вядомага з полацкіх князёў, Усяслава Брачыслававіча, што насіў мянушку Чарадзей, таксама лічылі пярэваратнем-ваўкалакам. У гэтым былі ўпэўнены ўсе яго сучаснікі. Нават славуты аўтар «Словы пра паход Ігаравы» распавядаў у сваім несмяротным творы: «Усяслаў-князь людзям суды судзіў, гарадамі князёў надзяляў, а сам уначы ваўком гуляў. З Кіева да пеўняў дасягаў Тмутаракані, вялікаму Хорсу ваўком шлях перабіваў».

Казкі? Народная фантазія? А можа, і не зусім. Можа, сапраўды былі ў неўраў і іх нашчадкаў незвычайныя здольнасці, дзякуючы якім іх лічылі чарадзеямі і ваўкалакамі.

## «ДЗІКІ, АЛЕ МУЖНЫ НАРОД»

Будучыня народа, змушанага па нейкіх прычынах перасяляцца ў іншыя землі, пакінуўшы родныя мясціны, заўсёды вельмі моцна залежала ад таго, якія адносіны складуццаў іх з тымі, на чыей тэрыторыі яны вырашаць пасяліцца. Не быў выключэннем і лёс тых славян, якія прыйшлі з захаду на землі сучаснай Беларусі. Яшчэ да іх пасяліліся тут іх родзічы па прыналежнасці да індаеўрапейскай моўнай сям'і — балты, якія мігравалі, хутчэй за ўсё, з лесастэпавай

зоны цяперашняй Украіны. Адтуль балты накіраваліся на поўнач. Дайшлі да ракі Акі. Але там, натыкнуўшыся на глухія, цёмныя яловыя лясы, звярнулі на захад, на тэрыторыі сучаснай Беларусі. З часам балты засялілі яе ўсю, акрамя самых глухіх, цяжкапраходных раёнаў Палесся, а затым працягнулі свой рух на поўнач, дзе засялілі ўзбярэжжа Балтыкі. А да балтаў на гэтых жа землях жылі угра-фінскія плямёны. Балты частку з іх выцеснілі, іншых з часам асімілявалі. Так што да прыходу славян лівы, аукшайты, жамойты і іншыя балцкія плямёны адчувалі сябе на землях сучаснай Беларусі ўжо гаспадарамі. Займаліся яны ворным земляробствам, жывёлагадоўляй. Палявалі ў навакольных лясах, лавілі ў рэках і азёрах рыбу.

Славяне з'явіліся ў II стагоддзі да н. э. Першыя перасяленцы ўпадабалі палескія балоты. І, магчыма, таму сталі менавацца дрыгавічы (ад старажытна-славянскага «дрыгва» — «балота»).

У «Вялесавай кнізе» на дошчачцы 5-А, знаходзім пра гэта:

За тысячу пяцьсот гадоў да Дзіра
прыйлі продкі нашы да Карпацкіх гор
і там асяліліся і жылі мірна.
Правілі родамі бацькі-родцы,
а старэйшыны родаў былі з ірыян,
Пярун лашчыў іх, бо былі яны з тых,
хто пайшоў ад яго...

Старажытныя славяне лічылі, што вялікія жрацы, патрапіўшы пасля смерці ў рай — Ірый, з дазвола багоў могуць ізноў вярнуцца на зямлю ў новым целе, памятаючы ўсё са свайго мінулага жыцця. Ірыяне — старэйшыны родаў, з'яўляліся, на думку аўтараў «Вялесавай кнігі» вось такімі ж асобамі — «ірыянамі», якія былі ля Перуна, і потым вярнуліся да людзей на зямлю.

І гэтак жылі мы пяць соцень гадоў.
А потым пайшлі наўзыход сонца, і дайшлі да Непры
(Дняпра. —Аўт.).
Гэтая рака да мора цячэ,
і на поўначы яе мы селі
і назвалі Непру Прыпяццю, як і бацькі...
(у таблічцы адколата частка фразы. — Аўт.)
Там аселі і пяцьсот гадоў кіраваліся Вечам.

*І былі захаваныя багамі ад шмлтлікіх, званых язенцы...*

Слова «іазенце», якое Гнацюкі перакладаюць, як «язычнікі» у дадзеным кантэксце не можа мець такога значэння, хаця б таму, што

славяне самі былі ў гэтыя часы язычнікамі — у іх было мнагабожжа, і імёны гэтых шматлікіх багоў прыведзены ва ўсіх старажытных помніках пісьменства, у тым ліку і ў самой «Вялесавай кнізе». Прыняць жа версію, паводле якой славяне ранняга дахрысціянскага перыяду, нібыта, ужо называлі сябе праваслаўнымі (Славім Правы) у адрозненні ад іншых — язычнікаў, цяжка. Яна не падмацавана нічым, і з'ўляецца толькі гіпотэзай сучасных даследчыкаў. Таму «іазенце» — без сумнення, назва нейкага племені. І такое племя, сапраўды, мусіла стаць суседзямі славян. У басейне Прыпяці, якраз, жылі яцвягі. І калі ўлічыць, што ў розных тэкстах «Вялесавай кнігі» акрамя слова «язенцы» сустракаецца яшчэ і «язі» — правільнасць здагадкі становіццца відавочнай.

Цяжка сказаць, чаму славяне ўпадабалі для пражывання найбольей багністыя куткі ў новых мясцінах. Можа, з-за таго, што тыя былі амаль не заселеныя, ці то ім яны проста прыйшліся па нораве. Але, мяркуючы па ўсім, іх з'яўленне асаблівай незадаволенасці ў «старажылаў» не выклікала. Прынамсі, знішчыць іх альбо выгнаць ніхто не спрабаваў. Бліжэйшыя суседзі, балты, з племяннога аб'яднання Літва («Вялесава кніга» заве іх «ільмерцамі», мабыць, па назве возера Ільмень, ля якога яны жылі побач з нашчадкамі Славена. — Аўт.) паставіліся да славян цалкам дружалюбна. Іншымі суседзямі дрыгавічаў былі яцвягі, У адрозненні ад Літвы, якая з'яўлялася ўсходнім балцкім племенем, яцвягі былі заходнімі балтамі, сваякамі жамойтаў і прусаў. Жылі яцвягі ў міжрэччы Нёмана і Нарэва, гэта значыць, у паўднёвай частцы цяперашняй тэрыторыі Літвы, на Гарадзеншчыне і Брэстчыне. У склад гэтага саюза плямёнаў уваходзілі ўласна яцвезь, судовы, паляксены і дайновы. Усе яны адрозніваліся сваёй ваяўнічасцю і адвагай.

Рускі гісторык XIX стагоддзя С. М. Салаўёў адзначаў іх смеласць і непакорлівасць, называў яцвягаў «загадкавым народам», пісаў, што «яцвягі ў бітвах ніколі не ўцякалі і не здаваліся ў палон». Не меней высока ацаніў храбрасць яцвягаў і іншы расійскі гісторык таго ж часу М. М. Карамзін: «Гэты народ, які жыў у густых лясах, сілкуючыся рыбнай лоўляй і пчалярствам, больш за ўсё любіў дзікую волю і не жадаў нікому плаціць даніны». У розных месцах сваёй «Гісторыі дзяржавы Расійскай», ён дае яцвягам пахвальныя эпітэты: «дзікі, але мужны народ», «слаўны храбрасцю народ», «выдатна мужны народ», «свавольныя яцвягі», «драпежныя яцвягі».

А храніст Тэўтонскага ордэна Пётр Дусбург у пачатку XIV стагоддзя ў «Хроніцы Прускай зямлі» адзначаў, што судовы «былі самымі высакароднымі з усіх плямёнаў, якія жылі ў Прусіі. Яны пераўзы-

ходзілі ўсіх не толькі высакароднасцю звычаяў і багаццем, але і сваёй магутнасцю».

Любілі, мяркуючы па ўсім, яцвягі павааяваць з суседзямі, парабаваць іх злёгку. Усе мужчыны ў яцвягаў лічылі сябе (і заслужана) ваярамі. Сведчыць аб гэтым, між іншым, пахавальны інвентар. Разам з памерлым мужчынам яцвягі клалі ў магілу дзіду, шчыт, баявыя сякеры, шпоры, крэсіва для здабывання агню, конскі рыштунак. А над ім насыпалі курган з камянёў альбо з камянёў змяшаных напалову з зямлёй. З-за гэтага яцвяжскія курганы археолагі завуць каменнымі. Не меней хараша праводзілі ў свет іншы і жанчын. У іх пахаваннях археолагі знаходзяць шмат дзівосных упрыгожванняў: скроневыя колцы, грыўні, пярсцёнкі, каралі. І жанчынам, і мужчынам клалі ў магілы нажы, ставілі гліняныя пасудзіны з ежай ды пітвом. Відавочна, жылі ў тыя часы яцвягі, не бедна.

Новых, хай сабе і няпрошаных суседзяў, яны доўгі час не чапалі. Некалькі стагоддзяў!!! А затым здарылася штосьці дзіўнае. Вось тэкст адной з дошчачак «Вялесавай кнігі» — 5-Б, які мы даем ваўласным перакладзе:

*Раптам язенцы адхіліліся на поудзень*
*яны не крыўдзілі нас.*
*І так сыйшлі, ведучы. скот і гавяда свае.*
*І весткі аб іх пазналі мы. па птушках,*
*якіх мноства ляцела да іх.*
*І гэта былі каўкі і крумкачы, да ежы якія лятуць.*
*І было ежы ім шмату стэпах тых,*
*куды племя Кастобца пайшло.*
*Яны расчыніліраны шматлікія, і кроўлілі,*
*раптам галовы сякучы воўагам сваім.*
*Ітыя потым станавіліся здабычай крумкачоў.*
*Ісвісталі стрэлыў стэпах,*
*і буры шпацыравалі да паўночы.*
*Небяспечнай для нас была тая сеча вялікая.*
*Язенцы, калі Кастобца разбілі, злыязбеглі,*
*і сталі злодзеямі гавяд нашых.*
*І былі сутычкі такія з імі дзвесце гадоў.*
*Нашы. радовічы прымусілі іх перабегчы. даляхаў.*
*І там яны селі за сто гадоў да Германарыха.*

Сапраўды, частка яцвягаў у пазнейшы час жыла на тэрыторыі сучаснай Польшчы, на Падляшшы. Мяркуючы па прыведзеным вышэй эпізодзе, канфлікт паміж былымі мірнымі суседзямі, які перарос потым у доўгую, расцягнутую на цэлых дзвесце гадоў барацьбу, быў

выкліканы няўдалай спробай часткі яцвяжскага племені перасяліцца кудысьці на поўдзень. Хутчэй за ўсё, у лесастэпавую частку сучаснай Украіны. Параза, нанесеная яцвягам, якіх вёў правадыр Кастобец, мясцовымі жыхарамі, не толькі раззлавала іх, як распавядае «Вялесава кніга», але і значна аслабіла. Тыя з ваяроў, якія змаглі выратавацца ад варожых стрэлаў і мячоў, напэўна пазбавіліся ўсіх сваіх багаццяў. Ім жа пры паспешных уцёках з поля бітвы павінна было быць не да «ската і гавяда». А ў родным племені, якое яны так неабачліва пакінулі, сустрэлі іх, відавочна, не толькі са спачуваннямі ды галашэннямі па загінулых, але і з насмешкамі. Так што для аднаўлення свайго статусу грозных і моцных хлопцаў тым, хто выжыў прыйшлося заняцца рабаваннем суседзяў. Цалкам натуральна і тое, што іх напады выклікалі адказныя дзеянні дрыгавічоў. Так і разгарэлася вайна. Узаемныя крыўды не далі ёй сціхнуць, пакуль мацнейшы супернік не адагнаў больш слабога далей ад сваіх уладанняў.

Аднак, галоўнае ў вышэйпрыведзеным урыўку нават не тое, што ён тлумачыць прычыны вайны, хай сабе і з пункта погляду пераможцаў, а ў тым, што дзякуючы яму з невядомасці вяртаецца да нас яшчэ адно імя. Імя правадыра, які жыў у I стагоддзі пасля Нараджэння Хрыстова. У хроніках і летапісах яцвяжскія імёны наогул сустракаюцца вельмі рэдка. А тыя нешматлікія шчасліўцы — пераважна яцвяжскія правадыры, — якія ўдастоіліся ўвагі іншаплямённых грамацеяў, жылі і дзейнічалі ў значна пазнейшыя часы.

Сутыкненні яцвягаў і славян, паміж тым, працягваліся і ў далейшым. Так у самым пачатку V стагоддзя яцвягі даведаліся пра новых прышэльцаў, якія з'явіліся з захаду на тэрыторыях сучаснай Валыні. Высвятлілася, што гэта — частка славян, якія адкалоліся ад вялікага племені перасяленцаў, кіраваных старым Орыем і трыма яго сынамі Кіем, Шчэкам і Харывам. На чале іх стаў правадыр Кісек, цёзка сына Венда-Калаксая.

Цяністыя букавыя лясы, хуткія рэкі, звонкія ручайкі, шырокія палі з высокай сакавітай травой настолькі спадабаліся славянскаму правадыру і яго супляменнікам, што яны вырашылі застацца у гэтым цудоуным месцы назаўжды. Пабудавалі драўляны град, даўшы яму імя Галынь, бо ў наваколлях была «голая» — незаселеная яшчэ нікім — зямля; утварылі наўкруг яго паселішча; разаралі зямлю. Але бяда не прымусіла сябе чакаць. Дошчачка 35-Б з «Вялесавай кнігі» распавядае:

> І вось прыйшлі язі ў край тот і пачалі забіраць скаціну.
> Кіська напаў на іх і спярша пабіў іх,
> а потым яго самога пабілі,

і людзі сталі кормам гракам,
і тыя клявалі вочы людзей, павержаных мячамі.

Конныя яцвягі налятаалі на славян то ў адным месцы, то ў іншым. Яны палілі паселішчы, забівалі жыхароў, зганялі статкі. У галынцаў бракавала сіл змагацца з ворагамі. І тады на дапамогу да былых супляменнікаў прыйшоў Орый.

І сказаў Орый-бацька, што мёртвыя чорныя ад гракоў,
Якія граюць ад радасці, атрымаўшы корм.
І вось агіда ўвайшла ў сэрца Орыева і заклікаў ён родзічаў:
«Падтрымайце Кісека і людзей яго!»
І тыя ўзяліся сядлаць коней і наляцелі на язь,
і білі іх, пакуль не разбілі зусім.

Так толькі аб'яднанымі высілкамі змаглі справіцца пасяленцы з ваяўнічымі суседзямі.

Наступнае згадванне аб яцвягах мы знаходзім ужо на старонках старажытнарускіх летапісаў, у сувязі з паходам кіеўскага князя Ігара Рурыкавіча на Царград. Як вядома, ён двойчы хадзіў на Візантыю. У першы раз грэкі разбілі яго флот ушчэнт, большасць ладзей русінаў была спалена так званым «грэцкім агнём». У другім паходзе Ігар гак і не дабраўся да Царграда, таму што прыняў прапанову грэкаў аб міры і склаў з імі ў 944 годзе адпаведную дамову. У складзе рускага пасольства, якое прыбыло ў Візантыю для падпісання гэтай вельмі выгаднай для Ігара і яго саюзнікаў дамовы, згадваецца і «яцвяг Гунараў». Ці наўрад ён быў дыпламатам кіеўскага князя. Хутчэй можна выказаць здагадку, што гэты самы Гунараў узначальваў атрад сваіх аднапляменнікаў, якія ўдзельнічалі ў паходзе. І, мяркуючы па ўсім, немалы гэта быў атрад, калі яго правадыр быў уключаны ў склад пасольства. Але «сяброўства» яцвягаў з кіеўскімі князямі было нядоўгім. І ўжо ў 983 годзе князь Уладзімір ідзе ў паход на яцвяжскія землі. Летапісец піша: «Хадзіў Уладзімір на яцвягі і, перамогшы іх, скарыўшы зямлю сабе, вярнуўся ў Кіеў і чыніў ахвяры кумірам з людзьмі сваімі, прыносячы ім ад людзей палонных і скаціны мноства». Аднак, нягледзячы на гэта, яцвягі не скарыліся. І сын Уладзіміра, Яраслаў Мудры, яшчэ двойчы, у 1038 і 1040 гадах хадзіў паходамі ў яцвяжскія землі.

Неаднойчы і пазней даводзілася змагацца яцвягам, адстойваючы сваю волю. Беларускі даследчык Уладзімір Свяржынскі падрабязна апісвае гэта: «З пачатку XII стагоддзя, пашыраючы сваю ўладу на поўнач, пачалі войны з яцвягамі князі Валыні і Галіча; у 1112 годзе на яцвягаў ідзе Яраслаў, у 1196 годзе яго сын Раман, а ў 1227-1256 гадах асабліва настойліва заваяваць яцвягаў імкнуўся сын апошняга,

Даніла. Ён у 1227 годзе ўжо біў яцвягаў пад Бярэсцем (Брэст. — Аўт.), у 1251 годзе выступіў супраць іх з Драгічына. У Іпацьеўскім летапісе сцвярджаецца, што і ў 1251 годзе яцвягі і войскі Данілы аказвалі дапамогу жмудскаму князю Вікінту, калі той напаў на замак Міндоўга (князь Наваградскі, потым кароль Літвы і Беларусі, XIII ст.) Варуту. Значыць, амаль у тым жа годзе адна частка яцвягаў ваявала з галіцка-валынскім князем, а іншая — разам з тым жа войскам Данілы дапамагала Вікінту.

Кіраўнік Польшчы Баляслаў IV (правіў у 1146-1178 гадах) каля 1166 года спрабаваў заваяваць паляксенаў, якіх летапісец назваў яшчэ і гятамі. Іншы кіраўнік Польшчы — Казімір Справядлівы — ў 1192 годзе быццам бы зноў спрабаваў заваяваць паляксенаў, якія, па летапісанні, з'яўляліся родзічамі прусаў. Асабліва ўскладнілася становішча яцвягаў пасля таго, як на тэрыторыі Польшчы па запрашэнні Конрада Мазавецкага пасяліўся Тэўтонскі ордэн. Рыцары-манахі агнём і мячом неслі «брудным язычнікам» святло «сапраўднай веры». Даволі хутка яны разграмілі і заваявалі бліжэйшых родзічаў яцвягаў — прусаў. Апошняя спроба прусаў абараніць сваю волю і само існаванне — паўстанне, якое ўзначаліў Геркус Мантус (дарэчы, яцвягі спрабавалі падтрымаць гэтае паўстанне) — скончылася няўдачай. Прусы патрывалі паразу і зніклі як народ. А потым прыйшла чарга яцвягаў.

У іх да гэтага часу якраз скончыўся пераход ад першабытнага ладу да феадальнага. Адзін з яцвяжскіх правадыроў, Скімантас, разумеючы, што зладзіць з тэўтонскай агрэсіяй можна толькі сумеснымі высілкамі, спрабаваў аб'яднаць усе яцвяжскія плямёны. Але было ўжо позна. У 1254 годзе галіцка-валынскі князь Даніла, мазавецкі князь Зямовіт і магістр Тэўтонскага ордэна склалі паміж сабою саюз, накіраваны супраць яцвягаў. Яны дамовіліся, што дзве траціны заваяваных земляў адыдуць Ордэну, астатнія падзеляць паміж сабою Мазовія і Галіцка-Валынскае княства. Пачалася жорсткая барацьба. У 1256 годзе князь Даніла разбіў аб'яднанае яцвяжскае войска ў бітве пры Прывішчы. А ў 1264 годзе яцвяжскія землі спусташалі войскі польскага караля Баляслава V Сарамлівага. У кровапралітнай бітве з палякамі 22 чэрвеня 1264 года загінуў аднадумец Скімантаса, адзін з найбольш уплывовых яцвяжскіх правадыроў, імя якога неаднаразова згадвалася ў еўрапейскіх хроніках, Комат. Праўда, калі верыць польскаму храністу Мацею Стрыйкоўскаму, вялікай радасці перамога палякам не прынесла. Ён распавядае, што як раз пасля бітвы над зямлёй праляцела камета. А потым у Польшчы пачаўся мор. Сярод насельніцтва хадзілі чуткі, што камета, якая выклікала эпідэмію, была

карай Божай за знішчэнне яцвягаў, бо словы «камета» і «Комат» гучаць падобна.

Цяжкое паражэнне яцвягаў выкарысталі тэўтонскія рыцары для рашучых дзеянняў. У перыяд з 1278 па 1283 год яны знішчылі ўсе адміністратыўныя і гаспадарчыя яцвяжскія цэнтры. Перабілі і сагналі ў палон вялікую частку жыхароў. Тыя, хто выжыў у гэтай разні, альбо здолелі неяк адсядзецца ў лясных гушчарах, альбо сыйшлі на ўсход, на землі Беларусі і Літвы. Пазней у паўднёвай і заходняй частках былых яцвяжскіх уладанняу пасяліліся палякі, на пауночных — літоўцы, на ўсходніх — беларусы. А апошнія ацалелыя яцвягі паступова зліліся з гэтымі народамі. Праўда, сям-там яны, нават згубіўшы сваю мову, доўга яшчэ памяталі сваё паходжанне і працягвалі зваць сябе яцвягамі. Па словах С. М. Салаўёва, рэшткі гэтага народа яшчэ ў XIX стагоддзі заставаліся на Скідзельшчыне. Ён нават дае апісанне сучаснікаў-яцвягаў:

«Яны рэзка адрозніваюцца ад беларусаў і літоўцаў асмуглым тварам, чорнай вопраткай, норавамі і звычаямі, хоць усе ўжо гаворацьпа-беларуску з літоўскай вымовай». Пацвярджаюць гэтую інфармацыю дадзеныя Цэнтральнага статыстычнага камітэта Расіі за 1857 год. У іх гаворыцца, што 30927 жыхароў Гарадзенскай губерні лічаць сябе яцвягамі. Зрэшты, з тых часоў прайшло больш ста гадоў. Па землях Беларусі пракацілася столькі войнаў, адбылося столькі палітычных і сацыяльных катаклізмаў, што шукаць сляды гэтага народа, відавочна, ужо бескарысна. І толькі як памяць аб ваяўнічым, свабодалюбным племені яцвягаў засталіся на зямлі нашай вёскі, шматлікія Яцвягі ды Яцвяжкі.

## ВАНДРАВАННЕ АПОСТАЛА

Жыццё поўнае стэрэатыпаў, і самыя небяспечныя з іх — стэрэатыпы мыслення. Гістарычную крыніцу, аднойчы прызнаную пэўнай, цяжка аспрэчыць. І гэтак жа абвешчаны калісьці аўтарытэтнымі даследчыкамі сумнеўным летапісны або хранікальны факт цяжка паддаецца рэабілітацыі. Адным з найбольш яркіх прыкладаў дзеяння стэрэатыпу мыслення з'яўляецца гісторыя вандравання ў землях усходніх славян апостала Андрэя Першазваннага.

Калі не падвяргаць сумненню той факт, што апостал Андрэй — рэальная гістарычная асоба, а не міфалагічны персанаж, то, вывучаючы яго «Жыціе», а таксама супастаўляючы з ім дадзеныя, запазычаныя з прац антычных і раннесярэднявечных аўтараў, можна сцвярджаць, што ён адзін з самых адданых і паслядоўных вучняў

Хрыста. Пасля смерці Настаўніка прапаведаваў Яго Запаветы на берагах Чорнага мора ў Віфініі, Фракіі, скіфскіх і сармацкіх землях, у антычных гарадах Паўночнага Прычарнамор'я, у Іберыі, на тэрыторыі сучаснай Абхазіі. У крыніцах існуюць некаторыя разыходжанні ў пазначэнні маршруту святога Андрэя, у пераліку краін, якія ён наведаў і народаў, якім ён прапаведаваў. Але ніводны са старажытных аўтараў, што прыгадваюць гэты перыяд жыцця святога апостала, не сумняваецца, што ён наведаў Скіфію, якую ўсе яны змяшчаюць у Паўночным Прычарнамор'і.

Так знакаміты Арыген, які жыў у III стагоддзі, піша: «Апосталы і вучні Госпада і Ратавальніка нашага, рассеяўшыся па сусвеце, прапаведавалі Евангелле, і менавіта: Фама, як захавалася да нас паданне, атрымаў ва ўдзел Парфію, Андрэй — Скіфію, Іаану дасталася Азія...»

Яго сучаснік, біскуп Партуенскі Іпаліт сцвярджае: «Андрэй, пасля таго, як прапаведаваў скіфам і фракійцам, патрываў крыжавую смерць у Патрасе Ахейскім, быўшы раскрыжаваны на дрэве аліўкавым, дзе і пахаваны».

Сведчанні маюць велізарную каштоўнасць, бо настаўнікі кожнага з гэтых аўтараў былі добра знаёмы з людзьмі, якія з'яўляліся ў маладосці вучнямі саміх апосталаў.

У IV стагоддзі пра святога апостала Андрэя Першазваннага пісалі больш дэталёва. Вось словы біскупа Цірскага Дарафея: «Андрэй, брат апостала Пятра, працёк усю Віфінію, усю Фракію і скіфаў, прапаведуючы Евангелле Госпада; потым дасягнуў вялікага горада Севаста, дзе знаходзіцца крэпасць Аспар і рака Фазіс». У іншым варыянце працы гэтага аўтара геаграфія падарожжаў Андрэя яшчэ больш падрабязная — «...працёк усю прыморскую краіну Віфініі, Понта і Фракіі, і скіфаў».

Мяркуючы па гэтых выказваннях, апостал пачаў сваё падарожжа на паўднёвым узбярэжжы Чорнага мора, затым прапаведаваў на заходнім еўрапейскім узбярэжжы, потым у паўночным прычарнамор'і і скончыў на ўсходнім, дзесьці ў раёне сучаснай Абхазіі.

Калі дэталёва разгледзець усе прыведзеныя цытаты, то можна адразу зразумець, што ў іх пералічаны далёка не ўсе землі, дзе бываў святы Андрэй і не ўсе народы, якім ён прапаведаваў хрысціянства. Цалкам магчыма, што падчас сваіх падарожжаў святы Андрэй аддаляўся ад марскога ўзбярэжжа на вялікія адлегласці. Ён быў, у рэшце рэшт, не турыстам, перад якім пастаўлена задача прайсці дадзены маршрут за вызначаны час, ды яшчэ зрабіць адзнакі на кожным этапе. І не экскурсантам, якія змушаны разам са ўсёй групай прытрым-

лівацца, быццам прывязаны, экскурсавода. Апостал выбіраў кірунак сам.

Да таго ж, судзячы па тэкстах «Жыція» і «Новага Запавету», ён быў вельмі дапытлівым чалавекам. Так што цалкам мог накіравацца на караблі ўверх па магутнай мнагаводнай рацэ, якая ўпадае ў Чорнае мора, і пра якую яму распавядалі грэкі, што жылі ў Корсуні. Прынамсі, рускі летапісец Нестар сцвярджае, што такое плаванне было. Трэба адразу сказаць, што паданні аб тым, як святы апостал Андрэй Першазванны прапаведаваў на берагах Дняпра, хадзілі ў народзе яшчэ і да Нестара. І на іх ён і спасылаецца. Хоць, магчыма, былі пад рукой у Нестара і якія-небудзь пісьмовыя сведчанні, што не дайшлі да нас.

І вось жа парадокс! Літаральна ўсе расійскія даследчыкі пачынаючы з XVIII стагоддзя — часу, калі ў Расіі пачалося паглыбленае і ўважлівае вывучэнне гісторыі сваёй бацькаўшчыны, а значыць, і гісторыі ўсіх усходнеславянскіх народаў, называюць Нестараву «Аповесць мінулых гадоў» адной з самых аўтарытэтных крыніц. Усе новыя, сучасныя пошукі і гіпотэзы ў дачыненні да тых часоў, пра якія пісаў услаўлены кіеўскі летапісец, супастаўляюцца з тэкстам яго твора. Даследчыкі давяраюць сумленню Нестара, яго праўдзівасці адносна тых падзей, якія тычацца перыяду, што пачынаецца кіраваннем Аскольда і Дзіра. Але як толькі справа даходзіць да больш ранніх часоў, тут ужо яны катэгарычна адмаўляюцца прызнаваць пэўнымі тыя звесткі, якія паведамляе аўтар «Аповесці мінулых гадоў», аб'яўляючы іх гістарычнымі легендамі.

У першую чаргу гэта датычыць менавіта аповеда пра святога Андрэя. Тым не менш, сам летапісец пісаў аб падарожжах апостала са ўсёй сур'ёзнасцю. Дык, можа, перад тым, як адкідаць гэты аповед, абвяшчаючы яго няпэўным, варта ўсё ж разгледзець магчымасць таго, што Нестар заставаўся праўдзівым і тут. Тым больш, што шлях апостала Андрэя, паводле Нестара, праходзіў і па землях сучаснай Беларусі.

Такім чынам, летапісец распавядае: «Калі Андрэй вучыў у Сінопе і прыбыў у Корсунь, дазнаўся ён, што недалёка ад Корсуні вусце Дняпроўскае, і паплыў ён у вусце Дняпроўскае, і адтуль накіраваўся ўверх па Дняпры. І здарылася так, што ён прыйшоў і стаў пад горамі на беразе. І раніцай узняўся і сказаў вучням, якія былі з ім: "Ці бачыце горы гэтыя? На гэтых горах заззяе добрадаць Божая, будзе горад вялікі, і ўзвядзе Бог шмат цэркваў". І ўзышоўшы на горы гэтыя, добраславіў іх і паставіў крыж, і памаліўся Богу, і сыйшоў з гор гэтых, дзе пасля будзе Кіеў, і пайшоў уверх па Дняпры. І прыйшоў да славян,

дзе цяпер стаіць Ноўгарад, і ўбачыў, якія жывуць там людзі — які іх звычай, і як мыюцца і сцябаюцца, і адправіўся ў краіну варагаў...»

Маршрут, па якім рухаўся апостал, атрымаў пазней шырокую вядомасць як «шлях з варагаўу грэкі». Зразумела, што па ім можна было дабірацца і «з грэк у варагі». Праўда, здзяйсняць гэта было значна цяжэй. Адна справа —ісці ўніз па плыні ракі і зусім іншая — падымацца супраць плыні. Папакутуеш на вёслах, пакуль даграбеш ад вусця Дняпра і амаль да яго вытокаў. Ды і там адпачынку не прадбачыцца. Бо трэба цягнуць карабель на поцягу да ракі Ловаць. Затое пасля будзе ўжо лягчэй — дабрацца па плыні да возера Ільмень і, лічы, на месцы.

Зрэшты, нашы землякі, аўтары «Магілёўскай хронікі», сцвярджаюць, што пакутаваць-надрывацца на поцягу экіпажу карабля не давялося, бо апостал Андрэй «...калі ў самым вярхоўі Дняпра не змог плыць ладдзёю, перайшоў у возера (Ільмень. — Аўт.), а адтуль накіраваўся да Вялікага Ноўгарада».

Калі вандроўнік сапраўды наважыўся на пешае падарожжа, то цалкам дапушчальна сцверджанне даследчыка В. І. Дземіна, пра тое, што «...Андрэй Першазванны дайшоў з апостальскай пропаведдзю да паўночных, гіпербарэйскіх межаў зямлі — да святога Валаамскага архіпелага».

Не ведаем, дзе знайшоў гэты сучасны расійскі гісторык такі варыянт. Хутчэй за ўсё, запісаў яго як паданне падчас адной са сваіх экспедыцый за Палярным кругам. Як бы там ні было, але вельмі хочацца верыць, што ўсё гэтак і здарылася.

Здавалася б, у Нестара ў яго аповедзе няма ніводнага слова пра Беларусь і прыгадваюцца толькі месцы, дзе зараз Кіеў ды Ноўгарад. Аднак, не трэба забываць, што Днепр у сваім руху да мора перасякае і землі сучаснай Беларусі. Так што абмінуць іх апостал ніяк не мог. А значыць, і на бераг выходзіў, і з мясцовымі жыхарамі сустракаўся, прапаведуючы ім Слова Гасподне. Цяпер, на жаль, немагчыма ўжо пазнаць, дзе менавіта Андрэй спыняўся і з кім сустракаўся. Але аўтары «Магілёўскай хронікі» пры пераказванні гісторыі яго вандравання дадаюць: «Не абыйшло таксама добраславенне весляра святога апостала Андрэя і горы, дзе зараз стаіць Магілёў».

Што гэта? Патрыятызм? Жаданне ўзвялічыць родны горад? А можа, меліся нейкія пісьмовыя крыніцы, якія пацвярджаюць сказанае? Бо добра вядома, што летапісанне на нашай зямлі існавала. Летапісы вяліся, напрыклад, у Полацку. Адзін з Полацкіх летапісаў яшчэ ў XVIII стагоддзі трымаў у руках рускі гісторык В. Тацішчаў. Без сумнення, ствараліся летапісы і ў Тураве. Не выключана, што манахі-

летапісцы працавалі на карысць нашчадкаў і ў іншых беларускіх гарадах. На жаль, мы амаль усё страцілі. Шмат што загінула, знішчана, нешта, магчыма, ляжыць неапазнанае мёртвым грузам у якім-небудзь замежным архіве. А можа, і апазнанае ў свой час, але прыхаванае кімсьці адмыслова. Хто ведае!

Аднак вернемся да вандравання апостала Андрэя. Падумаем над пытаннем, каго ён мог сустрэць на берагах Дняпра? Каму прапаведаваў Слова Божае? Славянам? Наўрад ці. На тэрыторыі сучаснай Беларусі да гэтага часу жылі толькі дрыгавічы. Ды і тыя схаваліся ў палескіх балотах, ды ў белавежскіх гушчарах. Не прабіліся ў I стагоддзі новай эры яны яшчэ, мяркуючы па ўсім, да Дняпра. Тады балты? Гэта цалкам магчыма. Іх плямёны трывала паселі ў гэтых месцах.

А яшчэ, без сумнення, сустракаліся з апосталам Андрэем угра-фінскія плямёны, якія ў пачатку тысячагоддзя не былі яшчэ канчаткова выцеснены, знішчаны і асіміляваны балтамі.

Насельніцтва зямлі беларускай ужо ў той час было вельмі шматлікім. Так што прапаведаваць святому вучню Хрыста было каму. Толькі вось ці зразумелі яго слухачы-язычнікі?

Адказаць на гэтае пытанне лепш за ўсё словамі аўтара трынаццацітомнай «Гісторыі Рускай Царквы» Мітрапаліта Маскоўскага і Каломенскага Макарыя (Булгакава): «Са слоў нашага летапісца можна меркаваць, што і ва ўнутраных вобласцях нашай Айчыны, вакол Кіева і Ноўгарада, пропаведзь святога Андрэя засталася не зусім бясплоднаю. Праўда, спачатку ў нашым летапісе распавядаецца, што калі святы апостал Андрэй быў ля Кіева, ён узышоў толькі на горы кіеўскія, добраславіў іх і ўмацаваў на адной з іх крыж, робячы прароцтва пра будучы тут вялікі горад і шматлікасць ў ім Божых храмаў, а калі дасягнуў Ноўгарада, то падзівіўся толькі незвычайнаму звычаю мясцовых славян мыцца ў лазнях, і ні слова аб тым, ці вучыў каго ў нас добравеснік, ці займаўся сваёй галоўнай справай — пропаведдзю — альбо толькі падарожнічаў дзеля якой-небудзь іншай мэты. Але далей мы чытаем, што калі ад нас ён паехаў і з'явіўся у Рыме, то першым чынам "спавядаў там хрысціянам, колькіх навучыў і колькіх пабачыў ён у зямлі славянскай".

Зрэшты, не станем спакушаць сябе і прызнаемся, што калі і пакладзены былі святым апосталам Андрэем у землях кіеўскіх і наўгародскіх якія-небудзь пачаткі хрысціянства, то яны існавалі вельмі нядоўга. Грубасць народа, недахоп падрыхтаваных пастыраў і настаўнікаў, ганенні ад язычнікаў, а разам з тым пастаянныя смуты і палітычныя перавароты былі прычынаю таго, што святая вера, як і ў

некаторых іншых народаў, асвечаных самімі апосталамі, на цэлыя стагоддзі падушана была канчаткова. І апостала Андрэя зусім нельга лічыць непасрэдным заснавальнікам Рускай Царквы...»

Калі хоць адзін з айцоў праваслаўнай царквы XIX стагоддзя лічыў, што нават у месцах, дзе пазней паўсталі найбуйнейшыя старажытнарускія культурныя і рэлігійныя цэнтры Кіеў і Ноўгарад, праца апостала Андрэя знікла дарма, то ўжо аб тым, што нешматлікія зярняткі хрысціянства, пасеяныя ім у розумах старажытных насельнікаў беларускай зямлі, на жаль, ніякіх усходаў не далі, сумнявацца не даводзіцца.

Зрэшты, меркаванне духоўнага айца ў дадзеным пытанні цалкам падтрымліваецца меркаваннем свецкага даследчыка мінулага стагоддзя А. Нечваладава, які, на наш погляд, выказаўся больш дакладна і аргументавана: «За межамі Корсуні, у нашай краіне (маецца на ўвазе Расійская імперыя. — Аўт.), пропаведзь святога апостала Андрэя не прынесла прыкметнага плёну; занадта грубымі яшчэ былі нашы норавы, і толькі асобныя людзі маглі ўспрыняць Боскія ісціны Вучэння Хрыста».

## САГА ПРА ВАЛЬДЭМАРА ПОЛАЦКАГА

Так ужо склалася, што старажытную гісторыю Беларусі прынята атаясамліваць з гісторыяй першага ўзніклага на яе тэрыторыі горада — Полацка. А час першага згадвання яго на старонках летапісу — 862 год — лічаць пачаткам існавання стольнага горада Полацкай зямлі. Аднак усім зразумела, што паўстаў ён задоўга да таго, як удастоіўся ўвагі летапісца.

Мы ўжо ведаем, што першыя славяне пасяліліся на поўдні Беларусі яшчэ да нашай эры. Пазней прыйшлі іншыя славянскія плямёны. Яны рассяліліся на землях паўночней ад славян-першапасяленцаў. Адным з гэтых плямёнаў і быў заснаваны Полацк. У «Вялесавай кнізе», на дошчачцы 2-А гаворыцца:

Быў народ, роднасны нам — ільмерцы,
З таго ж кораня паходзіў. Наш народ
Пазней прыйшоўнарускую зямлю
І пасяліўся сярод ільмерцаў.
І былі яны нам браты, падобныя да нас.
І падчас варожасці абаранялі нас ад зла.

У іншым месцы «Вялесавай кнігі», а менавіта, на дошчачцы 8(27) тлумачыцца:

*А вакол нас была жмудзь, а таксама была літва,*

*і яны былі названы намі ільмамі, або ільмерцамі...*

У якім стагоддзі сапраўды паўстаў Полацк цяжка сказаць, але адбыцца гэта павінна было, як стане зразумела далей, не пазней IV стагоддзя нашай эры. Ён стаў племянным цэнтрам той часткі крывічаў, якія засталіся на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Тыя ж іх аднапляменнікі-крывічы, якія працягнулі свой шлях «насустрач сонцу», засялілі землі, размешчаныя на ўсход ад Полаччыны, — заснавалі Смаленск.

З «Вялесавай кнігі» — дошчачка 2-А — мы даведваемся пра тое, якія звычаі былі ў тыя часы ў нашых продкаў:

*Веча мелі, і што рашалася на Вечы, гэтак і было.*
*А чаго не было прынята — не было...*
*Князёў выбіралі ад палюддзя да палюддзя, так і жылі.*

Мяркуючы па ўсім, князь, якога выбіралі на вызначаны час, з'яўляўся своеасаблівым ваяводам таго часу. Першы з такіх князёў-ваяроў, вядомых нам цяпер, — Вальдэмар, які жыў у V стагоддзі. Аб ім распавядае ўнікальная першакрыніца — «Сага пра Тыдрыка Бернскага», запісаная ў некалькіх варыянтах у скандынаўскіх краінах.

Выкажам спачатку кароткі змест гэтай сагі. Першая яе частка прысвечана барацьбе конунга Вількіна і правіцеля Русцыланда (Русі. — Аўт.) Герніта. Пасля шматлікіх кровапралітных бітваў Вількін прывёў свае войска на Русь, завалодаў вялікімі гарадамі Смоландам (Смаленскам. — Аўт.) і Полціскай (Полацкам. — Аўт.). І не спыніўся, пакуль не заехаў Гольмград (Ноўгарад, але верагодна, маецца на ўвазе ўсё ж такі Славенск, горад, які існаваў у тыя часы на месцы Ноўгарада. — Аўт.), што быў галоўным горадам Герніта. Праз некаторы час пасля гэтай падзеі адбыліся перамовы варагуючых правадыроў. Герніт пагадзіўся плаціць пераможцу даніну, але неўзабаве конунг Вількін захварэў і памёр. Герніт, у сваю чаргу, накіраваўся ў землі нябожчыка-супраціўніка з войскам. У выніку землякі Вількіна сталі даннікамі русаў.

Калі Герніт састарэў, ён пасадзіў свайго сына Азантрыкса правіцелем у землі Вількіна, а іншаму сыну Вальдэмару вылучыў месцам сталага пражывання Полацк. У Герніта быў і трэці сын Ілля, народжаны ад наложніцы. Іллю таксама не пакрыўдзілі, аддаўшы маленькі гарадок на поўнач ад Полацка — Герсіку з наваколлем (у некаторых месцах сагі Герсіка ператвараецца раптам у Грэцыю).

З часам Азантрыкс ажаніўся з дачкой аднаго з гунскіх правадыроў, Міліяса, і палічыў, што як яе муж мае права кіраваць гунамі пасля смерці цесця. Аднак пераемнікам Міліяса стаў малады правадыр Атыла. Непаразуменні паміж Азантрыкам і Атылай прывялі да

вайны, у якой больш за ўсіх пацярпеў Вальдэмар Полацкі. Становішча ўскладнялася яшчэ і тым, што Атыле ўдалося выкрасці дачку Азантрыкса, Эрку (па іншых пісьмовых гістарычных крыніцах — Керку), і ажаніцца з ёю. Азантрыкс звярнуўся па дапамогу да брата, і вельмі хутка Атыле данеслі, што Вальдэмар прыйшоў у землі гунаў з вялізным войскам і спусташае іх. У адказ Атыла накіраваўся «у бок гарадоў» Вальдэмара.

Нарэшце два войска сустрэліся, і адбылася бітва, падчас якой саюзнікам Атылы — Тыдрыкам Бернскім — быў узяты ў палон сын Вальдэмара, таксама Тыдрык. Пры спробе ўцёкаў юнак быў забіты. Калі Вальдэмар даведаўся пра гэта, то паслаў «загад па ўсёй зямлі, каб усе сыйшліся да яго, хто можа валодаць шчытом і мае адвагу змагацца». Сабралася вялізнае войска і выступіла ў паход. «Конунг Вальдэмар адважна ідзе наперад і перамагае, і загадвае трубіць у рогі. Паднімалася тады вялікая сеча і шум ад узрушанасці і націску рускіх, і палягло шмат з войска гунаў. Дайшло да таго, што конунг Атыла збег са ўсім сваім войскам, а да таго ён страціў не менш дзесяці сот сваіх людзей».

Але Атыла хутка акрыяў і сабраў новае войска. «Ідзе ён з гэтым войскам на Русь і на Польшчу, і спальвае замкі ўсюды, дзе ён праходзіць. І прыйшоў конунг Атыла да горада, які клічацца Полціскай. Горад гэты так умацаваны, што яны не ведаюць, як яго ўзяць. Была там моцная каменная сцяна, вялікія вежы і шырокія і глыбокія равы, а ў горадзе было вялікае войска для яго абароны. І тыя, хто абараняў горад, мала баяліся войскаў конунга Атылы. І шмат дзён змагаюцца яны (гуны. — Аўт.) з гараджанамі, здзяйсняюць шмат вялікіх спраў, і кожны бок нясе ад іншага вялікія страты».

Калі перавага аказалася на баку абложаных, Тыдрык са сваім войскам аддзяліўся ад Атылы і накіраваўся да іншага горада Вальдэмара — Смаленска. На шосты дзень яго аблогі да сценаў гэтага горада падышоў Вальдэмар з дзесяцітысячным войскам. Завязалася жорсткая бітва, падчас якой Тыдрыку давялося самому пазмагацца з Вальдэмарам. «Тыдрык едзе на яго адважна, і паражае рыцара, які трымаў сцяг, у яго правую руку, а з рукой і сцяг зваліўся на зямлю. Разам з тым ён нанёс смяротны ўдар самому конунгу Вальдэмару». Гэта вырашыла зыход бітвы. А тым часам Атыле ўдалося, нарэшце, узяць Полацк. «І ў гэты дзень гуны ўвайшлі ў горад са ўсім сваім войскам, перабілі шмат людзей і ўзялі здабычу незлічоную, амаль увесь горад зруйнавалі». Падчас далейшых вайсковых дзеянняў загінуў у бітве і старэйшы брат Вальдэмара, Азантрыкс. А малодшы Ілля вы-

мушаны быў аддаць Атыле ў заложніцы дачку, каб гарантаваць сваю паслухмянасць.

На першы погляд, сага гэтая не можа мець нічога агульнага з рэальнымі гістарычнымі падзеямі. Але тут як і з аповедам аб Багуміры, не варта спяшацца з высновамі. Сагі, у адрозненне ад іншых відаў вуснай народнай творчасці, распавядаюць пра падзеі, якія адбываліся ў рэчаіснасці. І калі сюжэт дадзенага твора залішне насычаны фантастычнымі элементамі, то гэта таму, што запісалі сагу толькі праз некалькі стагоддзяў і даволі далека ад месца яе нараджэння. На сапраўдныя падзеі накладзены адбітак легенды аб «Бізуне Божым» Атыле. А таксама адбылося змяшэнне дзеянняў двух людзей, якія жылі ў адным стагоддзі і мелі аднолькавыя імёны — Тэадорыхаў (Тыдрыкаў). Дык ці можна ўзнавіць сапраўдныя падзеі? Ва ўсялякім разе, варта паспрабаваць.

Адкінем адразу ж прочкі ўсе апісанні ўмацаванняў Полацка, бо яны відавочна «спісаныя» спевакамі-сказацелямі з сярэднявечных еўрапейскіх гарадоў. Адмовімся ад прывабнай гіпотэзы, што Атыла разам з заснавальнікам остгоцкай дзяржавы ў Італіі Тэадорыхам Вялікім (Бернскім) сапраўды здзейснілі сумесны паход на Полацк і Смаленск. Біяграфіі гэтых гістарычных асоб занадта добра вядомы, і такое дзеянне іх сучаснікі не пакінулі б без увагі. Да таго ж «Бізун Божы» і Тэадорых Бернскі ні ў якім разе не маглі б дзейнічаць разам, бо ў той час, калі вялікі гун сканаў, будучаму заснавальніку гоцкай дзяржавы было ўсяго два гады.

Якіх толькі гіпотэз з-за гэтага несупадзення ў часе не выказваюць даследчыкі сагі! Дзе толькі не размяшчаюць таямнічы Русцыланд! І на берагах Балтыйскага мора, і на Прыдунаўскіх землях! Апавядальнікі пераблыталі двух гоцкіх правадыроў, якія жылі амаль у адзін час. Між тым, Іярдан у сваёй «Гісторыі готаў» распавядае не толькі аб Тэадорыху Вялікім, які жыў у 452-526 гг., але і аб яго цёзцы, «каралю вестготаў» Тэадорыху, даты жыцця якога 419-451 гг., сучасніку Атылы. Праўда, Іярдан толькі згадвае гэтае імя, не гаворачы амаль нічога аб яго носьбіце.

Цалкам магчыма, што менавіта гэтаму правадыру готаў магла прыйсці ў галаву думка накіравацца ў паход на сваіх усходніх суседзяў. Ажыццявіць гэтае жаданне яму было б значна лягчэй, чым, скажам, таму ж Атыле, бо асноўнай воінскай сілай «Бізуна Божага» з'яўляліся качавыя гуны, не прыдатныя для вайсковых паходаў па непралазных лясах. Праўда, падчас свайго нашэсця Атыла не знішчаў усе плямёны і народы, якія сустракаў на сваім шляху. Не выклікае

сумненняў, што шматлікія з гэтых самых плямёнаў былі залучаны ім у паход на багатую Рымскую імперыю.

Як магутная рака прымае ў сваю бурную плынь шматлікія рачулкі і ручаі, пры гэтым становіцца паўнаводней, так і войска Атылы прымала ў свае шэрагі незлічоных іншапляменнікаў і станавілася ўсё магутней. Цалкам магчыма, што сярод ваяроў, якія далучыліся да яго, былі і нейкія готы. Аднак вядома, што большасць крымскіх готаў адступіла пад націскам гунаў да межаў Рымскай імперыі. Затым яны папрасілі дазволу пасяліцца на яе тэрыторыі. Тых жа прадстаўнікоў земляробчых плямёнаў, якія далучыліся да прышэльцаў з Усходу, відавочна было нядосыць, каб пасланць іх у самастойны паход.

Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць выснову, што кароль Тэадорых дзейнічаў самастойна. Хутчэй за ўсё, гэты самы Тэадорых быў незалежны ад Атылы або якога-небудзь іншага правіцеля. І ён, і яго ваяры выраслі ў еўрапейскіх лясах. Перамяшчэнне па такой мясцовасці асаблівай цяжкасці для іх не складала. А вось жаданне парабаваць усходняга суседа было вялікае. І ужо калі знайшлася законная падстава накшталт барацьбы за зямлю вільцінаў (якіх большасць даследчыкаў атаясамляюць з палабскімі славянамі), то і самі старажытныя германскія багі акажуць заступніцтва!

І сапраўды, мяркуючы па ўсім, спачатку поспех быў на баку готаў. Яны захапілі і разбурылі Полацк, Смаленск. У бітвах з імі загінулі правадыры варожых рацяў. Але поспех на вайне — рэч зменлівая. Мы сёння маем звесткі, што войска Тэадорыха паглыбілася яшчэ далей у непралазныя гушчары на землях крывічаў і знікла. Аб тым, што з ім сталася, у памежных дзяржавах так і не даведаліся. Аднак, чуткі пра лёс войска атрымалі шырокае распаўсюджанне. Вось і ў «Вялесавай кнізе», на дошчачцы 8, распавядаецца пра тое, як

> ...хадзілі готы на поўнач і там зніклі.
> Дытрых павёў іх, і мы пра іх больш нічога не ведаем.

Праўда, сёй-той ўсё ж такі выдатна ведаў разгадку гэтага знікнення. Прынамсі, дасведчаны былі аб лесе зніклага гоцкага войска жемайты (дошчачка 28):

> І вось жмудзь расказала нам пра готаў,
> Якія з Дытрыхам пайшлі на поўнач,

> *А там, у Жмудзі, павярнулі на поўдзень і, пайшоўшы на Рым,*
> *тому бітве паляглі, і ваяры іншыяўзялі іх вялікія трафеі.*
> *Вось гэтак, уеарваўшыся на зямлю чужую,*
> *Аытрых забіты быў Крэхам-ільмам,*
> *тому што готы багам брыдкія, і багі плююць на іх.*

Імя ільма (альбо ільмерца), які кіраваў ваярамі, што прынеслі пагібель войску Дытрыха, у перакладзе са старажытнаславянскага значыць — дзік. Безумоўна, гэта не імя, а мянушка, дадзеная правадыру ільмау крывічамі, пэўна, за лютасць і імклівасць у бойках.

У той жа «Вялесавай кнізе», на дошчачцы 6-Д ёсць яшчэ адзін цікавы ўрывак:

*Быў баярын Гардыня, які біў готаў*
*у лета, праз дзесяць стагоддзяў*
*і тры года ад карпенскага зыходу,*
*калі Трыедорый пайшоў без страху на яго.*

Відавочна, што Трыедорый і Дытрых, згаданыя ў розных таблічках унікальнай кнігі — адна і тая ж асоба. Гэта той, каго мы ўжо ведаем як Тэадорыха-Тыдрыка. Тады ці не азначае гэта, што мы пазналі і сапраўднае славянскае імя конунга Герніта з «Сагі аб Тыдрыке Бернскім»? Не конунг Гольмграда з дзіўным імем Герніт, а баярын Гардыня быў бацькам Вальдэмара Полацкага!

Зразумела, што і іншыя імёны усходнеславянкіх правадыроў, якія былі нязвычнымі для слыха скандынава, сага скажае. Ні Вальдэмарам, ні Азантрыксам сваіх дзяцей славянскія маці назваць не маглі. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што замест Вальдэмар трэба чытаць Уладзімір. Але, мабыць, сапраўднае імя нашага князя гучала і зусім непадобна да таго, якім называлі яго стваральнікі сагі. Бо Вальдэмар (Вольф дэ мар) даслоўна перакладаецца са скандынаўскага як «Волк балотаў». У такім разе гэта можа быць усяго толькі баявая мянушка адважнага і моцнага воіна.

Губляючыся наконт паходжання імя старэйшага брата Вальдэмара, Азантрыкса, аўтары звяртаюцца да імя малодшага, Іллі. Яно — хрысціянскае і таму яўна выбіваецца з кантэкста апавядання, гэтаксама, як і сама постаць «князя Герсікі». Ён не прымае ўдзелу ў вайне, якую вядуць «з готамі і гунамі» яго браты, дзейнічае асобна ад іх. Ды і горад, уладаром якога ён названы ў сазе, — Дзвінская Герсіка — узнік (гэта бясспрэчна даказана беларускмі археолагамі) не раней X стагоддзя. Мы назіраем яўны анахранізм, калі ў адзін твор сказіцель зводзіць герояў якія жылі і дзейнічалі ў роныя часы. Але гэта не значыць, што ў Азантрыкса і Вальдэмара брата Іллі не магло быць. Хрысціяне ў часы Атылы не былі ўжо такой рэдкай з'явай, яны сустракалія нават сярод гунаў, не тое, што сярод славян. Тым больш дзіця, народжанае ад наложніцы, магло мець хрысціянскае імя, калі хрысціянкай была яго маці, прадстаўніца іншага народу. (Можа, назва Грэцыя ўзнікае ў сазе невыпадкова? Можа, гэта — радзіма маці Іллі?) Правіў жа Ілля, безумоўна, не Герсікай, але, можа, таксама ў Падзвінні.

Аднак вернемся да вышэйзгаданых драматычных падзей звязаных з імем гоцкага правадыра Тэадорыха. Памяць аб ім і яго войску надоўга захавалася ў жыхароў тых земляў, дзе яны пралівалі кроў. Праз шмат стагоддзяў пасля гэтай падзеі, у 1204 годзе, аўтар так званага Другога Наўгародскага летапісу, распавядаючы аб захопе крыжакамі Канстанцінопаля, прыгадаў «паганага злога Дэдрыка». У святле гэтых фактаў узнікае думка, што і аўтар «Слова пра паход Ігаравы», згадваў аб гэтых падзеях, калі пісаў пра «гоцкіх паннаў, якія прагнуць помсты за нейкія паразы, панесеныя готамі на Русі.

Магчыма, у чытачоў паўстануць сумненні: ці маглі готы з далёкіх германскіх лясоў дайсці да беларускіх земляў? Адкажам: цалкам маглі. Археалагічныя даследаванні паказалі, што готы ў розныя часы неаднаразова з'яўляліся тут. Нават засноўвалі свае пасяленні. Напрыклад, пры раскопках археалагічнага помніка Брэст-Трышын археолагі ўстанавілі, што мясцовы пахавальны комплекс належыць менавіта готам і пахаванні тут адносяцца прыкладна да 170-270 гадоў нашай эры. А калі былі яны на нашых землях у тыя часы, то цалкам маглі з'явіцца і пазней.

## КІЙ — ГЕРОЙ УСХОДНІХ СЛАВЯН

У цэнтры Кіева стаіць выдатны помнік легендарным заснавальнікам горада — братам-князям Кію, Шчэку, Харыву і іх сястры Лыбедзі.

Нестар-летапісец лічыў, што менавіта ад іх і «пайшла зямля Руская», маючы на ўвазе вядома ж, гісторыю ўсходніх славян. Як родапачынальніка рускага народа паважаюць князя Кія і да нашых дзён у Расіі. Легендай пра Кія пачынаюцца ўсе сучасныя падручнікі па гісторыі Украіны. І толькі ў нацыянальнай гісторыі беларусаў пакуль няма месца Кію.

Бывае гэтак, што дзеянні асобы выходзяць за межы толькі аднаго народа. А Кій быў асобай, вартай шанавання ўсіх усходніх славян. Пацвярджае гэта і аповед аб ім, расказаны Нестарам і дапоўнены наўгародскімі летапісцамі, а таксама запісамі язычніцкіх жрацоў, якія ўвайшлі ў склад «Вялесавай кнігі».

Нам мала вядома аб жыцці Кія да таго, як разам з малодшымі братамі і сястрой на сваёй славутай ладдзі прыплыў ён у тыя мясціны, дзе наканавана было паўстаць гораду, што на стагоддзі захаваў у сваёй назве яго імя. І гэтакжа цяжка сказаць, адкуль яны прыплылі.

Гэта быў час так званага другога вялікага перасялення народаў. Пачаткам з'явы стала перамяшчэнне да паўночна-усходніх межаў

Рымскай імперыі германскіх плямёнаў у II-III стагоддзях нашай эры. У IV стагоддзі з азіяцкіх глыбінь вырваліся гуны і, руйнуючы ўсё на сваім шляху, праз паўночна-чарнаморскія стэпы і Балканы дасягнулі межаў Рымскай імперыі. Магчыма, лавіна готаў, а потым і гунаў, скранула з месца славянскія плямёны, якія насялялі ў гэты час землі Заходняй Еўропы. У V і ў пачатку VI стагоддзя мноства іх з'явілася на поўначы Балканскага паўвострава, які стаў для іх своеасаблівым трамплінам для гіганцкага скачку на поўдзень і ўсход.

«Вялесава кніга» апавядае, што прычынай, з нагоды якой племя Кія змушана было пакінуць зямлю, дзе раней жыло, стала нашэсце гунаў. Аднаго са старэйшын племені клікалі бацька Орый. Яго сынамі і былі Кій, Шчэк і Харыў.

Аднойчы стары Орый сказаў радовічам:
Ідзем з зямлі той, дзе гуны нашых братоў забіваюць,
Гэтыя крыважэрныя звяры
Крадуць нашу скаціну і забіваюць дзяцей. (4-Г)

І пайшло племя «у іншыя землі, дзе цячэ мёд і малако» (4-Г), «дзе сонца ўначы спіць, дзе шмат травы на ўрадлівых лугах, а рэкі рыбы поўныя, і дзе ніхто не памірае...» (9-Б)

Пасведчанні «Вялесавай кнігі», сыны Орыя «былі адважнымі, вадзілі дружыны».

І так яны селі на коней і выправіліся.
За імі — малодшыя дружыны,
скаціна, каровы, павозкі з быкамі, і авечкі.
Ехалі дзеці, старыя, маці, жонкі і хворыя людзі. (4-Г)

Але і на новым месцы, вылучаным правадырамі племені, у гарыстым краі, не наканавана было радовічам абгрунтавацца.

І славяне ўночы абудзіліся
ад вялікага грому і зямлі дрыгацення.
І пачулі, як коні ў гарах іржуць. І, ахопленыя страхам,
сабраліся і пайшлі прэч з селішчаў, а авечак пакінулі.
А раніцай пабачылі разбураныя дамы —
адны зверху, іншыя знізу,
а нейкія ў дыры агромністай зямной,
не засталося ад іх нічога,
быццам бы і не было іх. І сталі тыя славяне беднымі,
і не мелі, чым пракарміцца. (38-А)

Тады племя звярнулася да Орыя, патрабуючы весці іх адсюль у лепшыя месцы. І Орый паслаў сыноў «іншую зямлю прыглядаць». І пайшлі яны «да Непры». А потым, вярнуўшыся, па шляху тым павялі ўсё племя.

Мы можам выказаць здагадку, што шлях племені Кія ляжаў праз цяперашнія беларускія землі. Памяць народная, а дакладней беларускі фальклор, сведчыць пра тое. Шэраг беларускіх паданняў, звязаных з пэўнай мясцовасцю, захаваліся да нашых дзён. І ў некаторых з іх мы сустракаем розгаласы тых падзей, імёны Кія, яго братоў і сястры. Гэта дапамагае прасачыць частку іх шляху. Ён ішоў па Прыпяці, якую ў старажытнасці звалі яшчэ і Трыпяццю, таму што ўпадала ў раку тройчы па пяць рэк.

У Маларыцкім раёне ёсць возера, якое завецца Лукаўскім. Ля возера стаіць вялізны камень-валун, а на ім — адбітак жаночага ступака. Паводле падання, гэта след жанчыны-чарадзейкі па імені Лыбедзь, якая магла хадзіць па вадзе, нібыта па сушы, і выратавала сваіх аднапляменнікаў падчас буры. Адкуль бы такое імя гераіні? У беларускіх паданнях, запісаных у іншых рэгіёнах, яно больш не сустракаецца.

У Пінскім раёне намі было запісана паданне аб трох братах, якія наладзілі спаборніцтва на ладдзях па Прыпяці. Пераможцу павінна была дастацца ў жонкі прыгожая нявеста. Не так цікавая колькасць братоў — тры, як тое, як паданне апісвае іхнія караблі. У старэйшага на носе ладдзі была выява змяінай галавы, у сярэдняга — рыбы, у малодшага — аленя. А якія імёны нашых герояў? Кій на угра-фінскай мове азначае «змей». Нагадаем, што угра-фіны жылі ў гэтых мясцінах да прыходу балтаў і славян, і потым доўгі час суіснавалі разам з імі. І менавіта так маглі перавесці для сябе яны славянскае імя нашага героя. А ўжо па-старaславянску Шчэк азначае «шчупак», Харыў — альбо «бык», альбо «алень».

Яшчэ ніжэй па плыні Прыпяць прымае ў сябе прыток — Пціч, аб якім таксама ёсць паданне. «Дзяўчыну клікалі Пціч, таму што вельмі ўжо зайздросціла яна пералётным птушкам, якія ляцяць па восені ў далёкія землі. Вельмі хацелася Пцічы паглядзець іншыя краіны і народы. Мара яе спраўдзілася: каханы ў ладдзі павёз яе з наседжанага месца ў чужыя землі. А раку, дзе яна сустрэлася з ім, назвалі яе імем».

Тут зноў існуюць ладдзя і дзяўчына з «птушыным» імем. І нават мэта падарожжа — тая ж.

Цікавае паданне запісаў у свой час на Гомельшчыне этнограф У. Скідан. У сяле Звіняцкае Хойніцкага раёна распавялі яму арыгінальную версію гісторыі ўзнікнення Кіева. Быццам бы браты паставілі кій (палку), размяжоўваючы свае ўладанні. Ад таго кія нібыта і паходзіць назва пабудаванага імі потым горада. Што за справа палескай правінцыі да ўкраінскай сталіцы? Як інакш можна растлумачыць гэта, калі не прымаць да ўвагі людскую памяць пра тыя далёкія падзеі, калі

праз усю паўднёвую Беларусь írваліся да сваёй мэты ладдзі Кія і яго супляменнікаў?

Паводле «Вялесавай кнігі», Кій аблюбаваў для свайго племені месца, дзе знаходзіўся ўжо горад, *«у якім жылі слаўныя роды іншыя»* (15-Б) і пасяліўся сярод іх са сваімі радовічамі:

Там мы пасяліліся і вогнішча стварылі Снапу і Дубу,
якія ёсць Сварог, прашчур наш. (15-Б)

Трэба думаць, што племя Орыя і Кія аказалася больш шматлюдным і моцным і заняло ў горадзе дамінуючае становішча. Уладкаваўшыся на новым месцы, Кій умацаваў і перабудаваў горад, даўшы яму новае імя ў свой гонар — Кіеў.

Гэта не супярэчыць «Аповесці мінулых гадоў», дзе сцвярджаецца: «...бо і да той брацці (Кія, Шчэка і Харыва. — Аўт.) былі ўжо паляне, і жылі яны ўсе сваімі родамі на сваіх месцах, і кожны кіраваўся самастойна». «Паляне» тут — не абавязкова пэўнае племя, а людзі, якія жылі «у палях». Потым палянамі сталі звацца, ужо навечна, радовічы Кія.

Аўтар «Наўгародскага летапісу» Іосіф Сказін (XVII ст.) упэўнена называе дату ўзнікнення горада Кіева — 430 год. Да гэтай жа даты схіляюцца аўтары «Магілёўскай хронікі». А «Аповесць мінулых гадоў» удакладняе: «І пабудавалі (трэба думаць, перабудавалі. — Аўт.) горад у гонар старэйшага свайго брата, і назвалі яго Кіеў. Быў вакол града лес і бор вялікі, і лавілі там звяроў».

Калі стары Орый памёр, Кій стаў галавой свайго племені, князем. У першыя ж гады праўлення яму, безумоўна, давялося ваяваць і з суседзямі — яцвягамі і, дарэчы, з іншым, хітрэйшым і больш жорсткім ворагам. Гэта былі готы, ад якіх ужо паспелі пацярпець і полацкі князь Вальдэмар, і жыхары Славенска. На Кіеў, паўднёвы горад, готам было спадручней нападаць, бліжэй. І Кій мусіў вельмі хутка зразумець усю небяспеку становішча. У «Вялесавай кнізе» ёсць згадванне праўтварэнне нейкага саюза, відаць па ўсім, вайсковага, у славян адразу пасля пачатку княжання Кія.

І аб'яднаціся паляне, драўляне, крывічы і ляхі
*у войска рускае, і сталі русамі.* (33)

Мы перакладаем словазлучэнне «на кущу руську» менавіта як «у войска рускае», бо, здаецца, гэта больш правільна, чым «разам з русамі», як перакладаюць Гнацюкі. У дошчачцы 34 ёсць радкі, якія пацвярджаюць тое, што Кію давялося ваяваць з готамі.

І там пачаў ён з готамі біцца
і прагнаў тых людзей прэч. І гэтак наша зямля
раскінулася ад края да края, як Рускалань.
За яе, дадзеную багамі, мы змагаліся з ворагамі

і адваёўвалі сабе.

На жаль, каштоўны ўрывак пра падрабязнаці барацьбы славян у часы Кія з готамі перакласці цяжка — арыгінальны тэкст дошчачкі, якая ў Гнацюкоў мае нумар 36-Б, а ў Асава — I 2б чамусьці значна адрозніваецца. Паводле варыянта Асава атрымліваецца, што супраць готаў русы змагаліся шэсць гадоў, з дапамогай ільмераў перамаглі іх, і дзесяць гоцкіх правадыроў захапілі ў палон. У варыянце Гнацюкоў барацьба з готамі доўжылася «дзясяткі і сотні гадоў». І не дзесяць правадыроў было захоплена, а дзесяць гоцкіх князёў папераменна нападалі на рускія землі.

Як бы там ні было, воінскія перамогі Кія, гледзячы па ўсім, былі значнымі. І гэта ўславіла яго не толькі сярод усходніх славян, але і сярод іншых народаў.

«Аповесць мінулых гадоў» распавядае, што князь Кій быў прыняты з вялікімі ўшанаваннямі візантыйскім базілеўсам, які гаварыў з ім, як з роўным. Летапісы не ўдакладняюць імя гэтага базілеўса. Але калі лічыць, што Кіеў заснаваны ў 430 годзе, то гэта мог быць толькі Валянцініян III, кіраванне якога прыпадае на 444-455 гады. Ен сустракаўся з Кіем, «князем палян, драўлян і крывічаў» у цяжкі для Візантыйскай імперыі час, калі яна вяла няроўную барацьбу з гунамі Атылы. Папярэднік Валянцініяна быў змушаны скласці нявыгадны для сваёй дзяржавы мір з Атылай і плаціць яму даніну. А Валянцініяну гун пагражаў, патрабуючы аддаць за яго замуж сястру базілеўса, Ганорыю, якая, быўшы за распусту сваю кінутая братам у вязніцу, горача жадала волі, хай нават коштам шлюбу з гунам. Сустрэча Валянцініяна і Кія мела сэнс, аб якім мы можам толькі здагадвацца. Магчыма, Кіеву дружыну базілеўс прыняў на службу і даў пэўнае даручэнне. Ці не пасля сустрэчы ў Царградзе Кій павёў сваіх людзей да Дуная? Браты Шчэк і Харыў са сваімі ваярамі былі тут жа.

Зрэшты, ніякіх дзеянняў супраць Атылы, якіх, верагодна, чакаў ад славян Валянцініян, яны не распачалі. Але Кій, як сцвярджае Нестар, «аблюбаваў месца і пабудаваў гарадок невялікі, і хацеў сесці ў ім са сваім родам, ды не далі яму тыя, хто жылі навокал». Цікава апісвае гэты эпізод у сваёй кнізе, прысвечанай сястры Кія, Шчэка і Харыва, Лыбедзі, сучасны рускі пісьменнік-даследчык Андрэй Багданаў: «Сапраўды, добра было на Дунаі. Нездарма шматлікія народы жадалі тут пасяліцца — не адны славяне такія разумныя. Вось і імперыя Рымская імкнулася тут пагнездавацца. Арлы яе легіёнаў так і шнарылі ўздоўж ракі, вілі свае гнёзды-крэпасці на каменных стромах правага берагу.

Не толькі ваяўнічыя германцы ў вярхоўях — тым толькі давай! — славяне левага берагу ўзбройваліся, каб ваяваць з рымлянамі. Моладзь захаплялася набегамі на імперыю: бо не затым будавалі легіянеры крэпасці, каб нудзіцца ў бяздзеянні! Князі набіралі дружыннікаў для абароны сваіх плямёнаў — і заадно ўжо прыбіралі ў плямёнах уладу для сябе.

Глядзяць кіяўляне са свайго гарадзішча: на зімовай рацэ ўзброеныя атрады так і кішаць. Вунь там — рымляне ідуць рабаваць, падзяліўшыся па сваёй навуцы на дзве "банды": адна будзе славянскія засекі чысціць — другая ахоўваць рабаўнікоў. Збіраюцца легіёны грунтоўна, усё ў іх у вазах назапашана: і мяшкі для здабычы, і ланцугі для рабоў. Відаць, што прафесіяналы.

Нездалёку глядзіш — славяне накіроўваюцца ў імперыю, відавочна палаючы помстай. Іх лёгка пазнаць па росце, вялізным шчытам, кідальным дзідам, непад'ёмным сякерам і прысутнасці на целе адных толькі штаноў: калі нават кашулі знялі — натуральна жадаюць біцца.

У атрадах усе як на падбор: бялявыя бамбізы моцы велічэзнай. Страшнымі жадаюць падавацца, аднак бракуе ім сапраўднай зласлівасці: нават ворагам гэта бачна.

Па начах раз-пораз чуецца жалезны ляск — гэта крадуцца ў сваіх цяжкіх панцырах прастадушныя готы. Калі-нікалі ветрык даносіць з ракі страшэнны смурод: няйначай, вышлі ў набег вечна непамытыя гуны. Часам сам прамудры Кій не можа разабраць, што там за племя яшчэ ваяваць памкнулася...

Весела на Дунаі, нічога не скажаш! Толькі прад'яўляць свае здаравенныя мячы усім, хто ідзе міма, кіеўляне стаміліся. Не ўжо, — кажуць, — у гасцях добра, а дома лепш!»

І вярнуўся князь у Кіеў. Наступнай і апошняй дзея й нашага героя быў паход на булгар. Ніканаўскі летапіс распавядае: «Кій... таксама на Волжскіх і Камскіх булгар хадзіў і перамог, і, вярнуўшыся ў свой град Кіеў, тут жыццё сваё скончыў».

«Вялесава кніга» (дошчачка 34) распавядае падрабязней. Прызначыўшы намеснікам і спадчыннікам сваім у Кіеве Славера, сына Лыбедзі (у Кія не было сыноў, Шчэк і Харыў, магчыма, загінулі ці памерлі раней), Кій павёў людзей сваіх на булгар. Паход падаваўся паспяховым. Але вярнуўся Кій, не выканаўшы ўсяго таго, што планаваў, бо ў Кіеве яго ворагі зрабілі спробу пазбавіцца ад «Славера Лыбядзяна», які, быў надта юным і за якога фактычна рашэнні пры адсутнасці Кія прымала маці (кіеўляне выступалі супраць «культу маці», матрыярхату). Кію ўдалося прадухіліць хваляванні і спробу бунта, маг-

чыма, шмат у чым дзякуючы таму, што быў ён падтрыманы кіеўскімі вяшчунамі. Валхвам падабаўся Лыбядзян, бо быў ён «адораны розумам і правіў ад храняў» (гэта значыць, паводле ўсталяваных жрацамі законаў). І вось, абраўшы сабе пераемніка і абараніўшы яго перад падданымі, Кій памёр.

*Кій памёр, трыццаць гадоў правіўшы намі.*
*А пасля яго быў сын Лыбедзін, па імені Славер,*
*Ітой жыў дваццаць гадоў.*
*А па ім быў Вярэн з Вялікаграда, таксама дваццацігадовы,*
*А там — Серажань — на дзесяць гадоў. (36-Б)*

Дзякуючы дакладнасці аўтараў «Вялесавай кнігі», мы, ведаючы прыкладны час заснавання Кіева, можам вылічыць год смерці Кія — каля 460. Ён перажыў на шэсць гадоў вялікага Атылу і на пяць — Валянцініяна. Сын Лыбедзі, Славер, які стаў правіць пасля Кія, памёр зусім маладым — дваццаці гадоў ад нараджэння. Аднак мяркуючы па ўсім, у яго былі задаткі моцнага правіцеля. Бо рускія летапісы распавядаюць пра тое, як адразу ж незалюбілі Лыбядзяна, абазваўшы «разбойнікам», жыхары Славенска, будучага Ноўгарада. Дык можа, і ранняя смерць Славера была невыпадковай? Пасля ж Лыбядзяна кіеўляне, мабыць дзеля таго, каб не ўзнікла спрэчкі паміж найбольш знатнымі радовічамі, запрасілі князем чалавека нетутэйшага, нейкага Вярэна, які і стаў пачынальнікам новай дынастыі.

Хаця неаднаразовае падкрэсліванне ў іншых кавалках тэкста таго, што княжаская дынастыя паходзіць ад Орыя, дае права меркаваць, што, можа, на прастоле на гэты раз аказаўся нашчадак Шчэка або Харыва.

*Не слухайце ворагаў, што кажуць нядобрае, —*
*Мы паходзім ад бацькі Орыя. (4-Г)*

На дошчачцы 36-Б значыцца: «Адышлі Шчэк і Харыў ў іншыя землі». На дошчачцы 36-А людзі Харыва названы харватамі. Калі і сапраўды ён стаў родапачынальнікам харвацкага народа, назва горада з якога прыйшоў у Кіеў правіць Вярэн становіцца зразумелай — Вялікаград — тыповая балканская назва, хаця падобныя сустракаюцца і ў чэхаў. А на дошчачцы 5-А старэйшынай рода названы «Шчэк з Орыяў». Гэта можа прывесці да думкі, што родапачынальнікам дынастыі Кіеўскіх князёў стаў менавіта ён. Але як бы там ні было, паслядоўнікам Кія не ўдалося захаваць усе набыткі заснавальніка Кіева. І ў першую чаргу распаўся ваенны саюз плямёнаў, які дапамагаў ім абараняцца ад агульных ворагаў.

*У тыя часы пасля князя Кія*
*Многія выбіраліў сябе правадыроў і князёў.*

*І ўсе яны на княжанне абіраліся простымі мужамі... (37-Б)*

Аб гэтым жа распавядае і Нестар: «І пасля гэтай брацііі (Кія, Шчэка, Харыва і Лыбедзі. — Аўт.) стаў род іх трымаць княжанне ў палян, а ў драўлян стала сваё княжанне, а ў дрыгавічаў сваё, а ў славян у Ноўгарадзе сваё, а іншае на рацэ Палаце, дзе палачане».

## АД ПЛЕМЕНІ ДОБЛЕСНЫХ

Са школьных падручнікаў нам вядома, што беларускі народ сфарміравалі тры ўсходнеславянскія племені — крывічы, радзімічы і дрыгавічы. У літаратуры, разлічанай на людзей больш самавітага ўзросту да гэтага тлумачэння часам дадаецца, што ў працэсе фарміравання беларусаў прынялі ўдзел і балты, якія жылі на нашых землях да прыходу славян і суседнічалі з імі ў далейшым. Усё гэта дакладна. Але толькі збольшага. Таму шго ўжо і ў венах старажытных беларусаў была змяшана кроў шматлікіх плямёнаў, вялікіх і малых, славянскіх і неславянскіх.

Адным з такіх плямёнаў былі дулебы. Распавядаючы пра дулебаў, большасць даследчыкаў назавуць месцам іх пасялення землі сучаснай Украіны. Гэта не будзе супярэчыць нашаму аповеду. Сапраўды, племя дулебаў, прыйшоўшы туды, дзе зараз жывуць усходнія славяне, спачатку абралі для сябе бязмежны разлог цяперашняй Заходняй Украіны. І жылі б яны там павек, калі б не прыйшла бяда... Зрэшты, усё па парадку.

Было шматлюднае, моцнае племя, правадыром якога быў «слаўны ваяр» Кісек. Акрамя яго вялікім аўтарытэтам карыстаўся старэйшына Орый. Калі ў Еўропу ўварваліся гуны, менавіта Орый, асцерагаючыся за лёс племені, прапанаваў пакінуць родныя месцы. Кісек падтрымаў мудрага старца, і племя, падняўшыся з наседжанага месца, зрушылася ў шлях. Пасля доўгага падарожжа яны прыгледзелі спакойную, нікім яшчэ не занятую тэрыторыю, дзе былі і горы, і палі з густой травой, і чыстыя рэкі, поўныя рыбы (на жаль, атаясаміць гэтае апісанне з якіям-небудзь пэўным месцам на карце Еўропы мы сёння яшчэ не можам). Ніхто не меркаваў, што гэты маляўнічы куток будзе толькі часовым прыстанкам вандроўнікаў на шляху да іх новай радзімы. Аднак, адбыліся прыродныя катаклізмы: раптоўнае пахаладанне і землятрус, якія былі расцэнены радовічамі як гнеў багоў на іх правадыра Кісека. Правадыра зрушылі, прапанаваўшы ўсю ўладу Орыю.

І сказалі бацьку Орыю: «Вядзі нас прэч!»

І адказваў Орый: «Я паўстану над вамі з маімі сынамі»

Сказалі яму: «Падначальваемся вам!» (38-А)

І вось перасяленцы дайшлі да Карпат і пабачылі прыгожую зямлю, адкуль цякуць у розныя бакі Днестр, абодва Бугі, прытокі верхняй Прыпяці і верхняй Віслы. Орый імкнуўся далей, да месца, якое ўжо выведалі яго сыны. Але частка племені вырашыла застацца тут. І іх падтрымаў Кісек. Можа, зрынуты князь жадаў такім чынам аднавіць згубленае становішча? А, можа, захапленне прыроднымі прыгажосцямі цяперашніх украінскіх Карпат (было чаму дзівавацца, чым захапляцца!) кіравала яго дзеяннямі?

Аб тым, што адбылося ў далейшым, апавядае «Вялесава кніга» на дошчачцы 35-А:

*Раскажам пра першага пана нашага,*
*распавядзем пра князя, якога абралі і змянілі. Во гэта Кісек.*
*І вёў родзічаў ён па стэпах з быдлам сваім на поўдзень,*
*і туды, дзе сонца зіхацела, прыбыў.*
*І прыйшоўшы, ён бацьку Орыю тады сказаў:*
*«Абодва мы маем дзяцей, і мужоў, і жонак.*
*І старэйшых маем абараняцца ад ворагаў.*
*І гэтак вырашым, хай маё племя аддзеліць авенаў і быдла сваё*
*ад іншага, і будзе племем асобным.*
*Гэта багі натхнілі нас,*
*бачачы доблесць нашу дагэтуль і прадракаючы яе ў павекі*
*стагоддзяў».*

Відавочна, былога князя падтрымалі многія супляменнікі. Орый змушаны быў пагадзіцца на раскол племені і працягваць шлях да Дняпроўскіх стром. Нашчадкі яго прыхільнікаў сталі называцца «паляне», бо пасяліліся «у палях».

А Кісек са сваімі людзьмі пачаў абжываць здабытыя ўладанні, уладкоўвацца навечна ў зямлі, названай ім Галынню па імені града Галынь, які Кісек пабудаваў тут «на голым месцы». Сябе ж тыя, хто застаўся з ім, сталі зваць галынцами. А трохі пазней яны атрымалі іншае найменне — дулебы. З тэкстаў «Вялесавай кнігі» можна зрабіць выснову, што паходзіць яно ад слова «доблесныя». У радку, перакладзеным намі як: «...багі натхнілі нас, бачачы доблесць нашу...», слова «доблесць», перадаваемае як «доблія», пішацца аднолькава са словам «дулебы» у іншым кавалку «Вялесавай кнігі», а менавіта на дошчачцы 7-Э. Тут узгадваецца тая ж гісторыя з раздзяленнем племені Кісека і Орыя, аднак, ужо з ноткай асуджэння ў адрас Кісека.

*У старыя часы рыбаеды засталіся,*
*не захацелі ісціў нашы землі*
*і казалі, што будуць менавацца дулебамі.*

Трэба растлумачыць, што слова «рыбаеды» тут зусім не выпадковае. Бачна, тых, хто застаўся з Кісекам, перш за ўсё прыцягвала перспектыва цудоўнай рыбнай лоўлі ў гэтым рачным краі. А прыхільнікі ж Орыя шукалі куточак «у палях». Дададзім, што існуе таксама народнае паданне — яно бытуе як на Украіне, так і на Беларусі, пра падзел нейкага славянскага племені на «палешукоў» і «палевікоў». І паданне гэтае вельмі супадае з паведамленнем Нестара-летапісца пра тое, што адны славяне пасяліліся «у палях», і сталі «палянамі», а іншыя «у деравах» і сталі «драўлянамі». Можа, раскол племені быў не адзіным? Можа, частка яго адасобілася яшчэ і ў цяперашнім Палессі? Як бы там не было, «палешукі», «палевікі», і «рыбаеды» — назвы цалкам зразумелыя і паходзяць ад мясовасці і сферы дзейнасці людзей.

Нядоўга жылі галынцы-дулебы на новым месцы ў міры. Навасельцам прыйшлося вытрымаць доўгую кровапралітную барацьбу з яцвягамі. Для таго, каб перамагчы гэтых нечаканых ворагаў, Кісеку давялося нават прыняць дапамогу людзей старога Орыя. Сумесная барацьба з ваяўнічымі яцвягамі аднавіла сяброўскія адносіны паміж былымі канкурэнтамі. А неўзабаве Кісек стаў мужам дачкі Орыя, Лыбедзі.

Гэта становіцца зразумелым пры аналізе тэкста з дошчачкі 34, у якой распавядаецца пра захоп Кіем Галыні. Вярнуўшыся з войскам сваім пасля паходу на булгар у Кіеў, дзе давялося яму уступіць у барацьбу з мяцежнікамі, якія не прызнавалі «Славера Лыбядзяна», Кій здзейсніў паход і на Галынь.

*Град рускі адабраў, набыўшы сваё праз «доччыну зямлю».*

Верагодна, Кісека на той час ужо не было сярод жывых. А спадчыну па ім Кій лічыў магчымым прыдбаць, бо ўдава Кісека была з роду Орыя. У самога Кія, як мы разумеем, дзяцей не было, бо інакш ён прызначыў бы менавіта іх сваімі наступнікамі — у выпадку, калі б у Кія не было сыноў але была дачка замужам за Кісекам, наступнікамі Кія маглі б стаць яго ўнукі. Значыць, удавой Кісека была менавіта Лыбедзь, Кіева сястра і дачка Орыя. Верагодна, прызначэнне Славера спадчыннікам і паспрыяла таму што галыняне паспрабавалі абраць сабе іншага правіцеля. Тады зразумела, чаму Галынь давялося далучаць да Кіеўскіх уладанняў.

Але вернемся да часоў Кісека. Менавіта пры ім адбылася яшчэ адна, самая дзіўная з усіх, апісаных намі, падзея. У дулебаў быў заснаваны таямнічы, чарадзейны інстытут Семярых. Гэта былі мудрыя настаўнікі, вешчуны-ваяры. «Вялесава кніга» распавядае, як пасланы Орыем на дапамогу Кісеку ў барацьбе з яцвягамі Кій становіцца сведкам боскага ўмяшальніцтва ў надзеі — нябеснае войска Сварога

сыходзіць на зямлю, каб дапамагчы людзям. А пасля перамогі ў Орыя адбываецца размова з самім Сварогам, які вырашыў узяць пад уласную апеку галынцаў.

*Гэтак вымавіў Орыю Сварог наш, семярых які стварыў:*
*«Стварыў воеў ад пальцаў маіх,*
*і будзе сказана, што гэта сыны. Стваральніка.*
*І стаўцеся да іх, як да сыноў Стваральніка, і будзеце*
*як дзеці мае.*
*І Дажбог будзе бацькам вашым, дастаткова быць яму*
*паслухмянымі.*
*І тыя (Сямёра. —Аўт.) вам скажуць, што вы мусіце рабіць.*
*Што скажуць, тое і стварайце.*
*І народ стане вялікі,*
*і перамога яго будзеў славе святой,*
*і скорыце роды іншыя,*
*чые ведзьмакі здабываюць сілу з камянёў,*
*без коней на вазах ездзяць і іншыя цуды дзеюць»...*
*І пасля гэтага Сямёра было пры дзесяці князях нашых.*
*Пры Мезіславе і Барыславе, і Каманебранцы, і Гарыславе.*
*І выбіралі некаторых на вечы, і адлучвалі на вечы,*
*калі людзі не хацелі іх.*
*І тыя князі шмат працавалі.*
*Кісек жа быў вялікі і мудры. І той памёр,*
*а па ім былі іншыя,*
*і кожны рабіў штосьці добрае,*
*І русы ў памяці гэта ўтрымліваюць...(25)*

Забягаючы наперад, скажам, што дзякуючы супастаўленню розных тэкстаў з «Вялесавай кнігі» нам удалося аднавіць імёны сямі дулебскіх князёў з тых дзесяці, пры якіх існаваў інстытут Семярых. Акрамя самых першых, згаданых у гэтым урыўку: Кісека, Мезіслава, Барыслава, Каманебранца і Гарыслава, на дошчачках яшчэ памінаюцца два апошніх — Храбр і Барывой. Імя яшчэ аднаго князя з сярэдзіны абарванага ланцужка дулебскіх правадыроў, Маждака, згадваецца ў іншай крыніцы, гутарка пра якую пойдзе ніжэй. Так што аднавіць застаецца яшчэ толькі два імені. Можа, гэта імёны Кія, які далучыў Галынь да Кіеўскіх земляў і Славера Лыбядзяна?

Пасля таго, як дулебам сталі дапамагаць Сямёра, яны пачалі з яшчэ большай стараннасцю асвойваць заваяваныя імі землі. Рассяліліся на Валыні, Паўднёвым Бузе, сярэднім Дунаі ды вярхоўях Дравы. Але і набыўшы моц, галыняне-дулебы не заўжды жылі мірна. Час ад часу прыходзілася ім крыжаваць мячы і сякеры з паўночнымі і

паўночна-усходнімі сваімі суседзямі, ваярамі розных балцкіх плямёнаў. Але галоўную небяспеку для іх заўсёды ўяўлялі паўднёвыя стэпы. Не раз наляталі адтуль на хуткіх конях качэўнікі. Палілі паселішчы, забівалі і адводзілі ў палон людзей. Многія з іх заставаліся навечна ляжаць на дулебскіх палях ды ўзвышшах, забітыя «племем доблесных», але і галынянам даводзілася пасля кожнага такога набегу з плачам хаваць лепшых сваіх ваяроў. Менавіта барацьба са стэпавікамі, мяркуючы па ўсім, і прывяла да таго, што з часам дулебы аб'ядналі вакол сябе іншыя плямёны і ўтварылі незвычайна магутны саюз.

*Наканавана былоў старыя часы,*
*Каб мы, згуртаваўшыся з іншымі,*
*стварылі вялікую дзяржаву ад родаў гэтых.*
*Мелі мы Рускень нашуў Галыні... (36-А)*

Зазначым, што зямля дулебаў да гэтага часу была яшчэ і месцам, дзе знаходзілася адно з асноўных сховішчаў таемных жрэчаскіх вед — «храняў»:

*Маем многія храні ў Навагорадзе на Волхаве-рацэ,*
*Маем у Кіевым градзе ў Божых лясах.*
*І маем на Валыні дулебскія храні і*
*ў Суроўжы на моры Сурожскім сінім. (21)*

Дулебы сталі настолькі моцнымі, што адзін з аўтараў «Вялесавай кнігі», яўна дулеб, з лёгкай іроніяй у дачыненні да палян піша:

*Галынь была городам слаўным*
*і тры сотні градаў моцных мела. Кіеўград жа меў менш —*
*дзесяць градаў на поўдні, і весі, і некалькі сел. (22)*

Аб магутным саюзе дулебаў прыгадвае нават арабскі навуковец Абу аль Гасан Алі ібн аль Гусейн аль Масудзі або папросту Аль Масудзі. Ён сцвярджае ў сваёй працы «Залатыя лугі» што гэтае племя «...мела ў старажытнасці ўладу (над іншымі плямёнамі. — Аўт.), яго цара звалі Маждак, а само племя звалася Валінана. Гэтаму племені ў старажытнасці падпарадкоўваліся ўсе іншыя славянскія плямёны, бо (вярхоўная) улада была ў яго і іншыя цары яму падпарадкоўваліся». Аў іншым месцы сваёй працы ён дадае, што Маждак — «цар Валінаны, якога племя ёсць адно з карэнных плямёнаў славянскіх, яно паважаецца паміж іншымі плямёнамі і мае перавагу над імі». Праўда, ён называе племя, якое сабрала вакол сябе іншыя плямёны, не галынцамі і не дулебамі, але племенем Валінана. Зрэшты, Аль Масудзі жыў у X стагоддзі. У яго час на апісваемых ім тэрыторыях жылі валыняне, якіх даследчыкі ўсходне-славянскай гісторыі лічаць нашчадкамі дулебаў. Цалкам магчыма, што менавіта гэтую назву, перарабіўшы яе на свой

капыл, Аль Масудзі і «прысвоіў» тым, аб кім пісаў. А меў на ўвазе менавіта дулебаў.

Гэтак, дарэчы, і зразумелі яго ўжо ў XIX стагоддзі расійскія гісторыкі. Да прыкладу, В. Ключэўскі, прааналізаваўшы гэтую працу, зазначыў, што «...арабскі пісьменнік ...згадвае саюз дулебскага князя, які склаўся ў VI стагоддзі на карпацкіх схілах». Праўда, Ключэўскі вырашыў, што гэты саюз быў складзены для барацьбы з Візантыйскай імперыяй і гэта быў не саюз плямёнаў, а «...апалчэнне баявых людзей, якія вылучыліся з розных родаў і плямёнаў на час паходу, па канчатку якога ацалелыя таварышы разыходзіліся, вяртаючыся ў асяроддзе сваіх суродзічаў пад дзеяннем звыклых адносін».

На яго думку, дулебскі саюз па сваім складзе і мэтам «...уяўляў асацыяцыю, настолькі непадобную на родавыя і племянныя саюзы, што мог дзейнічаць побач з імі, не чапаючы іх асноў». З гэтымі словамі цяжка пагадзіцца, бо Аль Масудзі апісвае менавіта саюз плямёнаў і, мяркуючы па ўсім, саюз не зусім звычайны, сабраны не па прыкмеце блізкага сваяцтва, а аб'яднанне розных славянскіх плямёнаў, заснаванае менавіта як ваенны саюз.

А што датычыць барацьбы з Візантыяй, то цалкам магчыма, што дружыны «доблесных» і самастойна, і разам з такімі ж дружынамі іншых славянскіх плямёнаў маглі здзяйсняць час ад часу набегі на багатыя імперскія ўладанні.

На жаль, саюз, утвораны дулебамі з суседзямі, не быў даўгавечным. Аль Масудзі піша: «Пасля ж пайшлі разлады паміж іх плямёнамі, парадак быў парушаны, яны падзяліліся на асобныя калены і кожнае племя абрала сабе цара...» (амаль гэтак жа, як пасля смерці Кія ў аб'яднаных ім для барацьбы з готамі плямёнах. — Аўт.).

Даследчык І. Фраянаў удакладняе: «Міжплемянныя разлады, якія паслужылі прычынай распаду Валінана, ёсць ні што іншае, як барацьба плямёнаў за ўладу ў названым саюзе. Але яна аказалася безвыніковай, бо ніводнае з плямёнаў, якія супернічалі, не магло перамагчы». А можа, проста не знайшлося іншага такога правадыра, якім быў невядомы нам Маджак, да гэтага часу ўжо, мабыць, памерлы?

Як бы там ні было, саюз славянскіх плямёнаў распаўся. І, як следства гэтага, на дулебаў, якія апынуліся ў адзіноце, абрынулася бяда. З прычарноморскіх стэпаў нахлынула на іх землі новая хваля конных ворагаў, прышэльцаў з глыбінь Азіі. У сярэдзіне VI стагоддзя ўварваліся ў стэпы Заходняга Прыкаспія і Паўночнага Прычарнамор'я авары, якіх славяне звалі обрамі. Прыйшлі яны сюды з сем'ямі, табунамі і будамі. І было ў іх ваяроў 10 тысяч, а ўсяго народа было 50 тысяч.

Обры адразу ж звярнулі свой погляд на галынскую зямлю, праігнараваўшы чамусьці кіеўшчыну. На гэты факт звярнуў увагу яшчэ Ключэўскі: «Народныя струмені, якія пранесліся па паўднёвай Русі і часта давалі балюча пачувацца ўсходнім славянам, як быццам бы нічым не закраналі ўсходнеславянскага племені, што бліжэй усяго да іх стаяла, — палян. У памяці кіеўскага даследчыка XI стагоддзя (летапісца Нестара. — Аўт.) ацалела ад тых далёкіх часоў паданне толькі аб адным усходнеславянскім племені, але такім, якое жыла далёка ад Кіева і ў XI стагоддзі не прымала бачнага ўдзелу ў ходзе падзей. «Аповесць» распавядае аб нашэсці авараў на дулебаў (у VI-VII стст.)».

Потым расійскі гісторык коратка пераказаў той урывак летапісу, у якім апісаны падзеі, што адбыліся адразу пасля нашэсця обраў. Але мы пакуль дадзім слова аўтарам «Вялесавай кнігі»:

*І тады раць варожая обраў напала на нас,*
*і не выстаялі мы перад обрамі.*
*Разбілі нас і заняволілі. (32)*
*І вось пасля гунаў прыйшла да нас вялікая бяда — обры,*
*якіх было, як пяску марскога, і якія казалі,*
*што забяруць у рабства ўсю Русь.*
*Імы паўсталі супраць обраў і пачалі змагацца,*
*але не было лада на Русі,*
*і обры сілай атрымалі над намі перамогу,*
*і правадыр русаў быў закатаваны обрамі. (32)*
*І пайшлі обры на князя нашага і забілі яго. (24-Б)*

Усе гэтыя ўрыўкі сведчаць аб тым, якой жорсткай была барацьба. Але сілы аказаліся няроўнымі. Прышэльцы скарылі дулебаў. І пачаўся вэрхал. Такі, які надоўга запомніўся не толькі пераможаным, але і іншым славянскім плямёнам. Аўтар «Аповесці мінулых гадоў» так пісаў аб гэтым: «Тыя ж обры пайшлі вайной на славян, і закатавалі дулебаў, па сутнасці славян, і гвалт чынілі жонкам дулебскім: калі паехаць трэба куды было, ці тры, ці чатыры, ці пяць жанок у воз запрагалі везці обрына».

Цалкам зразумела, што дулебы не жадалі цярпець такія здзекі. А з-за таго, што моцы для барацьбы з ненавіснымі заваёўнікамі ў іх не было, то многія вымушаны былі пакінуць радзіму і перасяліцца ў суседнія, не заваяваныя аварамі землі. Хто накіраваўся на захад, хто на поўнач і паўночны ўсход. Частка ўцекачоў дабралася да вусця Бярэзіны, пасля яны рушылі ўверх па рацэ і аселі ў сярэднім яе цячэнні, на берагах прытоку Ольсы. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца назва рачулкі Дулебка, вёсак Дулеба ў Клічаўскім раёне і Дулебы ў Бярэзінскім.

Іншыя бегл'які пераправіліся праз Днепр і пасяліліся ў Пасожжы. Самыя ж асцярожныя або, можа наадварот, няўрымслівыя дабраліся да Пскоўшчыны і нават да берагоў Акі.

Перасяленне гэтае, зразумела, не абыйшлося без узброеных сутычак з мясцовымі жыхарамі. Успаміны аб адным з такіх канфліктаў захаваліся ў паданні, якое лягло ў аснову верша, напісанага ў 1907 годзе К. Каганцом. Называецца яно «Сцяты камень» і апавядаецца ў ім пра двубой дулебскага князя Кумара з варожым князем Гудам. Наш сучаснік, нястомны даследчык беларускага мінулага М. Ермаловіч лічыць, праўда, што ў гэтым паданні захаваліся ўспаміны аб барацьбе дулебаў з готамі. Але, мяркуючы па ўсім, Кумару давялося скрыжаваць свой меч з прадстаўніком зусім іншага народа. А менавіта, з яцвягам. Справа ў тым, што, як устанавіў М. Грынблат, «гудами» звалі менавіта заходне-балцкае племя яцвягаў. Роднасныя ім продкі сучасных літоўцаў ды латышоў.

Але трэба сказаць, што далёка не ўсе дулебы пакінулі сваю радзіму. Яны трывалі і спадзяваліся з дапамогай багоў і магутнай чарадзейнай Сямёркі знішчыць ненавісных ім авараў. Тым больш, што многія з захопнікаў пакінулі іх землі і нават прычарноморскія стэпы. Па запрашэнні візантыйскага імператара, які вёў перамовы з адным з аварскіх каганаў Баянам, яны накіраваліся на Балканы і ўвязаліся ў вайну, якую вяла імперыя супраць славян, што жылі на Дунаі. Пры адсутнасці гэтых захопнікаў Сямёра мудрацоў, як апавядаецца тое на дошчачцы 32, *«...вырашылі прынесці нябёсам клятву...* (знішчыць обраў. — Аўт.) *і трымаць яе ажно да смерці. І Сямёра вырашылі прыняць смерць, а Русь вызваліць».* Адважыўшыся на гэта і заручыўшыся дапамогай нябёсаў, яны, мабыць, былі ўжо абсалютна ўпэўнены ў сваіх сілах, бо нават даведаўшыся, што на дапамогу дулебам памкнуліся прыйсці кіеўляне, сустрэлі іх войска на памежжы.

*Сказалі яны кіянам вольным: ідзеце на бітву —*
*ідзіце дахаты! Сваю маем зараз моц...*
*Кара яго (правадыра обраў. — Аўт.) будзе цяжкай*
*і род яго вывергнецца,*
*і Жаля аплача яго, і імя яго забудзецца...*

Для сваіх таемных абрадаў Сямёра, мяркуючы па ўсім, атуліліся ў нейкім падземным збудаванні. Там *«...стаялі... да канца».* І багі дапамаглі Семярым: *«...сілу грома звярнуў Пярун на іх* (обраў — Аўт.)». Усе обры на зямлі дулебаў загінулі. Патэтычна-містычныя радкі «Вялесавай кнігі», на жаль, пры ўсёй сваёй эмацыйнасці не даюць магчымасці ўявіць, што ўсё ж адбылося з обрамі, як яны загінулі? Некаторыя з дарэвалюцыйных расійскіх даследчыкаў мяркуюць, што іх

загубіў мор. Аднак, узнікае пытанне, што ж гэта за эпідэмія, ад якой выміраюць толькі захопнікі? Не растлумачвае сітуацыі і Нестар-летапісец: «Былі обры целам вялікія, а розумам ганарлівыя, — піша ён, — і вынішчыў іх Бог, повымерлі ўсе, не засталося ніводнага обрына, і ёсць прымаўка на Русі да гэтага дня: погібоша, акі обры».

Як бы там ні было, обры, якія жорстка прыгняталі дулебаў, былі знішчаны. Але і Сямёра старцаў не выжылі. «Вялесава кніга» распавядае, што чарадзейства забрала ў іх усе жыццёвыя сілы. Таямнічы інстытут Семярых на дулебскай зямлі спыніў сваё існаванне.

А што ж самі дулебы? Апошні раз згадванне аб племені дулебаў пад такой менавіта назвай з'яўляецца на старонках рускіх летапісаў у 907 годзе. Дулебы ўдзельнічалі ў паходзе кіеўскага князя Алега на Царград. У далейшым насельнікі старажытнай Галыні ўжо завуцца валынянамі ды бужанамі. А іх нашчадкі і да нашых дзён жывуць на Заходняй Украіне.

Тыя ж дулебы, якія перабраліся ў ліхую гадзіну з роднай Галыні ў іншыя месцы, змяшаліся з часам з іншымі плямёнамі, у тым ліку і з продкамі сучасных беларусаў. Так што мы можам лічыць сябе і іх нашчадкамі, нашчадкамі племені доблесных.

## ЯНЫ ПРЫЙШЛІ АПОШНІМІ

«Ад берагоў далёкай ракі Вістулы (Віслы), ад ляхаў прабіваецца па гушчарах і балотах праславянскае племя. І вядуць яго два брата Вятка і Радзім — добрыя моцныя ваяры. Злая сіла пагнала іх у дарогу. Не сілай, але колькасцю прымусілі тамтэйшых праславян пакінуць родны кут. Адыходзілі браты з гонарам. Шмат захопнікаў загінула ад іх рук. У блуканнях па дзікіх лясах сярод плямёнаў чужой мовы не далі Вятка і Радзім загінуць роднаму насенню. Захавалі праславянскі род. За тое ім гонар і хвала. Узвялі новыя грады Радзім і Вятка з суродзічамі. Так, квітнее праславянская зямля, ведаюць і лічацца з яе магутнасцю і ў далёкіх паўднёвых цывілізацыях, і ў суседніх краінах. З кожным мірна пражытым годам наліваецца сілай славянскі колас».

Так ярка і эмацыянальна распавядае аўтар кнігі «Русь да Нараджэння Хрыстова» У. Гобараў аб нашых легендарных продках-князях Радзіме і Вятку, аб тым, як прывялі яны сваіх супляменнікаў на сучасныя ўсходнеславянскія землі. Іх плямёны ў далейшым сталі звацца па імёнах князёў-братоў радзімічамі ды вяцічамі. Радзімічы — гэта адно з тых плямёнаў, якія далі пачатак беларускаму народу. Таму нам цікавыя ўсе звесткі пра іх, што сустракаюцца ў старажытнай і сучаснай гістарычнай літаратуры, усе гіпотэзы, якія прапануюць дас-

ледчыкі. Цікавая і праца Гобарава. Хаця, як мы лічым, ён шмат у чым памыляецца.

Так падзеі, звязаныя з перасяленнем радзімічаў і вяцічаў, ён датуе III стагоддзем да нашай эры і адпаведна мянуе іх праславянамі (славян як этнаса ў той час яшчэ не было). Але радзімічы, без сумнення, былі славянамі. Гэта даказана шматлікімі археалагічнымі даследаваннямі. Сцвярджае гэта і «Аповесць мінулых гадоў»: «Радзімічы і вяцічы ад роду ляхаў. Былі бо два брата ў ляхаў — Радзім, а іншы Вятка, і прыйшлі і селі: Радзім на Сожы, і ад яго празваліся радзімічы, а Вятка сеў з родам сваім на Ацэ, і ад яго атрымалі назву вяцічы ».

На жаль, «Аповесць мінулых гадоў» — адзіная першакрыніца, дзе згадваецца князь Радзім. З прыведзенай цытаты нельга пазнаць ні яго характару, ні якія-небудзь факты яго біяграфіі, ні нават адкуль канкрэтна ён прывёў сваё племя. Даводзіцца старанна аналізаваць ускосныя дадзеныя, якія ўтрымліваюцца ў працах старажытных аўтараў і іх паслядоўнікаў.

Такім чынам, адкуль жа прыйшлі радзімічы з вяцічамі? Як ужо гаварылася, аўтар «Аповесці мінулых гадоў» указваў, што яны прыйшлі «з ляхаў», гэта значыць, з тэрыторыі сучаснай Польшчы. А дакладней? Існуе некалькі гіпотэз. Паводле адной з іх радзімічы перасяліліся з Верхняга Прыднястроўя. Паводле другой — з берагоў Віслы. Прычыну перасялення тлумачаць тым, што дунайская славяне пад націскам авараў, а потым візантыйцаў і раманскага насельніцтва, павінны былі адступіць на поўнач, у Павісленне, і на паўночны захад, у лясную зону Усходняй Еўропы. І, маўляў, славяне, якія прыйшлі ў Павісленне, пацяснілі на ўсход і на захад тых славян, якія жылі тут раней.

А вось у «Вялесавай кнізе» падзеі апісаны трохі інакш. Прыход радзімічаў на нашы землі звязваецца з асобай анцкага (таксама славянскага) князя Моска. Аб гэтым чалавеку мы ведаем сёе-тое з прац візантыйскіх аўтараў. Вядома, што ў VI стагоддзі нашай эры візантыйскі імператар Маўрыкій вёў барацьбу са славянамі на Балканах. У 597 годзе яго палкаводзец Прыск пераправіўся праз Дунай і ўварваўся ў землі славян. Уначы ён напаў на лагер правадыра антаў Радагоста і разграміў яго. Сам Радогост, паранены, ратуючыся ад палону, кінуўся ў раку. Прыск у далейшым абвясціў, што вядзе рэлігійную вайну супраць язычнікаў. Тым самым ён прыцягнуў на свой бок шматлікіх хрысціян з антаў і гепідаў, якіх выкарыстаў як праваднікоў і шпіёнаў. Неўзабаве ён здолеў захапіць на Дунаі флот славян. У яго рукі патрапіла амаль паўтары сотні караблёў.

Радагост з дапамогай малодшага брата, Моска (у візантыйскіх крыніцах — Мусокія), спрабаваў арганізаваць супраціўленне захопнікам, але ці то загінуў у чарговым баі, ці то памёр ад атрыманых раней ран. Засмучанае войска пахавала яго і наладзіла трызну па сваім правадыру.

Шпіёны паспелі апавясціць аб гэтым Прыска. І ён напаў, ізноў уначы, на лагер славян, скарыстаўшыся тым, што іх ваяры былі п'яныя пасля трызны. Візантыйцы «працягнулі памінальную бяседу, здзейсніўшы ўзліванне крывёй». Гэтыя і наступныя падзеі вельмі маляўніча апісаны ў «Вялесавай кнізе» (урывак дадзены ў пераладзе Асава):

І было так, што Моск памінаў загінулага брата.
І вось ён кроў-віно піў аб браце сваім памерлым,
які сыйшоў з Богам. І быў ён забіты волахамі
(візантыйцамі — Аўт.),
бо Радагост той быў Свентаярычам.
І вось пасля трызны мы не павінны былі спаць,
але заснулі. І тады волахі-ваяры пайшлі на нас,
і мы не маглі пярэчыць.
І так адступілі. А затым вярнуліся.
І вырашылі: волахі шмат ядуць і п'юць,
і гэтага дзеля мы таксама прыйдзем
і будзем піць братэрскае віно.
І пайшлі мы на рамеяў, і не рашаліся аглядацца назад,
але толькі глядзелі наперад.
І рамеям стала блага, як пры Халібудзіі.
І тыя ваяры рамейскія былі бязлітаснымі,
але мы атрымалі перамогу на поле брані.
І так рамеям было адплачана за зло іх.
І так мы іх прагналі, і сыйшлі яны.
І гэтую страву мы даелі.
І славілі тых, хто прыйшоў вызваляць стэпы рускія і загінуў.
І гаварылі мы, што тыя ворагі ізноў прыйдуць,
і ізноў паднімуць мячы свае на нас.
І вось мы самі сказалі тады галаве (Моску. — Аўт.),
які быў парукай нашай:
будзь начальнікам над намі! І аб нас клапаціся!
І так Моск рупіўся аб нас, і ён быў князем.
І мы пілі сур'ю за яго.
І быў ён сілаю нададзены і мудрасцю надзелены.
І як толькі ён меў думку ісці на ворагаў, так ішоў і разбіваў іх.

Аднак неўзабаве, мяркуючы па ўсім, пасля смерці Моска, гэтае аб'яднанне славян распалася:

А пасля мы пайшлі кожны сваім шляхам.
І некаторыя роды пацяклі на поўнач,

і былі гэта сутнасць вяцічы і радзімічы.

Так што, калі верыць цытуемай крыніцы, падарожжа радзімічаў пачыналася з берагоў Дуная. Радзім жа з братам і супляменнікамі маглі быць баявымі паплечнікамі Моска.

Як жа тады ставіцца да сцвярджэння «Аповесці мінулых гадоў» пра тое, што Радзім і Вятка са сваімі родамі прыйшлі «з ляхаў»? Гэтаму знаходзіцца лагічнае тлумачэнне. Вандроўнікі цалкам маглі затрымацца ў дарозе ў землях гэтых самых ляхаў, альбо для таго, каб паспрабаваць абгрунтавацца там, альбо ж для адпачынку перад далейшым цяжкім шляхам на ўсход, да тых месцаў, якія павінны былі стаць іх новай радзімай.

І вось Радзім прывёў сваіх людзей на землі сучаснай Беларусі, туды, дзе ўжо даўно жылі балцкія плямёны, дрыгавічы і крывічы. Новапрышэльцы яшчэ раз узяліся за зброю, каб «злёгку пацясніць» старажылаў. Ваеннае майстэрства, вывастранае ў барацьбе з візантыйскімі легіёнамі, у чарговы раз спатрэбілася ў баі. Радзімічы адвявалі месца пад сонцам. Рассяліліся ў басейне ракі Сож на ўсходзе сучасных Магілёўскай і Гомельскай абласцей, а таксама ў заходніх раёнах Браншчыны і на паўночным захадзе Слонімшчыны. Крывавыя падзеі тых часоў доўга захоўваліся ў народнай памяці. У некаторых раёнах Магілёўскай вобласці маці дагэтуль палохаюць сваіх неслухаўдзяцей нейкім жудасным «радзімічам». У тых жа месцах дагэтуль існуе праклён: «Каб цябе радзіміч узяў!».

Ускосным пацверджаннем тут можа быць наступны тэкст з «Аповесці мінулых гадоў»: «…жылі паміж сабою ў міры паляне, драўляне, севяране, радзімічы, вяцічы і харваты». Звернем ўвагу, у гэты спіс не патрапілі ні крывічы, ні дрыгавічы. Цалкам магчыма, што гэта адбылося таму, што яны варагавалі з якім-небудзь з пералічаных летапісцам плямёнаў. Хутчэй за ўсё, з радзімічамі.

Як бы там ні было, аднак радзімічы «шчыльна» абгрунтаваліся на новых землях. Праўда, тэрыторыя іх пражывання была значна меншай, чым у суседзяў, ды і колькасцю сваёй, мяркуючы па ўсім, яны саступалі і крывічам, і дрыгавічам. Верагодна, гэтым, а можа, і тым, што прышэльцы былі аслаблены вайной на Дунаі, нягодамі, перанесенымі падчас перасялення, цяжкасцямі, якія ўзніклі пры засваенні новай тэрыторыі, і тлумачыцца тое, што ў іх не атрымалася ўтварыць самастойнае моцнае княства, падобнае да Полацкага і Тураўскага. І гэта пры тым, што яны ўжо па прыбыцці мелі сваіх князёў, прычым, на думку шэрагу даследчыкаў, княжаская ўлада ў радзімічаў была спадчыннай.

Тым не менш, яны доўга захоўвалі сваю незалежнасць, хоць часамі ім даводзілася плаціць Кіеву даніну, ды даваць ваяроў для заморскіх паходаў. Так, напрыклад, радзімічы ўдзельнічалі ў тым паходзе на Царград, падчас якога кіеўскі князь Алег прыбіў свой шчыт на вароты сталіцы Візантыйскай імперыі. Прымалі яны ўдзел і ў адным з паходаў Алегава пераемніка, князя Ігара. Але канчаткова заваяваныя былі толькі ў 984 годзе, калі князь Уладзімір паслаў на іх свайго ваяводу па мянушцы Ваўчыны Хвост. Той ушчэнт разбіў войска радзімічаў на беразе ракі Плашчаніцы. З тых часоў, па словах «Аповесці мінулых гадоў»: «Плацяць яны даніну Русі, павоз вязуць і дагэтуль».

Зрэшты, на ўнутраным жыцці і звычаях радзімічаў гэтая падзея амаль не адбілася. Праўда, мы не ведаем, якія яны былі ў часы Радзіма, але Нестар-летапісец распавядае, як жылі радзімічы і іншыя славянскія плямёны ў яго час: «А радзімічы, вяцічы і севяране... жылі ў лесе, як і ўсе звяры, елі ўсё нячыстае і брыдкасловілі пры бацьках і пры нявестках, і шлюбаў у іх не бывала, але ўладкоўвалі гульбішчы паміж сёламі, і сыходзіліся на гэтыя гульбішчы, на скокі, і на ўсялякія д'ябальскія песні, і тут выкрадалі сабе жонак па змове з імі, мелі ж па дзве і па тры жонкі. І калі хто паміраў, то ўладкоўвалі па ім трызну, а затым рабілі вялікую калоду, і ўскладалі на гэтую калоду мерцвяка і спальвалі, а пасля, сабраўшы косці, укладалі іх у невялікую судзіну, і ставілі на слупах па дарогах».

У канцы сваіх выкрывальных слоў кіеўскі летапісец дадае: «Гэтага ж звычаю трымаліся і крывічы, і іншыя язычнікі, не дасведчаныя Закону Божага, але самі сабе якія ўсталёўваюць закон». Больш заўсіх дасталася ад яго бліжэйшым суседзям палян, драўлянам. Тыя, лічыць Нестар, наогул «жылі звярыным звычаем, жылі быдляча». І хваліць летапісец-манах толькі адно племя — палян.

Што ж, зразумець яго няцяжка. У дадзеным выпадку ён выконваў заданне, своеасаблівую «сацыяльную замову» кіеўскага князя Яраслава Мудрага, якому неабходна было аргументавана растлумачыць прычыны таго, чаму яго папярэднікі і ён сам падпарадкоўвалі сабе блізкія і далёкія землі. Таму летапісец і ўзвялічвае палян, а астатнія ўсходнеславянскія народы паказвае нейкімі дзікунамі. Пры гэтым і сам ён, і яго «заказчык» як быццам бы забываюць, што яшчэ зусім нядаўна, да прыняцця хрысціянства, у тых жа палян існавалі звычаі, якія захаваліся і ў радзімічаў, і ў іншых плямёнаў, што пазбеглі тады хрысцільнай купелі. Існавалі і рытуальныя выкраданні (па папярэдняй змове) нявест, і спаленне мерцвякоў, і многажэнства. Ды і бацька Яраслава, князь Уладзімір Чырвонае Сонейка, да таго, як стаў хрысціянінам, меў пяць жонак і каля 500 (!) наложніц. І толькі з пры-

няццем хрысціянства паступова сыходзілі гэтыя звычаі і абрады. Але ў часы Нестара-летапісца язычніцтва мела яшчэ шмат прыхільнікаў у глухіх лясных гушчарах, дзе жылі нашы продкі.

## ДАЛЁКІЯ ПАХОДЫ ХАГАНА

Адной з самых старажытных пісьмовых крыніц, у якой згадваюцца дрыгавічы (названыя там другувітамі), з'яўляецца «Жыціе Дзмітрыя Салунскага». У ім апісана, як у канцы VI стагоддзя войска дрыгавічоў асадзіла візантыйскі горад Салунь (зараз — грэцкія Салонікі).

Прыйшоўшы на нашы землі ў II стагоддзі да н. э., дрыгавічы атабарыліся на Палессі. Яшчэ зусім нядаўна яно было краем непралазных лясоў і бяздонных балот, якія распрасціраліся на шматлікія дзесяткі кіламетраў. Можна ўявіць, як жа выглядала яно паўтары тысячы гадоў назад!

Вось аповед Іярдана пра гоцкага правадыра Філімера, які зрабіў спробу завалодаць нашым Палессем (ён яго зваў «зямлёй Оўм»).

«У пошуках больш спрыяльных абласцей і больш прыдатных для пасялення мясцовасцей прыйшоў (Філімер. — Аўт.) у землі Скіфіі, якая на іх мове звалася Оўм. Філімер, зачараваны вялізным багаццем тых мясцін, перавёў туды палову свайго войска. Пасля, як распавядаюць, мост, перакінуты праз раку, непапраўна зламаўся, так што не засталося магчымасці ні прайсці, ні вярнуцца. Кажуць, што мясцовасць тая замкнёная, акружаная багнамі і вірамі: такім чынам, ужо сама прырода зрабіла яе недасягальнай, аб'яднаўшы адно і другое. Можна даць веры сведчанням падарожнікаў, што і сёння там чутны галасы жывёл і ёсць прыкметы чалавечага знаходжання, хоць чуваць гэта здалёку».

Яшчэ больш маляўніча апісвае тагачасныя палескія мясціны і іх насельнікаў расіянін У. Гобараў:

«Іх было няшмат — па адным градзе (так тады звалася любое агароджанае пасяленне) на астраўку сярод неабсяжных балот на дзесяткі міль вакол. Але кожны дрыгавіч быў сапраўдным лесавіком, лясуном альбо вадзянікам, чалавекам-мядзведзем... За многія стагоддзі жыцця сярод багнішчаў яны зрадніліся з небяспечным асяроддзем. Навучыліся выжываць, нават трапляючы па горла ў балотную жыжку. Палюбілі звяроў, птушак і ўвесь Палескі край».

Здавалася б, жыхары гэтых мясцін павінны ператварыцца ў нелюдзімых панурых дамаседаў, якія не цікавяцца нічым з таго, што знаходзіцца за межамі іх «балота». А ўпэўненасць у бяспецы, выклікана надзейнасцю непраходных перашкод, створаных самой матух-

най-прыродай і здольных абараніць ад любога знешняга ворага, павінна была пазбавіць іх ваяўнічасці. Але дрыгавічы захавалі і смеласць, і імкненне «свет пабачыць і сябе паказаць», і ўменне валодаць зброяй. Сведчанне таму — іх паход у македонскія ўладанні Візантыйскай імперыі, да высокіх каменных сцен Салуні ў канцы VI стагоддзя.

Старажытныя візантыйскія хронікі апісваюць гэты час як адзін з найбольш цяжкіх у гісторыі іх імперыі. Візантыйскія войскі знемагалі ў барацьбе з адвечным сваім супраціўнікам — Персіяй. А тут яшчэ на Балканах актывізаваліся і славяне. Яны пераходзілі мяжу невялікімі атрадамі, але такіх атрадаў было шмат. Урываліся і вялізнымі полчышчамі, а часам і цэлымі плямёнамі з сем'ямі і статкамі хатняй жывёлы. Рабавалі і забівалі мясцовых жыхароў, палілі пасяленні і гарады.

Па-рознаму складаўся лёс гэтых прышэльцаў. Хтосьці гінуў пад мячамі і дзідамі візантыйцаў, хтосьці атрымліваў перамогу. Найболыш удачлівыя захоплівалі багатыя гарады, рабавалі іх і з вялікай здабычай рушылі назад. Іншыя задавальняліся выкупам, прапанаваным ім абложанымі гараджанамі. А некаторыя пасяляліся на заваяваных землях і абгрунтоўваліся надоўга. Справіцца з гэтай новай напасцю войскі імперыі не маглі.

І тады базілеўс (імператар) Тыберый рашыўся на адчайны крок: выкарыстаць супраць варвараў-славян іншых варвараў, качэўнікаў-авараў, якія незадоўга да гэтага захапілі стэпавыя раёны ў Паўночным Прычарнамор'і. Тыберый склаў з імі дамову, перавёз разам з конямі праз мора, бліжэй да будучых супраціўнікаў. Гэтак нечакана, можа, нават для сябе авары, кіруемыя ў 70-х гадах VI стагоддзя каганам Баянам, апынуліся на Дунаі. Яны пераправіліся на славянскі бераг і наладзілі разню. Пасля іх заставаліся толькі трупы ды дымлівыя руіны паселішчаў.

Зрэшты, славяне хутка акрыялі ад нечаканага нападу. Яны паспешна пачалі аб'ядноўвацца і збіраць сілы. Баян і яго ваяры пазналі, што такое славянскія мячы. Пасля таго, як авараў некалькі разоў дужа пабілі, візантыйскія найміты паспешліва рэціраваліся назад, за Дунай, і пасяліліся на тэрыторыі імперыі. Аднак хутка пасля таго, як на прастол узышоў новы базілеўс Маўрыкій (ён правіў з 582 па 602 год), авары выступілі супраць імперыі і спустошылі некалькі вялікіх яе абласцей. Падчас кіравання базілеўса Маўрыкія і з'явілася пад сценамі Салуні раць «другувітаў», якую ўзначальваў нейкі Хаган.

Хто такія «другувіты» — зразумела: гэтак на свой лад звалі візантыйцы дрыгавічоў. А вось асоба іх правадыра пакідае шырокае поле

для фантазіі даследчыкаў. Некаторыя сцвярджаюць, што гэта быў аварскі князь-каган, які прывёў з сабою войска, набранае сярод заваяваных аварамі і абкладзеных данінай славянскіх плямёнаў. Але гэтае сцвярджэнне вельмі хісткае. Аўтар «Аповесці мінулых гадоў» згадвае толькі адно славянскае племя, заваяванае і жорстка прыгнечанае аварамі — дулебаў. Магчыма, скарыліся аварам і нейкія іншыя славянскія плямёны, якія жылі ў стэпах Паўночнага Прычарнамор'я. Але цяжка паверыць, што прышэльцы з глыбінь Азіі змаглі за некалькі дзесяцігоддзяў свайго пасялення ў гэтых месцах заваяваць тых, каго так добра абараняла сама прырода. Да таго ж тытул кагана ў авараў, (як у далейшым і ў хазар), насіў толькі вярхоўны правадыр. А яго імя было цудоўна вядома, і ўкладальнік «Жыція Дзмітрыя Салунскага» абавязкова паказаў бы, што камандаваў варварамі-дрыгавічамі каган Баян.

Ці не таму ў адаптаваных варыянтах «Жыція» не ўказваецца назва племені? У іх гаворыцца проста аб славянах. Між тым, цалкам магчыма, што таго, хто кіраваў у той час дрыгавічамі, тытулавалі гэтак жа, як і аварскага правадыра, — каган. Бо існаваў жа ва ўсходніх славян і пазней такі тытул. Так вядомы сучасны расійскі гісторык Барыс Рыбакоў у адной са сваіх прац, спасылаючыся на дамову 911 года з грэкамі, сцвярджае, што «...галава Рускай дзяржавы, які жыў у Кіеве... прымаў... высокі тытул хакана». Паводле ягоных слоў, тытул гэты існаваў да XI стагоддзя.

Цалкам верагодна, што бытаваў ён сярод усходніх славян і раней. У такім разе вярхоўны правіцель дрыгавічоў мог насіць яго. Як клікалі гэтага адважнага нашага продка, мы даведацца не можам. Вядомы, праўда, імёны двух усходнеславянскіх правадыроў, якія ваявалі ў гэты ж час з Візантыяй. «Вялесава кніга» называе Крыварога і Храбра. Аднак, па сцвярджэннях гэтай крыніцы, абодва князя абралі аб'ектам для нападу горад Сурож у Крыме. А вось правадыр дрыгавічаў здзейсніў і больш далёкія паходы. Распавядаючы пра іх, будзем услед за старажытнымі храністамі зваць нашага героя Хаганом і пісаць яго тытул з вялікай літары, замест імя.

Такім чынам, у Візантыі даведаліся, што да Салуні рухаецца вялізнае — да дзесяці тысяч чалавек — войска. Нягледзячы на гэта, гараджане не спяшаліся падрыхтавацца да абароны. Яны былі ўпэўнены, што ворагі дабяруцца да іх не хутка, і не ўлічылі рухомасці дрыгавічоў. Раптоўна тыя з'явіліся непадалёк ад гарадскіх сцен. Дрыгавічы прыйшлі на захадзе сонца і цалкам маглі той жа ноччу заняць і горад, калі б Хаган не дапусціў памылкі. У прыцемках ён прыняў за Салунь размешчаны недалека ад горада манастыр і прастаяў пад яго

сценамі давідна. Раніцай, разабраўшыся ў становішчы, накіраваўся ён з войскам да самой Салуні, але было ўжо позна. Штурм быў адбіты. І тады Хаган прыступіў да планамернай аблогі горада. Спешна былі выраблены тараны, катапульты.

Аўтар «Жыція Дзмітрыя Салунскага» так апісаў гэтыя падзеі: «Непрыяцелі прысунулі таран і пачалі сутрасаць падножжа гарадскіх сцен; хмары стрэл і камянёў, пушчаных з кідальных прылад, засцілалі святло дзённае — усе спадзяванні былі толькі на дапамогу Нябёсаў, і натоўпы народа пазапаўнялі храм...»

Шэсць дзён працягвалася аблога. На сёмы тыя, хто асаджаў, пакінуўшы каля гарадскіх сцен аблогавыя прылады і намёты, сыйшлі. Прычына засталася незразумелай. Самі абложаныя прыпісалі сваё выратаванне цуду, нібыта створанаму мясцовым святым Дзмітрыем, які спалохаў прышэльцаў прывіднай рацыю.

Што ж, першы вопыт барацьбы з Візантыяй аказаўся для Хагана няўдалым. Горад ён не ўзяў і багаццямі яго не завалодаў. Праўда, захаваў сваё войска, што давала магчымасць і ў далейшым неаднаразова трывожыць імперыю. Праз некалькі гадоў ужо Хаган стаў шырока вядомы як супраціўнік Візантыі. Пацверджаннем гэтаму можа быць, у прыватнасці, факт, прыведзены ў так званым «Тыфліскім рукапісу».

У 625 годзе базілеўс Іраклій, які кіраваў у той час Візантыяй, ушчэнт разграміў войска персідскага цара Хасроя. Цар спешна пачаў збіраць новае войска. Па яго указанню галоўнакамандуючы персідскім войскам звярнуўся да «рускага Хагана» (мяркуючы па ўсім, у той час іншаземцы ўсіх усходніх славян звалі рускімі) з прапановай ажыццявіць сумесны напад на Канстанцінопаль.

Рукапіс утрымлівае нават тлумачэнне гэтай прапановы: «Як вядома, гэты Хаган яшчэ пры Маўрыкіі нападаў на імперыю, паланіў аднойчы дванаццаць тысяч грэкаў, а пасля запатрабаваў па адной драхме за чалавека». Хаган прыняў прапанову і на наступны год накіраваўся на караблях-аднадрэўках (гэта значыць на такіх, якія маюць кіль з аднаго дрэва) да сталіцы Візантыі. Асадзіў яе і з мора, і з сушы. Ваяры яго былі моцныя і досыць умелыя, іх было так шмат, што на аднаго царградца прыходзілася дзесяць славян. Тараны і аблогавыя машыны пачалі дзейнічаць. Хаган патрабаваў здацца і «пакінуць ілжывую веру ў Хрыста». Але пагрозы яго не падзейнічалі, а толькі ўзнялі баявы дух гараджан. Каля сцен горада адбылася страшэнная бойка. Свабода Царграда вісела на валасінцы.

Канстанцінопальскі патрыярх Сергій спешна сабраў вялізную суму грошай і паслаў яе Хагану. Той узяў іх, але волю абяцаў «толькі

тым, хто ў вопратцы жабрака пакіне горад і пабярэцца куды жадае». Аблога працягвалася. Зрэшты, неўзабаве стала вядома, што да горада набліжаецца дванаццацітысячнае войска, пасланае базілеўсам. Так што давялося ізноў пагрузіцца на свае караблі і адпраўляцца дадому, аддаўшы візантыйскую сталіцу яе лёсу. Зрэшты, мэта, з якой прыбыў сюды Хаган, была дасягнута. Багатую здабычу — грошы патрыярха — ён атрымаў, саюзніку Хасрою дапамог, адцягнуўшы на сябе цэлых дванаццаць тысяч легіянераў, сілу сваю «ненавісным грэкам» паказаў.

На гэтым скончым аповед пра дзеянні нашага старажытнага земляка, які ў тыя далёкія часы праклаў марскі шлях да Басфора і Дарданэл, выпрабаваў на крэпасць сцены візантыйскай сталіцы і на доблесць яе абаронцаў. У далейшым і дрыгавічы, і радзімічы, і крывічы неаднаразова будуць скарыстоўваць вопыт Хагана, прымаючы ўдзел то ў якасці саюзнікаў, то як падданыя ў марскіх паходах кіеўскіх князёў. А, магчыма, які-небудзь нашчадак Хагана будзе прысутнічаць і пры ўрачыстым моманце, калі князь Алег прыбіваў да варот Царграда-Канстанцінопаля свой шчыт.

## ПАЛЕСКАЯ АТЛАНТЫДА

З глыбіні тысячагоддзяў дайшла да нас загадка Атлантыды, якая знікла ў марской бездані ледзь не ў адну ноч. Вядомасць гэтая таямнічая зямля атрымала з лёгкай рукі старажытнагрэчаскага філосафа Платона. Менавіта ён у сваіх дыялогах «Цімей і Крыцій» распавёў аб Атлантыдзе, пераказаўшы тое нямногае, што пачуў ад нейкага егіпецкага жраца.

З часу напісання Платонавых дыялогаў прайшло больш двух тысяч гадоў, з часу гібелі Атлантыды — 10-12 тысяч. Колькі спрэчак было аб ёй! Колькі спроб адшукаць месца, дзе яна знаходзілася! Сабраўшы разам усе кнігі, навуковыя і мастацкія, у якіх пісалася аб гэтай таямнічай зямлі, можна было б, мабыць, скласці з іх піраміду не меншых памераў, чым магільны склеп егіпецкага фараона Хеопса. Цэлая гара кніг... А загадка Атлантыды ўсё яшчэ застаецца неразгаданай.

Ва ўсходніх славян таксама ёсць свая Атлантыда. Таямнічая дзяржава Артанія, якая знікла быццам бы без следа. Згадванні пра яе знаходзім мы ў цэлым шэрагу прац персідскіх і арабскіх аўтараў ранняга сярэднявечча. Расійскі гісторык Б. Рыбакоў адзначае: «Каштоўныя звесткі, сабраныя ўсходнімі географамі IX-XIII стст. у капітанаў марскіх караблёў, у караван-башэй сухапутных купецкіх абозаў і ў праезжых русаў у самой сталіцы халіфата — Багдадзе — вывучаныя яшчэ не дастаткова».

І тым не менш, шэраг цікавых звестак, якія не захаваліся ў славянскіх і заходнееўрапейскіх пісьмовых крыніцах, даследчыкам з іх запазычыць не давялося.

Распавядаючы аб усходніх славянах, географы араба — і персаязычныя называюць тры буйных племянных цэнтра: Куябію (Куявію) са сталіцай Куяба (Куява, Куйафа), Славію (Слабію) са сталіцай Слава (Слаба, Салаб) і Артанію (Арсанію, Арзанію) са сталіцай Арта (Артаб, Арція, Артан, Арсан, Уртаб). Якія ж гэта дзяржавы, што за гарады? Звернемся да крыніц.

Самыя раннія з іх, геаграфічныя кнігі Джэйхані, які жыў на мяжы IX і X стагоддзяў і Аль Балхі — у першай палове X стагоддзя, на жаль, не захаваліся. Да нас дайшлі толькі цытаты з іх, прыведзеныя іх паслядоўнікамі. Аль Істархі, які пісаў у 30-х гадах X стагоддзя; Ібн Хаўкалем, што працаваў у сярэдзіне X стагоддзя; Персідскім Ананімам, што стварыў сваю знакамітую «Кнігу межаў свету» у пачатку 80-х гадоў X стагоддзя, а таксама Аль Ідрысі, аўтарам XII стагоддзя.

Амаль не змяняючы слоў свайго настаўніка Аль Балхі, Аль Істархі піша: «Русь складаецца з трох плямёнаў, з якіх адно найблізкае да Булгара, а цар яго жыве ў горадзе пад назвай Куяба, які больш за Булгар. Другое племя, найбольш аддаленае з іх, называецца Славія. Яшчэ племя завецца Артанія, а цар яго жыве ў Арце. Людзі накіроўваюцца гандляваць у Куябу, што ж датычыцца Арты, то мы не ўзгадваем, каб хто-небудзь з іншаземцаў вандраваў там, бо яны забіваюць усялякага чужынца, які ўступае на іх зямлю. Яны кіруюцца ўніз па вадзе і вядуць гандаль, але нічога не распавядаюць пра свае справы і тавары, і не дапускаюць нікога праводзіць іх, далучацца да іх і ўступаць у іх краіну. З Арты вывозяць чорных собаляў і свінец». Ад сябе Аль Істархі дадае, што Арта знаходзіцца «паміж Хазарам і Булгарам».

Персідскі Ананім, акрамя прац Аль Балхі і Джейхані выкарыстоўваў таксама працы Аль Харэзмі (836-847 гг.), Ібн Хордадбега (846 г.), Ібн Рустэ (903 г.), аўтараў, якія шмат ведалі «пра русаў».

І ён сведчыць: «Куяба — бліжэйшы да краін ісламу горад русаў, ён знаходзіцца ў прыемнай мясцовасці, і там размешчаны рэзідэнцыя цара. Там вытвараецца разнастайнае футра і вырабляюцца каштоўныя мячы. Слаба — прыгожы горад, з якога ў мірны час жыхары ездзяць гандляваць у зямлю булгар. Уртаб — горад, дзе забіваюць іншаземцаў, калі яны трапляюць туды. Там вырабляюць каштоўныя клінкі і мячы, якія можна сагнуць напалову і яны распрастаюцца самі, калі адняць руку. Адтуль вывозяць чорных собаляў і свінец».

У іншым месцы працы аўтар робіць вельмі каштоўную для нас заўвагу: «Есць яшчэ рака Руса (Дуна), якая выцякае з зямлі славян і цячэ ва ўсходнім кірунку аж да межы русаў. Затым яна праходзіць па межах Артаба, Салаба і Куябы, якія з'яўляюцца гарадамі русаў».

Аль-Ідрысі ж указвае нават прыблізную адлегласць паміж імі: ад горада Артан да Куяфы — 4 дня шляху, адтуль да Славіі — таксама 4 дня шляху.

Ібн Хаукаль у «Геаграфіі арыентыраў» практычна перапісвае тэкст Аль Балхі, толькі злёгку відазмяняе канцоўку: «...жыхары Арсы да сябе чужых не пускаюць, самі жа яны спускаюцца па вадзе для гандлю і не паведамляюць нічога аб справах сваіх і таварах сваіх і не дазваляюць нікому следваваць за сабою і ўваходзіць у краіну сваю».

З трох названых усходнімі аўтарамі гарадоў легка знайсці тоесны толькі аднаму — Куябе. Гэта Кіеў. Некаторыя сумненні ў даследчыкаў узнікаюць пры азначэнні Слабы. Найбольш папулярны дзве версіі: што гэта Пераясла або Ноўгарад (узніклы, як мы памятаем, на месцы старажытнага Славенска). Мы перакананы ў абсалютнай пэўнасці першага сцвярджэння, аб чым яшчэ скажам ніжэй.

Што ж датычыць Арты, то тут меркаванні даследчыкаў разыходзяцца. Яе атаясамліваюць і з Тмутараканню, і з Разанню, і з Чарнігавам, і з Растовам, і з Оршай. І нават з востравам Рюген. Пры гэтым прыхільнікі кожнай з версій абавязкова кажуць, што звесткі пра Арту вельмі туманныя і могуць не цалкам адпавядаць рэчаіснасці. Таму яны схільны катэгарычна аспрэчваць тыя выказванні ўсходніх аўтараў, якія хоць бы ў чымсьці супярэчаць іх гіпотэзе. Такі шлях у пошуках ісціны падаецца нам першапачаткова няслушным. Да таго ж аднадушнасць у выказваннях старажытных навукоўцаў-географаў дазваляе давяраць ім. Рызыкнём і мы даць сваё меркаванне: ні адна версія, якая высоўвалася дагэтуль адносна Арты, не мае рацыі. Разгледзім кожную з іх.

Самае недарэчнае меркаванне: Артанія — гэта Тмутаракань, што на Таманскім паўвостраве. Яно засноўвалася на некаторым сугуччы геаграфічных назваў, а таксама на сцвярджэнні, што горад знаходзіцца «паміж Хазарам і Булгарам». Тыя, хто вылучыў гэтую гіпотэзу, шукалі рускі горад паміж Хазарскім каганатам і Балгарскім царствам, гэта значыць, ля Чорнага мора. Але ні адно іншае геаграфічнае азначэнне Арты, дадзенае старажытнымі арабамі, паказанай версіі не адпавядае. Больш таго, Тмутараканскае княства з'явілася толькі ў X стагоддзі, калі кіеўскі князь Святаслаў разграміў Хазарскі каганат, здзейсніўшы ў 965 годзе паход у Прычарнамор'е і на паўночнакаўказскія землі. Але ж апісанне Арты тычыць VIII-IX стст.!

Назвы Разань і Артанія таксама фанетычна блізкія. І азначэнне «паміж Хазаром і Булгарам» можа падысці да Разані, калі мець на ўвазе, вядома, не Балгарскае царства на Дунаі, а волжскую Булгарыю. Але па Ацэ, на якой стаць Разань, ніяк нельга дасягнуць Кіева.

Той жа довад адкідае і меркаванне, што Арта — гэта Растоў.

Несур'ёзна выглядае меркаванне, што Артанія — гэта востраў Рюген. Па-першае, такая геаграфічная асаблівасць абавязкова была б адзначана кімсьці з аўтараў. Па-другое, ніводае з апісанняў Артаніі да вострава Рюген, які знаходзіцца ў Балтыйскім моры, наогул не падыходзіць.

Таксама абсалютна невытлумачальны імкненні некаторых даследчыкаў знайсці Артанію ў землях мардвы-эрзі або на Белавозеры.

Вельмі прывабная версія: Арта — старажытная Орша (таксама ёсць некаторае сугучча). Успрымаючы словы «русы складаюцца з трох плямёнаў» даслоўна, прыхільнікі дадзенай гіпотэзы лічаць, што гэта павінны быць абавязкова асноўныя плямёны ўсходніх славян і тры самых буйных іх горада. І, значыць, Куябія, Славія і Артанія — гэта Кіеўскае, Наўгародскае і Полацкае княствы. Полацкае княства і лічаць Артаніяй. Пры гэтым, праўда, узнікае неабходнасць растлумачыць, чаму ж арабы назвалі гэтую раннеславянскую дзяржаву менавіта па назве горада Оршы? Зазначым, што тлумачэнні гэтыя, як правіла, даволі непераканаўчыя. Бо ніхто не стане адмаўляць, што сталіцай вышэйназванага княства быў Полацк, буйны адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр, добра вядомы іншаземным гандлярам.

Але беларускі даследчык А. Соніч, напрыклад, піша: «Арта-Орша, без сумнення, не з'яўляецца галоўным горадам зямлі (ім быў Полацк), але назву яна, магчыма, атрымала менавіта ад яе, бо была першым населеным пунктам, куды траплялі купцы і паломнікі, якія ўзнімаліся ўверх па Дняпры: за Артай як раз і пачыналася Артанія». Калі развіваць далей гэтае меркаванне, то сучасную Беларусь еўрапейскія карабейнікі павінны былі б зваць Брэстчынай.

Яшчэ адзін алагізм: калі купцы і паломнікі, якія паводле меркавання аўтара артыкула далі назву Артанія Полацкаму княству, беспераашкодна траплялі ў Оршу, то як жа суаднесці з гэтым сцвярджэнне ўсходніх крыніц пра тое, што ў непрыязнай Арце ўсіх чужынцаў забівалі?

Альбо вось яшчэ няпэўнасць. Археалагічныя даследаванні не даюць ніякай падставы для сцвярджэння, што горад Орша існаваў да XII стагоддзя. Праўда, прыхільнікі «аршанскай» гіпотэзы спрабуюць абыйсці гэты падводны камень, выказваючы здагадку, што старажытная Арта першапачаткова знаходзілася ў іншым месцы, адкуль

пазней была перанесена туды, дзе зараз стаіць Орша. Доказам, лічаць яны, з'яўляецца наступнае: ля сучаснай вёскі Чаркасава выяўлены рэшткі буйнога ўмацаванага паселішча VI-VIII стагоддзяў, а ў вярхоўях рэк Оршыцы і Лучосы, ля вёскі Лучоса, у розны час былі знойдзены чатыры скарбы арабскіх срэбных манет-дырхемаў.

Мы ж згадваем аб неаднаразовым сцвярджэнні ўсходніх географаў, што ў Арце жыў «цар» — правіцель Артаніі. Правіцель Полацкага княства ніяк не мог знаходзіцца ў невялікім прымежным паселішчы Оршы.

І, нарэшце, галоўная недарэчнасць. Жыхары Артаніі па рацэ, званай арабамі Русай, вазілі тавары ў Кіеў. Вядома, з ракі Ршы, на якой стаіць Орша, можна, увогуле, дабрацца да Дняпра і спусціцца па ім да Кіева. Аднак колькі гэта заняло б часу! Але ж Аль-Ідрысі, самы скрупулёзны з арабскіх географаў, які меў выдатную па тых часах бібліятэку і выкарыстоўваў у сваёй працы вялікую колькасць прац папярэднікаў, змог вылічыць: патрапіць з горада Артан у Куяфу можна за 4 дні, а з яе ў Славію — таксама за 4 дні.

Шлях з Арты ішоў уніз па плыні ракі. Б. Рыбакоў вылічыў, што адлегласць паміж Артай і Куябай павінна была складаць не больш 300 кіламетраў. Ці падыходзіць да гэтага Орша? Не. Гэтак жа, як, дарэчы, і Ноўгарад — Славенск. Менавіта таму мы лічым дакладнай у азначэнні Слабы версію аб Пераяславе (цяпер Пераяслаў-Хмяльніцкі), які размешчаны ў ста з невялікім кіламетрах ад Кіева ўніз па плыні Дняпра.

Пэўнасць апошняй здагадкі падмацоўвае яшчэ шэраг фактаў. Слаба, па апісанні ўсходніх географаў, — племянны цэнтр, дзе ў адрозненні ад Куябы і Арты «цар» не жыве. У Ноўгарадзе заўжды жыў правіцель-князь. А ў Пераяславе, племянным цэнтры севяран, у перыяд, аб якім ідзе гаворка, князя не было. Севяране аб'ядналіся з суседзямі-палянамі і, прыняўшы агульнае імя «русы», сталі падпарадкоўвацца аднаму правіцелю, які жыў у Кіеве. У сувязі з іх назвай успомнім яшчэ раз пачатак аповеда Аль-Балхі пра тры таямнічыя краіны:

«Русь складаюць тры племені». Многія даследчыкі не звяртаюць ўвагу на гэтае ўдакладненне і таму шукаюць Куябію, Славію і Артанію ў розных, іншы час вельмі аддаленых адно ад аднаго месцах. А між тым, і гэта відавочна, Аль-Балхі мае на ўвазе менавіта ўсходнеславянскае аб'яднанне плямёнаў, якія сталі «русамі». Гэта былі ў VII-IX стагоддзях паляне і севяране, а іх горады-цэнтры — Кіеў і Пераяслаў. Іншыя продкі цяперашніх рускіх, украінцаў і беларусаў называліся проста славянамі.

Але тады правамоцнае пытанне: калі пад назвай «русы» хаваюцца толькі два племені, чаму ж ўсходнія географы называюць тры? Адказ вельмі лёгкі. Калі ў Артанію, якая суседнічае з «землямі русаў» іншаземцаў не пускалі, калі па нейкіх не вядомых нам прычынах ў Арце забівалі ўсіх іншаземных гасцей, якія траплялі туды, то пра гэтую дзяржаву на Усходзе, зразумела, ведалі мала. І, назіраючы некаторую супольнасць звычаяў, знешнасці і мовы купцоў з Артаніі з суседзямі-русамі, арабскія госці Куябы маглі цалкам выказаць здагадку, што гэтае племя таксама «русы».

Дык ці можна вызначыць, кім сапраўды былі жыхары Артаніі?

Самым каштоўным на гэтым шляху з'яўляецца, безумоўна, указанне на адлегласць паміж Куябай і Артай. З вядомых нам гарадоў, дзе мог у гэты час жыць правіцель, падыходзіць Чарнігаў. Племянны цэнтр радзімічаў на Дзясне, левым прытоку Дняпра, ён знаходзіцца ўсяго ў 170 кіламетрах ад палянскай сталіцы. Але для канчатковых высноў варта яшчэ раз уважліва прачытаць апісанне «ракі Русы», на якой стаяць усе тры гарады. Персідскі Ананім вызначае яе як тую, якая «выцякае з глыбінь зямлі славян і цячэ ва ўсходнім напрамку да зямлі русаў». Дзясна, якая цячэ з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад, ніяк не можа быць Русай. Уласна, і Днепр, які нясе свае воды з поўначы на поўдзень, і толькі дзесьці ў сярэдзіне свайго шляху да мора адхіляецца на паўднёвы ўсход, нельга з пэўнасцю ідэнтыфікаваць з Русай з арабскіх геаграфічных трактатаў. Тым больш, што вытокі Дняпра і Дзясны не могуць прэтэндаваць на тое, каб іх называлі «глыбінямі зямлі славян». Якую ж тады раку ўсходнія географы звалі ў VII-XII стагоддзях Русай?

Разгледзім уважліва геаграфічную карту басейна Дняпра. Блакітнай стужкай імкнецца да яго правы прыток, Прыпяць. Ад мяжы з Польшчай яна з захаду на ўсход перасякае землі паўднёвай Беларусі. Убірае ў сябе воды мноства рэк і рачулак і набірае такую сілу, што ў месцы сустрэчы з магутным Дняпром прымушае яго змяніць кірунак плыні, адхіліцца на паўднёвы ўсход. Прыпяць — адзіны буйны прыток Дняпра, які цячэ з захаду. Яна такая моцная і паўнаводная, што госці з Усходу цалкам маглі прыняць яе за частку ўласна Дняпра.

Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што Руса — гэта Прыпяць і ніжняя частка Дняпра, ад месца яго сустрэчы з Прыпяццю да вусця.

Што ж, раку мы знайшлі. А краіну Артанію? А горад Арту? Звернем ўвагу на адзін з прытокаў Прыпяці — Убарць. Можа, не выпадкова некаторыя з усходніх географаў завуць Уртабам сталіцу загадкавай Артаніі? Можа, так бліжэй да славянскага арыгінала? Успомнім, як часта славянскія гарады атрымлівалі свае назвы ад рэк, на

берагах якіх узнікалі: Полацеск — ад Палаты, Віцьбеск — ад Віцьбы, Менск — ад Менкі, Орша — ад Ршы. Можа, у вусці ракі Убарці або на Прыпяці, недалёка ад месца ўпадзення ў яе гэтага прытоку, калісьці знаходзіўся старажытны град славян — Уборцеск або Уборта, сталіца княства дрыгавічоў ці драўлян? Дарэчы, раён упадзення ў Прыпяць Убарці, любоўна названай Уладзімірам Караткевічам самай прыгожай ракой Беларусі, знаходзіцца на адлегласці ад Кіева, якое можна было пераадолець па вадзе за 4 дні.

Для доказу правамоцтва нашых разваг аб размяшчэнні Артаніі ў басейне Прыпяці будзем спасылацца і на найноўшыя адкрыцці археолагаў. Гэтыя месцы ў апошнія дзесяцігоддзі радуюць дзіўнымі знаходкамі. Дзесяткі старажытных гарадзішчаў, сотні селішчаў, курганныя і бескурганныя могільнікі. Яны ёсць па ўсёй даўжыні Прыпяці, на берагах амаль кожнага з яе прытокаў. Пінскі, Жыткавіцкі, Петрыкаўскі, Мазырскі раёны літаральна ўсеяныя імі. Прычым, сярод славянскіх гарадзішчаў ёсць і такія, якія ў даўнія часы былі палітычнымі, рэлігійнымі і эканамічнымі цэнтрамі плямёнаў, зародкі будучых, ужо вядомых нам гарадоў, протагарады.

Паводле меркаванняў кандыдата археалагічных навук Валянціны Вяргей, якая не адзін год займалася вывучэннем Палесся, у VII-VIII стагоддзях у рэгіёне Прыпяці амаль на аднолькавай адлегласці адно ад аднаго знаходзіліся некалькі такіх пунктаў разам з селішчамі, якія атачалі іх. Іх знайшлі ля вёсак Гарадзішча Пінскага, Хатомель Столінскага, Хільчыцы Жыткавіцкага, Кімбораўка Мазырскага раёнаў. Мяркуецца, што такі ж протагорад быў і на тэрыторыі сучаснага Петрыкава, на левым беразе Прыпяці, як раз насупраць таго месца, дзе ў яе ўпадае Убарць.

На тэрыторыі Петрыкаўскага раёна, таксама ўжо шмат гадоў, ідуць раскопкі ўнікальнага археалагічнага помніка ля вёскі Снедзін. Навукоўцы адносяць раннеславянскае паселішча, якое знаходзіцца там, да V-VII стагоддзяў. А якія ўнікальныя прадметы выяўляюць археолагі тут падчас раскопак! Чаго каштуюць толькі дзве фібулы-зашпількі для плашчоў! Адна аказалася візантыйскага паходжання, іншай жа наогул аналагу доўга знайсці не маглі і толькі выпадкова высветлілі, што падобная фібула (адзіная!) у свой час была знойдзена на тэрыторыі Германіі. Выраблены ж абедзве сенсацыйныя знаходкі ў далетапісныя часы.

Археалагічныя даследаванні паказалі, што тады ў басейне Прыпяці ўжо былі досыць развіты здабыча і апрацоўка жалеза. Яго атрымоўвалі з балотнай руды, і гэты промысел захаваўся ажно да XVIII стагоддзя. Так што цалкам маглі палешукі каваць мячы, якія

выпроставаліся пасля таго, як іх згіналі напалову. Тыя самыя, званыя ў былінах харалужнымі, з якімі выходзілі на бой з усялякай нечысцю славянскія волаты.

Такім чынам, усе пакінутыя нам старажытнымі ўсходнімі аўтарамі арыенціры сыйшліся: Артанія, здаецца знойдзена. І нават апошнюю загадку — указанне на тое, што гэтая старажытнаславянская дзяржава знаходзілася «паміж Булгарам і Хазарам» — можна легка разгадаць. Калі разумець пад назвай Булгар не горад, сталіцу волжскай Булгарыі, і не Балгарскае царства на Балканскім паўвостраве, а землі Крыма, таксама заселеныя ў тыя поры булгарамі («чорнымі булгарамі»). Менавіта да гэтых булгар ездзілі, паводле сведчанняў арабскіх географаў, гандляваць жыхары Славіі. І калі прыняць гэтую версію, то і на самой справе атрымоўваецца: горад Куяба бліжэй да Булгару, чым да Хазару; Слаба бліжэй да Хазару, чым да Булгару, а Арта — Уртаб прыкладна роўнааддаленая ад гэтых земляў.

Паспрабуем разабрацца і з апошняй загадкай Артаніі — адказаць на пытанне, чаму ў сталіцу яе не было ходу чужынцам.

Б. Рыбакоў нечакана для іншых даследчыкаў, якія наогул губляліся ў здагадках адносна ўтоенасці артанцаў, выказаў здагадку, што Арта павінна была быць горадам-свяцілішчам. І ён старанна шукаў такі горад дзе-небудзь недалёка ад Кіева і Пераяслава. Ведаючы зараз, дзе ж насамрэч знаходзілася Арта, мы можам паспрабаваць «прымерыць» гіпотэзу Б. Рыбакова да яе. Ці магла Арта быць горадам таемных жрэцкіх ведаў? Чаму б і не.

«Вялесава кніга», падрабязна распавядаючы пра гібель Семярых, якія ахвяравалі сабою дзеля вызвалення дулебскай зямлі ад авараў-обраў, дае зразумець, што на Галыні больш таемны магічны інстытут Семярых не адрадзіўся. Але Сямёра згадваюцца і ў пазнейшыя часы. Дзе ж былі яны пасля гібелі обраў? Можа, як раз на Палессі, у кутку загадак, таямніц, зямлі спрадвечна чарадзейскай, у Герадотавай Няўрыдзе, у Іярданавай «зямлі Оўм». І ці не перанеслі яны ў адзін з палескіх гарадоў дрыгавічоў або драўлян «дулебскія храні», даўшы славянскаму Уборцеску падобную па гучанні, аднак маючую значна больш глыбокі, свяшчэнны сэнс, загадкавую ўсходнюю назву Арта? Па-старажытнаперсідскаму гэта значыць — «праўда», «Боская ісціна» — ідэнтычна старажытнаславянскаму слову «правь». У «Вялесавай кнізе», між іншым, ёсць даволі яснае ўказанне на сувязь Семярых з Усходам. Паводле тэксту дошчачкі 31, яны бывалі нават у Індыі:

*«Дысвяціцца той, каго называюць Індра!*
*Бо гэта той, каго мы клічам богам мечаў.*
*Пра гэта мы дазналіся з Вед.*

*Дык уславім жа імя яго!*
*Маем мы статкі скацiны, якія ад зла і пагубнай зайздрасці сцерагчы наказалі Сямёра,*
*якія хадзілі ад земляў Арсціі (! — Аўт.)*
*да краю Іньскага.*
*І растлумачылі,*
*што былі яны ў раі траўным для скацiны,*
*распешчанай ласкай.*
*Таму весялосць вялікая нас ахапіла».*

Неверагодна? Магчыма, камусьці падасца і гэтак. Бо прынята ж лічыць, што першым з усходніх славян у далёкую і таямнічую Індыю патрапіў цвярскі купец Афанасій Нікіцін. Але насамрэч нічога незвычайнага тут няма. Знакаміты Шаўковы шлях, які злучаў Русь з Візантыяй і Заходняй Еўропай, існаваў яшчэ да X стагоддзя. А маршруты, пракладзеныя арабамі ў землі хазар і славян, былі адгалінаваннямі гэтага шляху. Ці варта здзіўляцца, што ім скарысталіся Сямёра нашых мудрацоў!

Спачатку ім было досыць любым маршрутам дабрацца да сталіцы Хазарскага каганата Іціля, горада, які знаходзіўся ў нізоўях Волгі, — там даволі часта бывалі ў часы Артаніі рускія купцы. Адтуль шлях нашых вандроўнікаў ляжаў праз Каспійскае мора, якое арабы звалі Джурджынскім. Пераадолеўшы яго, трэба было проста высадзіцца ў любым арабскім горадзе. І гэты маршрут добра быў знаёмы нашым продкам. Сведчанне таму — радкі з «Кнігі шляхоў і дзяржаў» Ібн Хордадбега: «Часам яны (рускія купцы. — Аўт.) прывозяць свае тавары на вярблюдах з Джурджана ў Багдад, дзе перакладчыкамі ім служаць славянскія рабы. І выдаюць сябе за хрысціян».

Магчыма, і Сямёра правандравалі ад берагоў Каспія да самога Багдада з нейкім караванам на вярблюдах, якіх славяне звалі раней «вельблудь», бо гэта было сугучна словам «вялікія блуканні». Ну, а ад Багдада альбо на конях, альбо ўсё на тых жа «вельблудях» ужо не так складана было ваярам Сварога пераправіцца ў таямнічую зямлю Інда і Ганга.

Такім чынам, інстытут Семярых працягваў існаваць. Мудрыя старцы — ваяры Сварога — жылі ў Арце і адтуль распаўсюджвалі на ўсе землі ўсходніх славян святло ведаў, якія яны звяралі з Усходам. І хай не заўсёды ў іх пропаведзях простыя слухачы бачылі адразу глыбінны сэнс (як у выпадку аповеду Семярых аб Індыі, з якога славяне зразумелі толькі тое, што Індра — гэта Пярун, і індусы ўшаноўваюць кароў), паступова іх розум пад уздзеяннем вучэння Семярых усё больш прасвятляўся, а дух усё больш мацаваўся. Усходнія славяне

ператвараліся ў носьбітаў духоўнасці і культуры, наўпрост звязаных з касмічнымі сіламі і касмічным розумам. І «Вялесава кніга» прыводзіць мноства сведчанняў гэтаму. Вось толькі некалькі ўрыўкаў, у якіх захаваліся навек розгаласы вучэння вялікіх славянскіх настаўнікаў, што засталіся для нас безназоўнымі і ледзь было не аказаліся забытымі.

*Маці Слава спявае аб справах нашых ратных.*
*Есць пра што паслухаць нам, тым, хто жадае бітвы суровай*
*за Русь нашу і прабацькоў нашых.*
*Маці Слава ззяе ў аблоках, як сонца,*
*І прарочыць нам перамогі і пагібель.*
*Нічога не баімся, жывучы. на зямлі,*
*бо для віцязя магчымае жыццё вечнае,*
*і таму мусім рупіцца аб вечным,*
*бо зямное супраць яго — нішто.*
*Самі на зямлі, як іскры, і згінем у цемры,*
*быццам бы і не існавалі ніколі.*
*Толькі слава нашых бацькоў і матак слава*
*Будзе ў нас да канца канцоў зямной і іншых жыццяў.*
*Гэтак праслаўленым няма чаго баяцца смерці.*
*Смяемся над ёю мы, нашчадкі Дажбога... (7—Э)*
*Гэтак жа, як і бацькі нашы, ачышчайцеся маленнем*
*і абмываннем.*
*І абмывайцеся, маленні ствараючы аб чысціні душы сваёй*
*і цела,*
*як Сварог усталяваў гэтыя абмыванні*
*і Купала тое наказаў.*
*І не асмельвайцеся пагарджаць*
*абмываннем целаў, бо абмываеце*
*і дух свой у чыстай вадзе жывой.*
*А пасля гэтага ідзіце працаваць,*
*і кожны дзень маленні стварайце,*
*і піце сонечныя промні, якія да гэтых часоў ужывалі.*
*І рабіце гэта пяць разоў у дзень.*
*І хваліце багоў нашых за радасць гэтую,*
*бо сонечныя промні — гэта малако наша,*
*пасланае дзеля харчавання нашага.*
*А корм ідзе ад кароў да нас, і гэтым жывем,*
*і травы злакавыя, звараныя ў малаку*
*з'ядаючы, кожны атрымоўвае прычасць сваю.*
*Цячэм мы да той ракі, сыны. мае,*
*водам якой час не страшны,*
*бо яна ёсць — мяжа вечнасці для нас.*
*І там убачым прашчураў сваіх і маці,*
*якія здабылі Сваргу. (*славянскі рай. — *Аўт.)*
*Там яны статкі нябесныя пасвяць, і абмываюцца,*

*і плятуць вянкі з сонечных промняў,*
*і жыццё маюць, падобнае да нашага,*
*але там няма ні гунаў, ні элінаў, і Правь княжыць над імі.*
*І тая Правь ёсць Ісціна, бо Навь (усяленскае зло. — Аўт.)*
*адсутнічае.*
*А Ява (*зямная рэчаіснасць. —*Аўт.) — дадзена*
*і будзе назаўждыў Светавідзе.*
*І Зарабог (*эпітэт Сварога. — *Аўт.) ідзе ў землі*
*тыя судзіць пращураў нашых.*
*Як жылі яны. на зямлі і як пакутавалі — па тым і будзе.*
*Пойдуць адтуль тыя, якія маюць злосці шмат.*
*Там злых не трымаюць. Травой зялёнай прарастаюць яны.*
*і шэпчуць шолахам сваім пра волю Боскую*
*і пра шчасце людзей іншых... (праведнікаў у Сварзе. —Аўт.)*
*... Таму ж, хто загіне на поле ратным Перуніца*
(дачка Пяруна, славянская валькірыя. —*Аўт.)*
*дае вады жывой выпіць.*
*І той, хто глыне яе, рушыць ў Сваргу на кані белым.*
*І там сустракае яго Пярун*
*і вядзе ў светлыя свае пакоі.*
*І там той знаходзіцца да пэўнага часу,*
*пакуль не атрымае цела новае,*
*і гэтак жыве ў радасці вечна,*
*аб нас маленні ствараючы... (26)*
*Апавядаем пра бацькоў нашых, якія загінулі ў барацьбе.*
*Да пераможаных у бітве,*
*Пярунец прыходзіць і вядзе іх.*
*І колькі ёсць праху на зямлі,*
*столькі ж у Сварзе нябесных ваяроў для нас.*
*Яны дапамагаюць рацям, сыходзячы з аблокаў на зямлю.*
*Гэта дзеды нашы — Дажбог на чале іх воінства.*
*Як жа з гэтымі не перамагчы нам! (17-Б)*

Таямнічая Артанія, святы град Арта... Ці магчыма дакладна датаваць час іх існавання? Калі звязваць іх з Семярымі, то відавочна, што гэта будзе VII — пачатак X стст., перыяд ад пагібелі обраў да ўзнікнення ў Палескіх землях Тураўскага княства, галоўны горад якога Тураў, верагодна, стаў шмат у чым пераемнікам Арты.

Да гэтай думкі схіляе адно з тураўскіх паданняў, запісаных супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Крыху паўднёвей Турава знаходзіцца невялічкае сяло Семурадцы. Паданне сцвярджае, што ў часы Тураўскага княства менавіта тут жылі сем княжых старэйшын, якія «судзілі ды радзілі» тураўцаў. Магчыма, менавіта Семурадцы сталі апошнім прыстанкам муд-

рых старцаў, ваяроў Сварога, перад хрысціянізацыяй усходнеславянскіх земляў?

Такім чынам, Тураўскае княства стала пераемнікам Артаніі. Але чаму ж, можа, спытае, чытач, гэтая старажытнаславянская дзяржава памінаецца і ў працах усходніх аўтараў, якія жылі ў пазнейшыя часы? Нагадаем, што з тых, хто пісаў пра Куябу, Слабу і Арту, толькі Джэйхані і Аль Балхі — сучаснікі Артаніі, былі стваральнікамі арыгінальных прац. Астатнія з'яўляліся кампілятарамі, якія выкарыстоўвалі для напісання сваіх кніг працы папярэднікаў. Аль Істархі, Ібн Хаўкаль і Персідскі Ананім, што жылі ў X стагоддзі, яшчэ не мелі магчымасці разабрацца, у чым адрозненне Артаніі ад Тураўскага княства. А Аль Ідрысі, які жыл і працаваў у Іспаніі ў XII стагоддзі, і чыя кніга была напісана па замове караля неапалітанскага як дадатак да вялізнай геаграфічнай карты свету, складалася толькі на аснове чужых геаграфічных прац, звесткі з якіх аўтарам не праправяраліся з-за дастатковай аўтарытэтнасці крыніц. Таму Артанія, што даўно ўжо не існавала ў рэчаіснасці, патрапіла ў геаграфічную працу XII стагоддзі.

## АБ ГРАДЗЕ ІСКАРАСЦЕНЕ І КНЯЗІ ДРАЎАЯН МАЛЕ

Драўляне — яшчэ адно славянскае племя, якое зрабіла свой унёсак у фарміраванне беларускага народа. Яны жылі сярод густых лясоў на правым беразе Прыпяці, а таксама на берагах рэк Цецераў, Уж, Убарць, Сцвіга. На левым беразе той жа Прыпяці жылі дрыгавічы. Падзеленыя натуральнай воднай мяжой, суседзі суіснавалі ў міры. У іх былі сходны побыт, звычаі і звычкі, якія вызначала шмат у чым мясцовасць, выбраная некалі бацькамі абодвух плямёнаў для рассялення і жыцця.

Украінскі гісторык М. Грушэўскі ў канцы XIX стагоддзя пісаў пра драўлян: «Умовы мясцовасці схілялі насельніцтва больш да палявання ды пчалярства, чым да земляробства. Затое лес служыў выдатнай абаронай ад качэўнікаў; ён для апошніх заўжды з'яўляўся неадольнай перашкодай».

Але калі ўзаемаадносіны паміж драўлянамі і дрыгавічамі былі амаль увесь час дружалюбнымі, то стасункі з іншымі суседзямі, палянамі, ужо з пачатку X стагоддзя складаліся зусім няпроста. У таго ж М. Грушэўскага знаходзім: «Жыхары драўлянскай зямлі павінны былі саступаць у культуры сваім усходнім суседзям» (г. з. палянам. — Аўт.). Аднак, зусім не гэта рабіла іх узаемаадносіны канфліктнымі і нясцерпнымі, а няспыннае імкненне кіеўскіх князёў падпарадкоўваць сабе іншыя плямёны.

У 883 годзе прыйшоў у землі драўлян з вялікім войскам князь Алег. Ён усклаў на іх даніну, прычым патрабаваў аддаваць яе футрам вельмі каштоўных і рэдкіх нават у тыя часы чорных куніц. Праўда, адразу пасля таго, як у 912 годзе гэты кіеўскі князь памёр, драўляне рашуча адмовіліся даваць даніну яго пераемнікам. Але ўжо ў 914 годзе, новы кіеўскі князь Ігар «пайшоў на драўлян і, перамогшы іх, усклаў на іх даніну больш Алегавай».

Драўлянскія землі ізноў патрапілі ў залежнасць ад Кіева. І хоць жылі драўляне там жа, дзе і раней, і правіў імі, як і раней, іх князь Мал, які сядзеў у стольным горадзе Іскарасцені, кожную восень даводзілася ім прымаць у сябе ненавіснага Ігара і шматлікую яго світу, што суправаджала яго ў палюддзі — штогадовым аб'ездзе ўсёй падуладнай «светламу князю» тэрыторыі для збору даніны. Світа Ігара налічвала некалькі сотняў чалавек: дружыннікі, конюхі, ездавыя, кашавары, слугі... І усіх іх трэба было накарміць, напаіць, улагодзіць. Усведамленне таго, што не ты ў сваёй хаце гаспадар, прыгнятала не толькі князя драўлян і яго баяраў, але і простых земляробаў.

Яшчэ больш абурала драўлян тое, што даніна, якую бяруць з іх, ідзе на ўтрыманне варажскай дружыны Свэнэльда, нанятай Ігарам. Калі толькі гэта стала вядома, Мал ізноў адмовіўся даваць даніну. Гэтак жа зрабіў і князь улічаў, з якіх таксама спаганялі даніну для Свэнэльда. Пачалася новая вайна. Мы не ведаем, колькі часу аказвалі супраціўленне драўляне, а вось уліцкі горад Перасечаны супраціўся тры гады. І толькі пасля гэтага Ігар «укатаваў улічаў, усклаўшы на іх даніну, і аддаў Свэнэльду». Вярнуў Ігар і драўлян у становішча даннікаў. Але перамогі гэтыя, як ні дзіўна, у далейшым толькі нашкодзілі кіеўскаму князю. А усё з-за зайздрасці, якая ахапіла яго ўласных дружыннікаў. Убачыўшы вояроў Свэнэльда ў прывілеяваным становішчы, сталі яны наракаць, што князь іх «даў адзінаму мужу зашмат», маючы на ўвазе тую даніну, якую княжы ваявода збіраў з драўлян і улічаў. І прычапіліся аднойчы дружыннікі да Ігара: «Отракі Свэнэльда разадзеліся суць зброяй і порты (вопраткай. — Аўт.), а мы голыя. Пойдзем, князь, з намі за данінай, і сабе здабудзеш, і нам».

І Ігар, у рэшце рэшт, здаўся. Тым больш, што пасля пераможнага паходу ў 943 годзе на Візантыю і заключэння з ёю выгаднай дамовы, якая ўмацавала становішча Русі, вострай неабходнасці ў варажскіх наймітах ён ужо не меў. І мог пазбавіць Свэнэльда даніны драўлян.

«І паслухаўся іх Ігар — пайшоў да драўлян за данінай і дадаў да ранейшай даніны новую, і дзеялі гвалт над імі (драўлянамі. — Аўт.) мужы яго». Як відаць з гэтага летапіснага ўрыўка, кіеўскі князь не толькі сабраў усё належнае яму, але запатрабаваў яшчэ больш. Драў-

ляне, якія памяталі аб нягодах, што перанеслі падчас яго ваеннага паходу да іх, пакорліва падпарадкаваліся, разлічваючы на тое, што дружыннікі Ігаравы, як звяры лютыя, насыціўшыся, сыйдуць. І спачатку падавалася, што так і будзе. Ігар з вялізным абозам накіраваўся дадому. Але неўзабаве драўляне даведаліся, што кіеўскі князь ізноў едзе да іх. Ігару раптам захацелася яшчэ больш набраць багаццяў у драўлян. Ён сказаў сваёй дружыне: «Ідзіце з данінай дахаты, а я вярнуся і пахаджу яшчэ». Вялікую частку дружыннікаў князь адправіў суправаджаць абоз са здабычай, а сам улёгцы, толькі з малым лікам ваяроў накіраваўся здзяйсняць свой план.

Вестка аб вяртанні Ігара выклікала ўсеагульнае абурэнне драўлян. Мал разам з набліжанымі стаў думаць, што рабіць. І, нарэшце, яны вырашылі: «Калі панадзіўся воўк да авечак, то вынесе ўвесь статак, пакуль не заб'ем яго. Так і гэты: калі не заб'ем яго, то ўсіх нас загубіць». Праўда, усё ж спачатку паспрабавалі дамовіцца мірна. Выслалі насустрач Ігару людзей — нагадаць, што даніна ўжо аддадзена цалкам. Сумленне Ігара, да якога заклікалі драўляне, не абудзілася.

А праз некалькі дзён драўлянскі атрад, што выйшаў з Іскарасценя, напаў на яго дружыннікаў і ўсіх перабіў. Дагэтуль існуе ў месцах, дзе гэта адбылося, паданне. Жыхары хутара Ігараўка, размешчанага ў 7-8 кіламетрах ад Карасценя (старажытнага Іскарасценя), распавядаюць, што Ігара з дружынай «гналі ўначы. Тыя ў Кіеў паскакаць хацелі, ды іх у балота загналі. Коні ў багне ўгразлі. Тут іх у палон і ўзялі». Зрэшты, мяркуючы па летапісам, ваяроў-кіеўлян знішчылі ўсіх. Паланілі толькі князя. Яго чакала больш страшная смерць, чым яго дружыннікаў. Пераможцы сагнулі дзве бярозкі, прывязалі «князяваўка» да іх ствалоў за ногі і адпусцілі... Менавіта так распавядае аб смерці Ігара візантыйскі пісьменнік Леў Дыякан.

Каго-небудзь з чытачоў, магчыма, абурыць такая жорсткасць, і ён абвінаваціць драўлян у крыважэрнасці. У апраўданне іх учынку прывядзем некалькі радкоў з вядомай балады рускага паэта-рамантыка К. Рылеева. Удава князя Ігара Вольга паказвае сыну Святаславу курган, дзе пахаваны яго бацька, і гаворыць, што той сам вінаваты ў сваёй смерці. А завяршаюць баладу яе ж словы:

Дружына лютая лягла
Без гонару, без славы,
А бацька твой, віноўнік зла,
Ахвярай стаў крывавай.

Вядома, можна сказаць, што Рылееў, паэт-дзекабрыст, неаб'ектыўны да кіеўскага князя. Што ён менавіта так жадаў паказаць усю брыдоту дэспатызму. Але ж і Нестар-летапісец прызнае справядлі-

васць пакарання Ігара. Тым больш, што каралі князя не ў гарачцы бітвы. Не адразу ж пасля таго, як захапілі яго ў палон. Пераможцы вырашалі лёс Ігара, як вынікае з летапісу, на вечы — народным сходзе.

Такім чынам, кіеўскі князь быў забіты. Зло зрынута. Аднак усе, і ў першую чаргу Мал, разумеюць, што Кіеў ім гэтага не даруе. Што б зрабіў на месцы Мала іншы правіцель? Верагодна, спешна сабраўбы войска і нанёс удар па пакінутым без князя Кіеве. Такая акцыя, хутчэй за ўсё, завяршылася б перамогай, тым больш што аб пагібелі Ігара ніхто з яго набліжаных яшчэ не ведаў. І захапіць сталіцу палян раптоўным нападам было б цалкам магчыма.

Але Мал вырашае зрабіць інакш. Ён накіроўвае паслоў, якія мусяць паведаміць жонцы Ігара аб смерці яе мужа і прапанаваць ёй выйсці замуж за Мала. Большасць даследчыкаў мяркуюць, што такім чынам драўлянскі князь жадаў прыбраць да рук Кіеў. Магчыма і так. Але існуе і іншае тлумачэнне яго паводзін. Згодна з язычніцкім светаразуменнем, князь, акрамя ўсяго іншага, выконваў і функцыі сакральнага пасрэдніка паміж багамі і людзьмі. У такім разе яго страта або забойства было напоўнена асаблівым значэннем. Так, паляне пасля смерці Ігара, а адпаведна разуменням язычнікаў, апынуліся безабароннымі і бездапаможнымі перад знешнім светам. Ці не гэта мелі на ўвазе драўляне, калі гаварылі: «Вось князя забілі рускага, возьмем жонку яго Вольгу за князя свайго Мала і Святаслава (малалетняга сына Ігара. — Аўт.), і створым з яго, што жадаем».

Зрэшты, магчыма, што за гэтым былі схаваны і яшчэ больш старажытныя традыцыі. Шмат у якіх народаў у дахрысціянскі час улада ў тым выпадку, калі правадыр гінуў у баі альбо на паядынку, даставалася яго пераможцу, які павінен быў ажаніцца з удавой забітага. Успомнім шырокавядомую гісторыю Эдыпа, які падчас выпадковай сутычкі на дарозе, забіў правіцеля горада-дзяржавы Фіваў, пасля чаго мусіў ажаніцца з аўдавелай царыцай і стаў кіраваць разам з ёю. Займеў ад яе чацвярых дзяцей, і толькі праз шмат гадоў даведаўся, што забіты ім цар быў яго бацькам, а жанчына, што стала жонкай — была роднай маці. Гэтак злосна пажартавалі над антычным героем багі Алімпу! Але гэта ўжо — тэма для іншай гутаркі. А мы вернемся да старажытнага звычаю, які абавязвае забойцу правадыра або цара ўступіць у шлюб з яго жонкай. І гэтым разам прывядзем прыклад з бліжэйшых часоў.

X стагоддзе. Наўгародскі князь Уладзімір пасля захопу Кіева і ліхадзейскага забойства Кіеўскага князя, які даводзіўся яму родным братам, бярэ шлюб з яго ўдавой.

Некалькімі дзесяцігоддзямі пазней сын вышэйназванага Уладзіміра ад іншай яго жонкі, полацкай князёўны Рагнеды-Гарыславы, Мсціслаў Тмутараканскі, быў выкліканы на сумленны паядынак сваім супернікам, правадыром аднаго з плямёнаў каўказскіх горцаў, касогаў, Рэдзедзей. Рэдзедзя прапанаваў: «Чаго дзеля мы будзем губіць у бітве дружыны свае. Лепш сыйдземся з табою, ды памераемся сілай. Калі адолееш ты, то возьмеш усе мае багацці — і жонку маю, і дзяцей маіх, і маю зямлю. Калі ж адолею я, то вазьму ўсё тваё». Мсціслаў пагадзіўся, хаця касог, які, дарэчы, важыў значна больш, выставіў і яшчэ адну ўмову: «...не зброяй будзем ваяваць, а барацьбой».

У паядынку, хоць і з вялікай цяжкасцю (па словах летапісца, толькі звярнуўшыся за дапамогай да Багародзіцы), перамог Мсціслаў. Ён дабіў зрынутага ім на зямлю супраціўніка нажом. Мы не можам, на жаль, сказаць напэўна, ці ажаніўся Тмутараканскі князь на аўдавелай гаранцы, але гэта цалкам верагодна. Ніводны радавод імя жонкі Мсціслава не прыводзіць, вядома толькі, што быўу яго адзін сын Яўстафій, які памёр у юным узросце, за год да смерці бацькі. Пры ўсім пры гэтым добра вядома, што землі касогаў былі Мсціславам далучаныя да яго княства, а ваяры-касогі ў далейшым складалі немалую частку яго войска.

Абодва апошніх прыведзеных намі факта адбыліся значна пазней забойства Малам Ігара. Наўгародскі князь Уладзімір да моманту захопу ім Кіева быў яшчэ язычнікам (ён хрысціўся ў больш сталым узросце), але Мсціслаў быў хрышчаны з самога дзяцінства. І пры ўсім пры тым абодва не толькі ведалі пра існаванне звычаю жаніцьбы на ўдаве зрынутага суперніка, але і ўжывалі яго на практыцы.

Так што няма нічога дзіўнага ў тым, што Мал вырашыў пасватацца да аўдавелай па яго віне Вольгі. Драўлянскі князь накіраваў да яе ладдзю з дваццаццю сватамі. І вось прыбылі яны ў Кіеў, нібыта гром сярод яснага неба. Паўстаўшы перад княгіняю, драўляне звярнуліся да яе: «Паслала нас Драўлянская зямля і загадала табе сказаць: мужа твайго мы забілі, а за тое, што быў муж твой, акі воўк, драпежнік несправядлівы і рабаўнік, а ў нас князі добрыя, не драпежнікі, не рабаўнікі, распаслі, узбагацілі зямлю нашу, як добрыя пастухі, так пайдзі ж за князя нашага Мала».

Цікавы нюанс, на які дагэтуль мала зважалі даследчыкі: Мал, сватаючы Вольгу, запрашаў яе да себе ў Іскарасцень. Гэта можа значыць толькі тое, што князь драўлян не збіраўся правіць у Кіеве. Верагодна, ён меў намер памяняць Кіеў і Іскарасцень месцамі, узвысіць сваё племя і зрабіць даннікамі палян. Можа, Мал нават разважаў над тым, каб аддаць Ігараў прастол яго сыну Святаславу, папярэдне выха-

ваўшы хлопчыка так, каб ён не помсціў за Ігараву смерць. Калі б ўсё адбылося па задуме Мала, дык хто ведае, якой была б старажытная гісторыя ўсходніх славян? Можа, менавіта Іскарасцень звалі бы сёння «бацькам рускіх гародоў», і невядома, ці існаваў бы такі тэрмін як Кіеўская Русь. Бо ўсходнеславянскія землі аб'ядноўваліся б вакол іншых цэнтраў. І, пэўна, была б Русь хрышчоная значна пазней. І верагодна, захавалася б тады ў архівах і бібліятэках нашых значна больш пісьмовых сведчанняў ад часоў далетапісных.

Але ў гісторыі не існуе ўмоўнага ладу. Выслухаўшы паслоў Мала, Вольга адказала ім: «Падабаюцца мне словы вашы. Мужа свайго Ігара мне ўжо не ўваскрэсіць, але жадаю вас ушанаваць раніцой перад людзьмі сваімі, а цяпер ідзіце ў ладдзю сваю, і кладзецеся ў ладдзі, чакаючы велічання, і я зранку пашлю за вамі. Вы жа скажаце: "Не паедзем на канях, не паедзем на вазах, і пешкі не пойдзем, але нясіце нас у ладдзі", — і ўзнясуць вас у ладдзі. Такое будзе вам ушанаванне. Гэтак я люблю вашага князя і вас».

Узрадаваныя паслы вярнуліся да сваёй ладдзі, куды ім тут жа Вользіны слугі прынеслі піва і мёда. П'яныя і вясёлыя, яны да поўначы не маглі супакоіцца і, хвалячы сябе за ўдала праведзенае сватанне, усё ўсклікалі: «Ведаў бы ты, наш князь, як мы тут табе ўсё зладзілі!».

А ў гэты час княгіня, склікаўшы сваіх баяраў на раду, абмяркоўвала з імі, як лепш пакараць смерцю драўлянскіх сватоў. Зрэшты, дадзім ізноў слова аўтару «Аповесці мінулых гадоў»: «Вольга... загадала выкапаць яму вялікую і глыбокую на церамным двары па-за градам. На наступны ранак, седзячы ў цераме, паслала Вольга за гасцямі, і прыйшлі да іх і сказалі: "Кліча вас Вольга для гонару вялікага". Яны ж адказвалі: "Не едзем ні на канях, ні на вазах і пешыя не ідзем, але панясіце нас у ладдзі". І адказалі кіеўляне: "Нам няволя, князь наш забіты, а княгіня наша хоча за вашага князя", — і панеслі іх у ладдзі. Яны ж сядзелі, велічаючыся, узяўшыся ў бакі і ў вялікіх нагрудных бляхах. І ўзнеслі іх на двор да Вольгі, і як неслі, так і скінулі іх разам з ладдзёй у яму. І, схіліўшыся да ямы, спытала іх Вольга: "Ці добры вам гонар?" Яны ж адказалі: "Горш нам за Ігараву смерць". І загадала засыпаць іх жывымі».

Гэтая гісторыя, без сумнення, добра вядома нашаму чытачу. Звычайна дзеянні кіеўскай княгіні тлумачацца проста помстай жанчыны за забітага мужа. Але сучасны расійскі гісторык Ігар Фраянаў падышоў да гэтага пытання глыбей. Ён звярнуўся да іншых летапісных крыніц. Справа ў тым, што першапачатковы варыянт працы манаха Нестара не захаваўся. Ён вядомы ў шматлікіх пазнейшых спісах. А яны адрозніваюцца па сваім змесце, нават асноўныя, так званыя

Іпацьеўскі і Лаўрэнцьеўскі. У шматлікіх спісах адчуваецца «рэдактарская праўка» уладных людзей таго часу, калі яны ствараліся. У іншых перапісчыкі, якія валодалі дакументальнай інфармацыяй, што адсутнічала ў Нестара, бралі на сябе адказнасць уставіць яе ў яго працу. А яшчэ існуюць летапісы, створаныя ўдалечыні ад Кіева мясцовымі летапісцамі.

Дык вось, супастаўляючы розныя летапісы, І. Фраянаў ва «Усцюжскім летапісным зборы» выявіў нейкую маленькую дэталь, якая адсутнічала ў аповедзе аб расправе Вольгі з драўлянскімі сватамі ў іншых інтэрпрытацыях. Аказваецца, «...Вольга загадала выкапаць яму вялікую і глыбокую ў двары церамным па-за градам і напаліла вуглёў дубовых... І прынеслі іх (драўлян. — Аўт.) да Вольгі на двор і, несучы, кінулі іх у яму падпаленую з ладдзёю».

З усяго гэтага вышэйназваны даследчык зрабіў цэлы шэраг высноў. Ён звярнуў увагу на тое, што княгіня загадала насыпаць у яму не якіх-небудзь вуглёў, а менавіта дубовых, сцвярджаючы, што гэта не было выпадковасцю: бо «Дуб — дрэва Перуна, г. зн. вярхоўнага бога палян. У выкарыстанні дубовых вуглёў укладзены адмысловы сэнс, звязаны з ачышчэннем, абясшкоджваннем душ злых нябожчыкаў, якімі для Вольгі і "кіян" былі пахаваныя жыўцом драўляне». І. Фраянаў сцвярджае: «Бачна, забойства драўлян насіла рытуальны, ахвярны характар. Першае драўлянскае пасольства, такім чынам, Вольга прынесла ў ахвяру палянскім багам і даслала яго ў падземны свет — ніжнюю зону Сусвету».

Уласна на рытуальны характар расправы са сватамі, на думку даследчыка, паказвае і месца, вылучанае для яе — на княжым двары. «Княжы двор, — сцвярджае І. Фраянаў, — служыў сакральным месцам, бо сам князь, з'яўляючыся носьбітам чароўнага пачатку, быў надзелены жрэцкімі функцыямі».

Здавалася б, Вольга павінна задаволіцца здзейсненым. У крайнім выпадку, арганізаваць паход супраць драўлян. Усё ж такі, большасць дружыннікаў, — усе тыя, каго Ігар адправіў з абозам, — засталіся жывыя. Ды і варагі Свэнэльда працягвалі служыць княжай сям'і. Хто ведае, можа, якая-небудзь іншая раптам аўдавелая княгіня так і зрабіла б. Але не Вольга. Вольга задумала здзейсніць яшчэ адну расправу над драўлянамі. Яна паслала да іх ганца са словамі: «Калі напраўду мяне просіце, то дашліце знарочыстых мужоў, каб з гонарам пайсці за вашага князя, інакш не пусцяць мяне кіеўляне».

Драўляне настолькі былі ўпэўнены ў справядлівасці сваіх дамаганняў, што тут жа вылучылі неабходную для пасольства колькасць мужоў з ліку тых, хто кіравалі ў іх зямлі. Мал быў «князем над кня-

зямі». Драўляне, як і паляне, і крывічы, і радзімічы, хоць мы звыкла называем іх плямёнамі, былі насамрэч саюзамі плямёнаў.

У Кіеве ўжо было ўсё падрыхтавана да прыёму «шаноўных госцяў». Калі яны з'явіліся перад княгіняй, тая загадала прыгатаваць ім лазню і прапанавала: «Вымыўшыся, прыходзьце да мяне».

«І напалілі лазню, і ўвайшлі ў яе драўляне, і сталі мыцца; і замкнулі за імі лазню, і загадала Вольга запаліць яе ад дзвярэй, і тут згарэлі ўсе».

І зноў месца для кары было абрана не выпадкова. І. Фраянаў тлумачыць: «Як і княжы двор, лазня — сакральнае месца, якое ўяўляла сабою замкнёную прастору, ізаляваную ад знешняга свету. Уваходжанню драўлян у лазню папярэднічалі, верагодна, нейкія рытуальныя дзеянні. Паводле летапісца Пераяслаўля-Суздальскага, Вольга «загадала іх паіць». Магчыма, тут разумеецца рытуальнае піццё хмельнага напою. З большай упэўненасцю можна казаць пра мэту змяшчэння «знарочыстых мужоў» у лазню. Жаданне ізаляваць, перапыніць іх сувязь і зносіны з духамі, абясшкодзіць — вось у чым яна заключалася.

І трэба сказаць, што ў кіеўскіх язычнікаў для гэтага былі важныя падставы. Бо «знарочыстыя мужы», якія трымаюць Драўлянскую зямлю, гэта — правіцелі. У старажытных жа грамадствах такія людзі карысталіся рэпутацыяй магаў і чарадзеяў, якія валодаюць звышнатуральнымі здольнасцямі. Таму драўлянскія «знарочыстыя мужы» выклікалі ў Кіеве пачуццё павышанай небяспекі, што і стала прычынай іх ізаляцыі ў лазні. Пацверджанне дадзенаму меркаванню знаходзім у адной цікавай падрабязнасці, якую звычайна не заўважаюць даследчыкі. «Істобку» (лазню. — Аўт.) Вольга загадала «падпаліць ад дзвярэй».

І. Фраянаў завастрае ўвагу чытачоў на тым, што лазня была падпалена менавіта гэтак і сцвярджае: «У традыцыйным грамадстве жыллё — адзін з ключавых знакаў культуры... Квінтэсэнцыя засвоенага чалавекам свету». Заяўляе: «Не падлягае ніякаму сумненню сакральнасць жылля». Тлумачыць, што «межы хаты (сцены, падлога, дах) ізалявалі людзей, якія жылі ў ёй ад згубнага ўварвання варожых сіл, служылі ім надзейнай абаронай. Адмысловая роля належала ўваходу і вокнам, чыё семіятычнае значэнне было вельмі вялікім. Яны забяспечвалі пранікальнасць меж хаты, што надавала ім "статус асабліва небяспечных кропак сувязі з мясцовым светам" — і адпаведна "адмысловую семантычную напружанасць"».

Дзверы і вокны выконвалі функцыі «своеасаблівага фільтра, які затрымліваў непажаданыя інтэнцыі знешняга свету і, такім чынам, рэгламентаваў сувязь жытла з астатняй прасторай». Вось чаму ўсім

дзеяннем ля ўваходу-выхаду ці ля дзвярэй прыпісвалася «высокая ступень семіятычнасці».

На фоне гэтых уздзеянняў становіцца зразумелым падпал лазні са змешчанымі ў ёй «знарочыстымі мужамі» «ад дзвярэй». Гэткім чынам блакіравалася магічная актыўнасць драўлян, цалкам перарывалася іх сувязь з тагасветнымі сіламі, варожымі палянскай абшчыне.

Спаленне драўлянскіх правіцеляў у лазні варта разглядаць як чарговае ахвярапрынашэнне. У адрозненне ад «лепшых людзей», спушчаных Вольгай у падземны свет, «знарочыстыя мужы», згарэлыя ў полымі вогнішча, накіраваны ў верхнюю зону Сусвету — на неба.

Як бачым, другое пасольства драўлян да кіеўскай княгіні спасцігла яшчэ больш жорсткая доля, чым першае. Але Вольга ўсё яшчэ не супакоілася. Яна распрацавала новы хітры план. Паслала да драўлян ганцоў з весткай аб тым, што ідзе да іх на месца згубы мужа і жадае пахаваць яго па-людску і зладзіць трызну. Папрасіла іх наварыць мёду для гэтага абраду. Тлумачыла, што абавязана зрабіць гэта перад тым, як выходзіць замуж за Мала, «...каб бачыў мой сын і кіеўляне, каб не зганілі мяне».

Неўзабаве Вольга сапраўды прыбыла са сваімі отракамі і невялікім лікам дружыннікаў у драўлянскую зямлю. Пасля таго, як над месцам пахавання Ігара ўзнёсся высокі курган, пачалася трызна. Разам з Вольгай і яе світай у памінальным абрадзе ўдзельнічалі драўляне. Аб жудасным заканчэнні гэтай трызны распавядаюць, абапіраючыся на летапісы, шматлікія даследчыкі, але найболей маляўніча, мабыць, іх здолеў апісаць расійскі гісторык пачатку XX стагоддзя А. Нечваладаў.

«Пасля таго, — піша ён, — драўляне, лепшыя людзі і вяльможы, селі піць. Вольга загадала отракам частаваць і паіць іх удосталь. Развесяліўшыся, драўляне ўспомнілі пра свае пасольствы. «А дзе ж наша дружына, нашы мужы, якіх паслалі за табой?» — спыталі яны ў Вольгі. «Ідуць за мной з дружынай майго мужа, прыстаўленыя берагчы скарб (тут «пасаг». — Аўт.)», — адказала княгіня. Калі драўляне ўжо добра напіліся, княгіня загадала отракам піць «на іх», што значыла піць чару напалову за братэрства і каханне і за здароўе адзін аднаго, ад чаго адмаўляцца было немагчыма: такі быў звычай. Гэта таксама звалася — перапіваць адзін аднаго. Калі драўляне зусім перапіліся, то княгіня паспяшалася пакінуць пір, загадаўшы сваім дружыннікам перабіць усіх драўлян. Яны былі высечаны, як трава; усяго іх загінула пяць тысяч чалавек. Вольга ж вярнулася ў Кіеў і стала рыхтаваць войска, каб вынішчыць драўлянскую моц ушчэнт».

І гэты ўчынак кіеўскай княгіні шматлікія даследчыкі расцэньваюць як помсту. Але І. Фраянаў, аналізуючы сітуацыю, ізноў не зга-

джаецца з падобнай трактоўкай: «...трохразовае забойства драўлян нельга атаясамліць са звычайнай помстай. Пахаванне жыўцом у яме, спаленне ў дамавіне (лазні), забойствы ля магілы — гэта чалавечыя ахвяры, прынесеныя Вольгай палянскім багам і князю Ігару. Зразумела, ахвярапрынашэнні з'яўляліся не асабістай яе справай, а справай усёй кіева-палянскай абшчыны, але канкрэтны змест гэтых дзеянняў заключаўся не столькі ў помсце, колькі ў арганізацыі ахвярапрынашэнняў напярэдадні ваеннага паходу супраць драўлян».

Падрыхтоўка да паходу заняла вельмі шмат часу, і Вольга толькі наступным летам, у год 946, накіравалася ў драўлянскую зямлю са «шматлікім і адважным» войскам. Правадыром яго лічыўся яе сын, Святаслаў. Але з-за таго, што ён быў яшчэ зусім малым (4-5 гадоў), то кіраваў палянамі ваявода Свэнэльд. А яго правай рукой быў выхавацель хлопчыка Асмольд (у тыя часы такая пасада звалася, праўда, інакш — дзядзька).

Мабыць, так і застанецца для даследчыкаў загадкай, чаму Мал увесь гэты час бяздзейнічаў і пасля забойства людзей сваіх не нанёс Кіеву адказнага удару. Бо нават страта пяці тысяч сямідзесяці драўлян, сярод якіх былі лепшыя мужы і кіраўнікі, не павінна была стаць апраўданнем яго разгубленасці. Пасля жудаснага ахвярапрынашэння на магіле мужа, калі па яе загаду былі знішчаны пяць тысяч сонных, аслабленых ад віна супернікаў, Вольга не рызыкнула напасці на Іскарасцень. Значыць, у яе не было сіл для сустрэчы з Малам у сумленным баі. Што ж перашкодзіла драўлянам адразу пасля таго, як яны даведаліся аб крывавай бойні, учыненай над пяццю тысячамі іх людзей, палаючы прагай справядлівай помсты, дагнаць вераломную і жорсткую Вольгу і, перабіўшы яе суправаджэнне, захапіць яе ў палон? Або, заклікаўшы да зброі ўсіх здольных узяць яе ў рукі мужчын, а таксама заручыўшыся падтрымкай іншых славянскіх плямёнаў, прыгнечаных палянамі, напасці на Кіеў?

Прыходзіць у галаву толькі адно: у пісьмовых крыніцах, якія дайшлі да нашага часу, мабыць, наўмысна ў аповедзе пра Мала і Вольгу апушчаны нейкі важны эпізод, які усё тлумачыць.

Тым не менш, даведаўшыся аб набліжэнні войска Вольгі да Іскарасценя ў 946 годзе, драўляне таксама памкнуліся і выступілі насустрач супернікам. І вось два войска сустрэліся ў шырокім полі. Бітву распачаў маленькі Святаслаў. Вольга дала яму дзіду, якой ён павінен быў падаць сігнал да пачатку бітвы. І вось князь кінуў яе ў бок ворага. Але дзіда была сапраўднай, цяжкай, і сіл у дзіцяці не хапіла далёка пусціць яе. Праляцеўшы каля вуха каня Святаслава, яна ўпала,

ударыўшы высакародную жывёліну ў нагу. У гэты момант Свэнэльд, які не страціў прысутнасці духу, выкрыкнуў:

«Князь пачаў ужо! Ударым, ваяры, услед за князем!». І дзве раці сыйшліся... Пасля жорсткай сечы перавага сіл апынулася на баку кіеўлян. Разбітыя драўляне разбегліся па сваіх гарадах і зачыніліся ў іх, рыхтуючыся да аблогі. Вольга ж з войскам пайшла адразу да сталіцы сваіх супернікаў.

Жыхары Іскарасценя ведалі, што на літасць разлічваць не могуць, таму абараняліся незвычайна мужна. Кіеўляне прастаялі пад сценамі горада ўсё лета і не змаглі яго ўзяць. Набліжалася восень, а з ёю — дажджы, халады. Трэба было альбо прадпрымаць якія-небудзь рашучыя дзеянні, альбо здымаць аблогу.

І тады Вольга ізноў паказала свой розум, хітрасць і падступства. Яна накіравала да гараджан паслоў, каб тыя спыталі ад яе імя: «Да чаго хочаце дасядзецца? Усе вашы гарады падаліся мне, усе вашы людзі згадзіліся плаціць мне даніну і зараз вольна апрацоўваюць свае нівы і аруць зямлю (на жаль, у нас няма фактаў, якія маглі б пацвердзіць або абвергнуць гэтыя словы, але, хутчэй за ўсё, Вольга схлусіла іскарасценцам. — Аўт.), а вы жадаеце, відаць, памерці з голаду, калі не ідзеце на даніну». Гараджане адказалі ёй: «Рады і мы плаціць даніну, але ты жадаеш помсціць нам за смерць мужа». Вольга супакоіла іскарасценцаў, паведаміўшы: «Я адпомсціла ўжо за крыўду мужа майго, калі прыходзілі ў Кіеў (сваты. — Аўт.) першы і другі раз, і ў трэці, калі стварыла трызну па мужы сваім. А ўжо не жадаю помсціць. Але жадаю мець невялікую даніну і, памірыўшыся з вамі, вярнуцца назад».

Іскарасценцы ўзрадаваліся, бо нягоды шматмесячнай абароны горада змучылі іх. «Бяры, княгіня, што хочаш. Рады даваць мёдам і дарагімі футрамі». Вольга падалася вельмі міласэрнай: «Вы збяднелі ў аблозе, — "пашкадавала" яна сваіх супернікаў, — няма ў вас зараз ні мёду, ні футра; жадаю ўзяць ад вас даніну для ахвяры багам, а мне на вылячэнне галаўной хваробы — дайце ад двара па тры голуба і па тры вераб'я». Іскарасценцы паверылі кіеўскай княгіні і «даслалі ёй птушак з паклонам». А дарма. Расійскі гісторык XIX стагоддзя Н. І. Кастамараў абурана ўсклікнуў: «Для Вольгі не існуе ні вялікадушнасці, ні дагавора, ні абяцання! Ідэал самы дзікі, самы варварскі».

Вольга абвясціла, што з гэтага часу жыхары драўлянскай сталіцы могуць жыць спакойна, бо яна раніцой адступіць ад горада і рушыць ў Кіеў. А далей ізноў дадзім слова А. Нечволадаву: «Пачуўшы такую вестку, гараджане ўзрадаваліся яшчэ больш і разыйшліся па дварах спакойна спаць. А паміж тым Вольга раздала ратным людзям

галубоў і вераб'ёў і загадала да кожнай птушкі прывязаць гаручую серу з кнотам, абгарнуўшы ў лапік і абвязаўшы ніткай, і, як стане цямнець, выпусціць усіх птушак на волю. Птушкі паляцелі ў свае гнёзды, галубы ў галубятні, а вераб'і пад застрэшшы. Горад у адну гадзіну загарэўся з ўсіх бакоў; у жаху людзі павыбеглі за гарадскія сцены, тут і пачалася з імі расправа: адных забівалі, іншых забіралі ў рабства, старэйшын усіх сабралі і спалілі».

Гэтак адпомсціла Вольга за смерць мужа. Большасць жыхароў сталіцы драўлян былі знішчаны. Ацалелыя сталі рабамі. На драўлян, якія жылі ў іншых месцах княства, наклалі цяжкую даніну: па дзве чорныя куніцы і па дзве вавёркі, акрамя іншых мяхоў і мёда на кожны двор.

А што ж здарылася з Малам? Чамусьці пра яго лес ні ў адным летапісе няма ні слова. Калі б ён загінуў у бітве, альбо згарэў у сваёй сталіцы, альбо быў запалонены, а затым закатаваны, аб гэтым абавязкова бы згадалі.

Яго знікненне са старонак летапісаў, сапраўды, выглядае загадкава і незразумела. І на самой справе, калі разглядаць крывавыя дзеянні Вольгі, так ярка апісаныя летапісцамі, то апісанне смерці князя Мала альбо хоць бы згадванне пра яе, з'яўляецца проста абавязковым, непазбежным завяршэннем усяго. Сапраўды, ці варта было знішчаць дзясяткамі сватоў, сотнямі лепшых людзей і тысячамі простых драўлян, калі не забіць самога Мала? Яго кара, да таго ж, паслужыла б і для ўстрашэння іншых. Але гэтага не было. Так што ж здарылася з князем Малам? Няўжо так нічога і нельга даведацца пра яго лёс?

Некаторыя здагадкі ў даследчыкаў маюцца. Вядома, што сярод палонных, захопленых ля сцен палаючага Іскарасценя, апынуліся і маленькія дзеці Мала — сын Дабрыня і дачка Малуша. Вольга іх не забіла, але забрала да сябе ў церам. Трымала на становішчы ці то рабоў, ці то слуг. Аднак, яшчэ пры яе кіраванні Малуша «дарасла» да пасады ключніцы або, іншымі словамі, аканомкі княгіні, а Дабрыня стаў дружыннікам і нават дзядзькам-выхавальнікам унука княгіні Вольгі, Уладзіміра Святаславіча.

Дык вось, можна выказаць здагадку, што Мал ўсё ж быў захоплены ў палон. Але па нейкай прычыне не забіты, а кінуты ў вязніцу. Прычым, таемна. А калі так, то знаходзілася яго турма не ў Кіеве, а дзесьці далей.

Некаторыя летапісцы завуць Малушу дачкой нейкага Малка Любчаніна. Гэтае імя прыцягнула ў свой час увагу дарэвалюцыйнага расійскага гісторыка Д. Празароўскага. Пасля доўгіх пошукаў ён зрабіў дзіўнае нават для самога сябе адкрыццё. Аказваецца, Малк Любчанін

і драўлянскі князь Мал — адна і тая ж асоба. У такім разе, відавочна, што князь знаходзіўся ў зняволенні ў горадзе Любічы. Ці там ён памёр, ці ўсё ж з гадамі здабыў волю, — цяжка сказаць.

## КНЯГІНЯ-ЗДАНЬ

Мы доўга нічога пра яе не ведалі, хоць старажытнарускі дакумент, у якім згадвалася яе імя, зусім не пыліўся ў архівах, а быў даступны шырокаму колу даследчыкаў. Чаму так адбылося? Можа, таму, што гісторыя Полацка і яго ваколіц да апошніх часоў не прыцягвала ўвагі большасці навукоўцаў?

Спатрэбіліся дзесяцігоддзі, каб змяніўся светапогляд і мэты даследаванняў, каб усплыло з цемры імя полацкай княгіні, якая жыла і кіравала ў часы княжання ў Кіеве Ігара і Вольгі.

Дакумент, у якім упершыню згадваецца княгіня Прадслава — мірная дамова з Візантыяй, падпісаная рускімі князямі ў 945 годзе. Перадгісторыя гэтай падзеі падрабязна апісана ў «Аповесці мінулых гадоў». У 907 годзе кіеўскі князь Алег, які ўвайшоў у гісторыю пад імем Вешчы, з вялізным войскам, што складалася са славян розных плямёнаў, хадзіў у паход на Візантыю. Прымалі ў ім удзел і палачане. Адны гісторыкі лічаць, што ў якасці саюзнікаў, іншыя сцвярджаюць, што як васалы Кіева. Паход прынёс славу Алегу, бо ён як пераможца прыбіў свой шчыт да брамы візантыйскай сталіцы Царграда, а ваяры яго вярнуліся дахаты з вялікім багаццем, якім адкупіліся ад сваіх моцных супраціўнікаў візантыйцы.

Пераемнік Алега на кіеўскім прастоле, Ігар Рурыкавіч, у 941 годзе, жадаючы здабыць такую ж славу, як некалі Алег, таксама пайшоў паходам на Царград. Прычынай пахода было невыкананне Візантыяй умоў домовы з Руссю, заключанай Алегам і яго саюзнікамі ў 911 годзе. Візантыйцы адважыліся на гэта з-за ўпэўненнасці што не ўбачаць больш ля сваіх берагоў рускіх баявых флатылій, бо на сцяпных прасторах паміж Донам і Дунаем пасяліліся печанегі, якія прыйшлі з глыбінь Азіі. Для ўсіх усходнеславянскіх княстваў гэта была сур'ёзная непрыемнасць, таму што печанегі перакрылі і сухапутны, і рачны (па Дняпры) шляхі да Чорнага мора. Русь паўстала перад неабходнасцю выбару: разбіць печанегаў або паспрабаваць пасябраваць з імі. І першае, і другое было нялёгка ажыццявіць. Печанегі былі вельмі ваяўнічым народам. Усе выдатныя вершнікі, яны ў дасканаласці валодалі лукамі. Так што ваяваць з імі было складана. Да ўсяго іншага, гэтыя качэўнікі валодалі такімі рысамі характару, якія сучаснікі вызначылі як «прагнасць і ненаеднасць». Гэтыя іх уласцівасці неўзабаве з вялікай

выгадай для сябе пачалі выкарыстоўваць візантыйцы. Яны падкупалі печанегаў багатымі дарамі і нацкоўвалі іх на паўночных суседяў: балгар, венграў, русінаў. Самі ж, упэўненыя ў сваёй бяспецы, змянілі ліслівасць да «рускіх купцоў» на знявагу. Але глыбока пралічыліся.

Барацьба Ігара з печанегамі пачалася ў 920 годзе, часам спыняючыся на некалькі гадоў пасля заключэння з качэўнікамі чарговага міру. Адзін з такіх перыядаў кіеўскі князь і выкарыстаў, каб пакараць візантыйцаў. Аднак, першы паход яго скончыўся няўдачай. У Ігара было не меней за тысячу ладдзей, і на кожнай з іх было прыкладна сто чалавек. Воінства гэтае спустошыла ўсё паўднёва-заходняе ўзбярэжжа Чорнага мора і, нарэшце, з'явілася пад сценамі Царграда. Ваяры высадзіліся на абодвух берагах Басфорскага праліва і пачалі паліць паселішчы, цэрквы, манастыры, забіваць жыхароў. З Царграда выступіла візантыйскае войска. Пад яго націскам славяне пакінулі бераг і перабраліся на ладдзі. Цяжка сказаць, чаму яны гэтак зрабілі. Адны даследчыкі лічаць, што візантыйцы разбілі русінаў. Іншыя мяркуюць, што гэта было ваеннай хітрасцю Ігара, і што такім спосабам ён імкнуўся выманіць флот сваіх супраціўнікаў з добра ўмацаванай гавані ў адкрытае мора і там знішчыць, перш чым прыступіць да планамернай аблогі візантыйскай сталіцы. Пры гэтым Ігар мог спадзявацца і на штыль, які быў у гэты час на моры. Бо на вёслах яго ладдзі былі значна больш манеўранымі, чым візантыйскія караблі. Зрэшты, калі гэта было так, то русіны пралічыліся. Варожыя судны аказаліся ўзброены ваеннай навінкай — знакамітым «грэцкім агнём». Гэта была нейкая густая вадкасць, якую немагчыма было загасіць вадой. Хімічная формула рэчыва страчана і аднавіць яе да гэтых часоў не могуць, хаця мяркуецца, што ў склад яго ўваходзілі нафта і сера.

І вось у той момант, калі русы, якія нічога не падазравалі, ўжо рыхтаваліся сысціся на абардаж і памерацца сілаю з супраціўнікам у рукапашнай сутычцы, візантыйцы прымянілі сваё вынаходства. Ладдзі Ігара ўспыхвалі адна за адной. Ратуючыся ад агню, воіны кідаліся за борт. Адны, абцяжараныя даспехамі і зброяй, адразу ж танулі, іншыя спрабавалі выратавацца і плылі ў вогненнай сумесі, што разлілася па хвалях, і гарэлі ў ёй.

Гэтак загінула большая частка рускага флота. Выратаваліся толькі тыя ладдзі, якія знаходзіліся ў першыя хвіліны бою па-за дасяжнасцю дзеяння «грэцкага агню» і таму паспелі даплыць да прыбрэжнага плыткаводдзя пры азіяцкім беразе, куды караблі візантыйцаў не маглі даплыць з-за сваіх памераў.

Ачуняўшы пасля жахлівага відовішча, сведкамі і ўдзельнікамі якога яны сталі, Ігар і яго ваяры вырашылі працягваць вайну. Яны

здзяйснялі набегі на азіяцкае ўзбярэжжа і нават адважваліся паглыбляцца далёка на варожую тэрыторыю. Калі ж на іх нападалі візантыйскія войскі, русы адыходзілі на свае ладдзі і накіроўваліся ў іншыя месцы. Яны з вялізным майстэрствам выкарыстоўвалі плыткаводдзе, якое стала свайго роду прыстанкам. Бо там на іх не маглі напасці ні з мора, ні з сушы. Так працягвалася ўсё лета. Але запасы харчавання заканчваліся, так што было вырашана адпраўляцца дахаты. І ў адну з цёмных вераснёвых начэй ладдзі зрушыліся ў дарогу. Аднак, візантыйцы ўжо чакалі гэтага і вялі няспыннае назіранне. І досвіткам іх флот нагнаў беглякоў. Адбылася новая марская бітва, з якой змаглі вырвацца толькі нешматлікія русіны. Большасць жа паплечнікаў Ігара загінула. Тых з іх, каго захапілі ў палон, пры вялізным збегу народа і ў прысутнасці іншаземных паслоў абезгаловілі ў Царградзе.

Вярнуўшыся дахаты, русіны распавядалі, што віною іх паразы быў невядомы да таго нікому «грэцкі агонь»: «Нібы маланку нябесную маюць у сябе грэкі, і, пускаючы яе, папалілі нас. Таму і не адолелі іх». Аўтарытэт Ігара пасля гэтага моцна пахіснуўся. Каб аднавіць яго, неабходна было здзейсніць новы паспяховы паход на Візантыю. Гэтым разам кіеўскі князь вырашыў не толькі плыць на ладдзях па моры, але частку войска накіраваць па беразе. Ігар дзейна заняўся наборам гэтага войска і сутыкнуўся з нечаканымі цяжкасцямі. Жадаючых ізноў ісці «за мора» сярод яго падданых было мала. Драўляне, напрыклад, наадрэз адмовіліся паставіць хоць бы аднаго ваяра. Давялося Ігару звяртацца за дапамогай да блізкіх і далёкіх суседзяў. Ён паслаў ганцоў да варагаў. Багатымі дарункамі занадзіў печанегаў, ведаючы іх каварны нораў, для мацнейшай бяспекі атрымаў у іх заложнікаў. Запрасіў адважных і ваяўнічых яцвягаў.

Без сумнення, менавіта ў гэты час завязаліся прыязныя стасункі ў Ігара з Полацкам, які як часовы саюзнік, даў для паходу шматлікае войска.

«Аповесць мінулых гадоў» сведчыць: «Ігар сабраў вялікае воінства: варагаў і русь, і палян, і славен, і крывічаў, і ціверцаў, і печанегаў узяў, і пайшоў на грэкаў у ладдзях і на конях, жадаючы адпомсціць за сябе».

Першымі аб набліжэнні гэтай грознай сілы дазналіся грэкі, якія жылі ў Корсуні. Яны паслалі ў Царград вестку пра тое, што «...ідуць русы — караблям няма ліку. Пакрылі ўсё мора караблямі». Потым да базілеўса прыйшло паведамленне ад балгар: «Ідуць русы, нанялі сабе і печанегаў». Разумеючы, якая вялікая небяспека пагражае яго сталіцы, базілеўс выслаў насустрач Ігару паслоў, якія прасілі аб міры і абяцалі багатыя дары ў якасці водкупу.

Ігар і яго саюзнікі згадзіліся. Дамова была падпісана. Так нарадзіўся цікавейшы дыпламатычны дакумент ранняга славянскага сярэднявечча. Але сярод князёў — саюзнікаў Ігара, якія падпісалі дамову 944 года з боку русічаў, няма імя полацкага князя. Чаму?

Магчыма, князь загінуў падчас паходу. Можа, ён быў старым альбо хворым яшчэ да таго, як Ігар звярнуўся да яго за дапамогай, і, паслаўшы на Візантыю свайго ваяводу, застаўся ў Полацку, дзе і памёр неўзабаве сваёй смерцю. Аднак, хтосьці ўсё роўна павінен быў выступіць у дамове ў якасці прадстаўніка Полацка. Калі не князь і не сын князя, то яго ўдава, княгіня, праз свайго прадстаўніка.

Жаночых іменаў у дамове толькі тры: жонкі Ігара Вольгі, Сфандры, якая была сужэнкай родзіча Ігара, князя Улеба, і княгіні Прадславы. Аб апошняй больш нідзе і ніколі не згадвалася. Некаторыя ўкраінскія даследчыкі з лёгкай рукі рускага гісторыка XVIII стагоддзя В. Тацішчава жадаюць бачыць у ёй жонку сына Ігара, Святаслава, венгерскую князёўну Ільдзіку, якая прыняла славянскае імя. Але летапісы аспрэчваюць гэтае меркаванне, бо Святаславу Ігаравічу ў той час было ўсяго тры гады. Атрымліваецца так, што Прадславай маглі клікаць толькі полацкую правіцельніцу.

Беларускія даследчыкі М. Ермаловіч і К. Тарасаў першымі ўпэўнена заявілі пра тое, што Прадслава была полацкай княгіняй. Яны адвялі ёй месца ў беларускай гісторыі непасрэдна перад праўленнем Рагвалода. Прадславай Першай назавем мы гэтую княгіню. Бо пасля яе ў дынастыі полацкіх князёў з'явяцца і іншыя жанчыны з такім імем (ці не ў гонар гэтай?).

Вырваўшы з забыцця чалавечае імя, значна лягчэй аднавіць біяграфічныя дадзеныя. Так адбылося і тут.

Правамерным аказалася меркаванне, што Прадслава яшчэ пры жыцці свайго мужа актыўна ўдзельнічала ў палітычных справах княства, бо пасля яго смерці палачане захацелі менавіта яе бачыць на прастоле, хоць маглі абвясціць наступным князем сына свайго кіраўніка (калі ён у таго быў) альбо якога-небудзь годнага ваяра або баярына. Гіпотэза адносна таго, што княгіня Прадслава валадарыла толькі ў якасці рэгенткі пры малалетніх дзецях, даволі праблематычная і малаверагодная. Бо ў дамове з Візантыяй тады было б імя непаўналетняга князя, як апынулася там згаданым імя маленькага Святаслава Ігаравіча.

Таму абранне Прадславы на полацкі княжы прастол, на наш погляд, было выклікана павагай да яе палачан, прызнаннем яе розуму і іншых вартасцяў. Да таго ж Прадслава аказалася першай усходнеславянскай жанчынай-уладаркай, бо ўладу над сваёй дзяржавай яна

атрымала на цэлы год раней княгіні Вольгі. А калі ўлічыць, што ўлада Вольгі ўсё ж мела часовы характар (яна правіла толькі як рэгентка пры сваім сыне Святаславе), то выпадак з Прадславай можна лічыць адзіным за ўсю гісторыю Старажытнай Русі.

Гаворачы вышэй аб двух версіях смерці полацкага князя, які быў мужам Прадславы, мы выказалі меркаванне, што гэта адбылося падчас Другога Візантыйскага паходу Ігара, дзе полацкае войска ўдзельнічала ў якасці саюзнага кіеўскаму. Але не выключана і магчымасць таго, што на момант пачатку паходу полацкага князя ўжо не было ў жывых, і Ігар, які прасіў палачан выступіць з ім супраць яго ворагаў, звяртаўся да Прадславы, якая ўжо кіравала ў Полацку.

Пачаўшы поўнаўладнае княжанне у час, калі кіеўскім князем быў Ігар Рурыкавіч, Прадслава правіла і пры яго пераемніцы-жонцы, Вользе. З вялікай цікавасцю, пэўна, назіралі з Полацка за развіццём драматычных кіеўскіх падзей, якія сталі прэлюдыяй да пачатку княжання Вольгі.

Апынуўшыся кіраўніцамі ў суседніх княствах, Вольга Кіеўская і Прадслава Полацкая проста не маглі не ўвайсці адна з адной у кантакт. Але якім ён быў?

У «Віцебскім летапісе» ёсць цікавы запіс. Летапісец пераказвае паданне пра заснаванне Віцебска ў 974 годзе. Вольга, разбіўшы яцвягаў і печанегаў, быццам бы пераправілася з войскам праз Дзвіну і заначавала на яе беразе. Ёй так падабаліся гэтыя мясціны, што яна заклала тут драўляны замак, названы Віцьбескам (па назве ракі Віцьба). Пражыла тут Вольга нібыта два гады, а потым вярнулася ў Кіеў.

Тут бачна яўная памылка летапісца. Княгіня Вольга памерла ў 969 годзе. Таму даследчыкі Б. Рыбакоў і Л. Аляксееў лічаць, што дату з «Віцебскага летапісу» трэба чытаць не як 974, а як 947. У «Аповесці мінулых гадоў» распавядаецца, што менавіта ў 947 годзе Вольга здзейсніланекалькі падарожжаўз мэтай паставіць «пагосты», гэта значыць, месцы збора даніны, па рэках Мсце і Лузе. Яна цалкам магла апынуцца і на Дзвіне, дзе гасцінная Прадслава прапанавала ёй спецыяльна пабудаваны для шаноўнай госці церам.

Канешне ж, Вольга не магла застацца жыць на беразе Віцьбы на цэлых два гады. У «Віцебскім летапісе» зноў недакладнасць. Але, можа, гэта трэба разумець так, што кіеўская княгіня рэгулярна два гады запар наведвала гэтыя мясціны дзеля новых сустрэч з Прадславай? А потым іншыя справы надоўга адцягнулі ўвагу Вольгі. З яе ж невялічкага жытла пачаўся слаўны горад Полацкай зямлі, клопат пра які ўзялі на сябе наступнікіа Прадславы.

Зрэшты, Вольга і Прадслава сустракаліся і пазней, ва ўсялякім разе, аднойчы. Даследчык гісторыі праваслаўя на Беларусі А. Мельнікаў у сваёй кнізе «Шлях немаркотны» прыгадвае царкоўнае паданне пра тое, як Вольга, прыняўшы хрышчанне ў Візантыі, вярнулася на Русь і пачала прапаведаваць хрысціянства ў розных гарадах і мястэчках свайго і суседніх княстваў. З гэтай мэтай яна нібыта наведвала і Полацк.

Ці зацікавіла пропаведзь Вольгі княгіню Прадславу? Ці прыняла яна Ісуса Хрыста ў сваё сэрца? На жаль, мы пра гэта, напэўна, ніколі не даведаемся. У той час, калі Вольга магла прапаведаваць у Полацку, Прадслава павінна была ўжо быць даволі немаладой жанчынай са сталымі перакананнямі і поглядамі на жыццё. Неўзабаве яна сышла ў нябыт. А на полацкім прастоле Прадславу Першую змяніў князь Рагвалод.

З тае прычыны, што менавіта ён стаў яе пераемнікам, узнікае пытанне: кім Рагвалод даводзіцца княгіні-папярэдніцы? Ці былі паміж імі якія-небудзь роднасныя сувязі?

Летапісы настойваюць на тым, што «бе бо Рогволод пришёл и — заморья, имяше свою волость в Полотьске». Так пачалося яго княжанне над крывічамі-палачанамі. Гэтае летапіснае паведамленне даследчыкі перакладаюць па-рознаму. Прыхільнікі так званай «нарманскай тэорыі» сцвярджаюць, што Рагвалод быў варагам, запрошаным у Полацак на княжанне, першым князем новай дынастыі. М. Ермаловіч спрачаецца з «нарманістамі», выказваючы меркаванне, што летапісец у дадзеным выпадку жадаў сказаць толькі тое, што Рагвалод пасля доўгай адсутнасці вярнуўся ў родную вотчыну. Гэта значыць, што да гэтага ў Полацку кіравалі бацькі Рагвалода і тады, магчыма, княгіня Прадслава Першая — яго маці. Дзе ж вандраваў Рагвалод у той час, калі яна правіла Полацкам?

«Полацк па Заходняй Дзвіне падтрымліваў сувязі з паморскімі славянамі, якія жылі на паўднёвым узбярэжжы Балтыйскага мора, -— піша М. Ермаловіч, — і таму не выключана, што адтуль у свой час мог прыйсці і Рагвалод». Па звычаях таго часу Рагвалод мог княжыць там, пакуль маці, паміраючы, не выклікала яго ў Полацк, каб перадаць уладу разам са сваім блаславеннем.

Вельмі хацелася б верыць у гіпотэзу М. Ермаловіча, якая, па-першае, дае Рагвалоду славянскае паходжанне і, па-другое, дадае яшчэ адну істотную дэталь да партрэта нашай гераіні, княгіні Прадславы, называючы яе маці ўслаўленага полацкага кіраўніка. Але цяжка прадставіць сабе сітуацыю, калі пасля смерці (альбо гібелі) бацькі дарослы сын-спадчыннік не адразу прымае ў свае рукі ўладу, а спакойна

згаджаецца з тым, што прастол займае яго маці. Такое магло адбыцца толькі ў выпадку прызнання падданымі, што спадчыннік іх князя нявартны кіраваць імі. Але ж пасля смерці Прадславы Рагвалод усё ж стаў князем. Значыць, меркаванне пра яго «нявартасць» і ў сувязі з гэтым «адрынутасць» сваім народам трэба цалкам адкінуць. Тым больш што ў князя Рагвалода, калі верыць летапісным паданням, быў брат, легендарны заснавальнік Турава, Тур. І ўжо калі адзін спадчыннік полацкага князя чамусьці не задаволіў падданых у якасці наступнага валадара, то хоць бы другі павінен быў падысці.

Значна лягчэй дапусціць, што бяздзетную Прадславу Першую змяніў на прастоле яе бліжэйшы родзіч, напрыклад пляменнік. Тады зразумела і фраза «...імяше свою волосць в Полотьске». Рагвалод быў спадчыннікам Прадславы, але не сынам. Пакуль была жывая княгіня, пытанне аб яго вакняжэнні не ўзнімалася. Пасля ж яе смерці полацкі прастол стаў належаць Рагвалоду па праве самага блізкага сваяка. Гэта адбылося, згодна з паведамленнем Маскоўскага летапіснага зводу канца XV стагоддзя, «у дні Святаслава Ігаравіча» і, значыць, да 972 года.

## «ЗАЛАТЫ ВЕК» РАГВАЛОДА І ТУРА

Рагвалод і Тур — першыя з полацкіх князёў, у сапраўдным існаванні якіх даследчыкі не сумняваюцца. Тым не менш, калі звярнуцца да навуковых крыніц, то атрымаецца, што і пра гэтых князёў мы ведаем да крыўднага мала.

Летапісцы толькі памінаюць іх, пакідаючы па-за ўвагай іх біяграфіі, пэўна, насычаныя яркімі падзеямі і дынамікай баявых паходаў. Ды гэта і не дзіўна, Рагвалод і Тур — героі далетапісныя, хаця, мабыць, апошнія з гэткіх.

Парадокс, мы нават не можам аднавіць імёны бацькоў герояў, а даследчыкі-гісторыкі змушаны пачынаць іх жыццяпісы ў сваіх працах не з маладзецкіх подзвігаў юнацтва, намёкамі аб якіх (на жаль, толькі намёкамі) прасякнутая кожная скупая летапісная фраза, прысвечаная ім, нават не са слаўнага іх вакняжэння, але з сумных, драматычных падзей, якія прывялі да згубы старэйшага з герояў, Рагвалода, і да страты незалежнасці дзяржавай малодшага, Тура.

Няўжо няма нічога, што магло б дапамагчы нашчадкам Рагвалода і Тура рассеяць зыбкую смугу недасведчанасці, якая ахінае і дагэтуль іх фігуры ў беларускай гісторыі?

Ёсць — упэўнена адказваюць айчынныя фалькларысты. Памяць народная, якая захавала нямала выдатных узораў вуснай творчасці

нашых старажытных продкаў, дазваляе дапытліваму чалавеку знайсці цэлы шэраг страчаных сюжэтных звёнаў для аповеду аб апошніх далетапісных героях усходніх славян — Рагвалодзе і Туры.

Такім чынам, дзесьці ў канцы 50-х альбо пачатку 60-х гадоў X стагоддзя ўвянчаны славай, упрыгожаны шнарамі, атрыманымі ў лютых сечах, асярэбраны першай сівізной у родны Полацк вярнуўся пасля доўгай адсутнасці спадчыннік Прадславы Першай Рагвалод. Прыкладна ў гэты ж час з'явіўся на зямлі старажытнай Беларусі і князь Тур, будучы заснавальнік Турава. У летапісах імёны Рагвалода і Тура згадваюцца разам, што дае падставу казаць пра іх блізкае сваяцтва. Усцюжскі летапіс называе Тура родным братам Рагвалода. Аспрэчваць гэта цяжка, тым больш што і ў беларускіх паданнях Рагвалода і Тура завуць братамі.

Адно з такіх паданняў было запісана яшчэ ў 70-х гадах XIX стагоддзя. Згодна яму, Тур не пажадаў быць ні суправіцелем, ні падданым свайго старэйшага брата, што заняў прастол у Полацку. Ён накіраваўся па Дняпры на поўдзень, дасягнуў вусця Прыпяці і паплыў разам з дружынай уверх па гэтай рацэ. На зямлі дрыгавічоў Тур аблюбаваў зручнае месца для будаўніцтва горада, будучай сталіцы княства — Турава.

Другое паданне, запісанае ў 20-я гады XX стагоддзя супрацоўнікамі Акадэміі навук Беларусі, расказвае пра гэта яшчэ больш падрабязна.

«Гэта было ўжо даўно. Там, дзе цяпер Тураў і бліжэйшыя вёскі, былі дрымучыя лясы. У гэты час прыйшоў князь Тур з вялікімі войскамі, і прыйшоў ён сюды таму, што былі тут вялікія выгоды — звяры, рыба, рознае птаства. Аднойчы князь Тур лёг спаць на гары. Заснуў ён і бачыць: быццам ляжыць ён на паднятым возе, а кругом яго гарады. Ён быў тады самы хітрэйшы і не было яму з кім параіцца. Ён зразумеў, што трэба яму будаваць вялікі горад».

Іншае паданне, запісанае намі на Піншчыне, трохі інакш апісвае вешчы сон князя Тура. Залатарогі бык-тур вядзе князя за сабой да павароту ракі, за якім перад вачыма яго паўстае панарама шматлюднага багатага горада. Прачнуўшыся, Тур успрымае свой сон як знак, пасланы яму язычніцкімі багамі. Ён знаходзіць месца, якое бачыў у сне, і загадвае закласці там горад.

Вось як адбывалася гэта ў інтэрпрэтацыі народных сказіцеляў: «Князь Тур пачаў будаваць горад. І быў горад такі вялікі, што і Верасніца, і Рычоў, і Дворэц, і Азяраны, і іншыя вёскі былі пад ім. Будаваў князь Тур гэты горад не абы-як: спачатку насыпаў Тур рачнога пяску тоўсты слой. Пасля пачаў паліць лес і насыпаў пласт бярозавай

кары; пасля кары насыпалі бітых гаршкоў; пасля звярыных касцей. У канцы засыпалі пласт сленю — лускі з пароды язя — і ўсё засыпалі зямлёю».

Перад намі — яўна ў падрабязнасцях распісаны язычніцкі магічны рытуал. Рачны пясок, бярозавы попел, гліняныя чарапкі, косткі жывёл, луска ясеню — верагодна, з'яўляюцца ўвасабленнем розных міроў язычніцкага светаўспрымання. Рачны пясок і бярозавы попел сімвалізуюць падводнае і падземнае царствы, гліняныя чарапкі і косткі звяроў — наземныя царствы людзей і жывёл; тонкае шалупінне ясеню (язеню, язю) — свяшчэннага дрэва славян-язычнікаў — нябеснае царства багоў. Зладжанае гэткім чынам заснаванне стольнага горада (пэўна, не ўсяго, а толькі Замкавай гары) павінна было гарантаваць, што яму не будзе пагражаць ні затапленне, ні разбурэнне ад рук людзей, ні нашэсце драпежных прадстаўнікоў жывёльнага свету, ні пагружэнне ў зямныя нетры ў выніку землятрусу, ні гнеў багоў.

Але ці можна ўзводзіць сталіцу сярод незаселеных земляў, лясных гушчароў і каварных багнаў? Безумоўна, не. Гэтага і не адбывалася ў рэчаіснасці. Бо землі, у якіх малодшы брат Рагвалода вырашыў узводзіць свой горад, у X стагоддзі ўжо даўно не былі дзікімі і бязлюднымі. Гэта былі землі Артаніі, краіны шматлікіх гарадоў і сёл. І зусім побач з месцам, дзе пачаў узводзіцца Тураў, ужо быў вялікі горад Хіл (там, дзе зараз сяло Хільчыцы). Некаторыя сучасныя даследчыкі лічаць яго папярэднікам Турава і сцвярджаюць, што Хіл-град скончыў сваё існаванне са з'яўленнем Турава, а жыхары яго перасяліліся ў новы горад.

Адпаведна з паданнямі, у Хіле жыў адзін з палескіх князёў. Як дазволіў гэты правіцель Туру абгрунтавацца са сваімі ваярамі настолькі блізка да свайго горада? Што дало падставу прышламу князю пабудаваць горад-сталіцу ў краіне, дзе ўжо ёсць сталіца, — свяшчэнная Арта? І як жа гэта выйшла, што Хіл-град цалкам перанёсся ў новаўзніклы Тураў, а свяшчэнная Арта саступіла яму без бою свае правы?

Складана адказаць з упэўненасцю на ўсе гэтыя пытанні. Магчыма, да часу прыходу на Палессе Тура Артанія як дзяржава ўжо не існавала. Быць можа, шматлікія князі палескіх гарадоў, якія падпарадкоўваліся «цару», што жыў у Арце, і марылі аб самастойнасці, разваліілі яе сваімі звадамі знутры. Тады зразумела, чаму Арта прыйшла ў заняпад і з велічнай сталіцы ператварылася ў слабы цэнтр.

Мудрыя Сямёра ў такой сітуацыі змушаны былі шукаць годны выхад і ў першую чаргу годнага, моцнага кіраўніка, героя, які змог бы зноўку аб'яднаць развалены саюз і падпарадкаваць сабе князёў, якія

адышлі ад агульнай вялікай мэты. Можа, выбар мудрых старцаў упаў на Тура шмат раней, калі слава гэтага героя грукатала яшчэ ў далёкім «замор'і». Яны ўбачылі ў малодшым браце Рагвалода асобу, якая мае ўсе неабходныя якасці для ажыццяўлення іх плана. А можа, ваяры Сварога атрымалі ад нетутэйшых сіл нейкае таямнічае прадказанне, якое дазваляла ім сярод шматлікіх годных назваць імя лепшага?

Хто ведае, ці не быў той самы сон з залатым турам, які паданні прыпісваюць князю, праявай, ніспасланай з нетутэйшых міроў самім Семярым? Ён, відавочна, распавядае пра з'яўленне новай сталіцы, здольнай ізноў аб'яднаць гарады Артаніі і падпарадкаваць іх сабе. А таксама эзатэрычна падказвае імя асобы, якая магла б ускласці на свае плечы дадзеную місію. Залаты тур — гэта, вядома ж, князь Тур.

Такім чынам, для свяшчэнных старцаў прыход Тура неспадзяванасцю не быў. Яны чакалі яго, выбранніка нябёсаў, каб абвясціць пераемнікам «цара» Артаніі. Што ж датычыць Хіл-града, перанесенага са старога месца ў межы Турава, то, мабыць, да прыходу Тура, гэта быў адзін з самых буйных гарадоў Палесся, які чамусьці страціў свайго кіраўніка. Магчыма, свае права на кіраванне людзьмі Хіл-града Туру давялося атрымаць, ажаніўшыся з дачкой-сіратой альбо ўдавой мясцовага князя. На аснове Хіл-града і паўстаў Тураў, пабудаваны намаганнямі жыхароў Хіла вельмі хутка і моцна. Сямёра ж, пасяліўшыся ў наваколлі новай палескай сталіцы, паспрыялі сваім аўтарытэтам хутчэйшаму ўзвышэнню і ўмацаванню Турава.

Гэтак Рагвалод і Тур становяцца раўнапраўнымі ўладарамі. Каля дваццаці гадоў кіруюць яны сваімі княствамі ў адносна спакойных абставінах. Летапісцы звычайна абыходзяць бокам падзеі мірных перыядаў жыцця народа, таму і ў летапісах мы не знойдзем ніякіх звестак аб нашых героях у тыя гады. Але ўсё ж цікава: якімі кіраўнікамі былі Рагвалод і Тур?

У сваёй вядомай баладзе «Рагнеда» К. Рылееў піша:

Пры Рагвалодзе крывічы
Гняліся смагай спраў вялікіх,
Блішчэлі ў пушчы іх мячы,
Ваюючы з літоўцам дзікім.
Усе чужаземныя цары
Саюзу з Полацкам шукалі,
Чужых плямён багатыры
Служыць а чэсць яму трымалі.
(Пераклад Пётры Крэчэўскага)

Апісанне княжання полацкага ўладара падобна тут да карціны «залатога веку». Чаму Рылееў з такой упэўненасцю і так падрабязна

распавядае аб мудрым і годным кіраванні Рагвалода? Няйначай, веды былі запазычаны з якога-небудзь забытага і знойдзенага ім у архівах старажытнага дакумента.

Звесткі аб тым, якім быў двор Рагвалода, захаваліся ва унікальнай быліне аб Дунаі-волаце і сватаўстве князя Уладзіміра. Хоць полацкі князь і завецца ў гэтым творы старажытнарускай літаратуры «літоўскім каралём», і сітуацыю, і фігуры тут легка пазнаеш. Двор Рагвалода ў быліне «пышны, шырокі». Палачане ў ёй называюцца «харобрая Літва» (быліна складалася, мабыць, у XV-XVI стагоддзях, у часы Вялікага княства Літоўскага). Неаднойчы падкрэсліваецца мужнасць і гасціннасць князя, а таксама адрозненне звычаяў, прынятых пры яго двары, ад кіеўскіх. Гаворыцца і аб тым, што ў дружыне Рагвалода было шмат іншаземных наймітаў. У быліне яны названы «татарамі». Але гэта зусім не азначае сапраўдную прыналежнасць наймітаў да дадзенага ўсходняга народа, а толькі паказвае на іх паганскі светапогляд. Тут бачыцца адна з умоўнасцяў быліннага жанру, у якой Кіеў — заўсёды апора хрысціянства, а кіеўскі Уладзімір — хрысціянскі ўладар. Яго ж супраціўнікі — нехрысці, «татары».

З быліны пра Дуная мы даведваемся, што гонару быць набліжаным да Рагвалода мог дамагчыся далёка не кожны чужынец. Сам волат Дунай, кіеўлянін, «тры гады конюхам быў, тры гады стольнікам, тры гады чашнікам», і толькі потым яму было прапанавана ўзначаліць частку дружыны князя. Калі быў гэткі працяглы выпрабавальны тэрмін, калі «чужых плямён багатыры» не лічылі для сябе ганебным праходзіць яго, значыць, можна распавядаць аб высокім аўтарытэце Рагвалода. Ёсць паданне, якое сцвярджае, што дзякуючы гэтаму аўтарытэту і павазе людзей дамогся Рагвалод рукі дачкі варажскага конунга, Ізольды, якая нарадзіла яму двух сыноў і прыгажуню дачку Гарыславу, па бацьку Рагнеду.

У гэты час узмацняецца таксама ўлада, расце аўтарытэт Тура. Хуткае ўзвышэнне і ўзбагачэнне Турава было, мабыць, вынікам бліскучых паходаў князя на суседнія плямёны. Шмат давала развіццё гандлю. Яшчэ ў сярэдзіне нашага стагоддзя ў старажытным Тураве існаваў такі помнік архітэктуры як Тур-калодзеж, пабудаваны, паводле падання, самім Турам. Кажуць, што ў калодзежы было тры дны: меднае, срэбнае і залатое. У народзе існавала вераванне, што калі прадзярэцца меднае дно — падземная вада затопіць Тураў, калі срэбнае — то палову свету, а калі залатое — надыдзе канец свету. Падтрыманы Семярымі, Тур і сапраўды мог дазволіць сабе і шыкоўны праект калодзежа з трыма каштоўнымі днамі, і складанне чарговай казкі аб яго таямніцы для сваіх падданых. Існуе таксама паданне,

што князь Тур пазней хрышчаны быў у тым жа калодзежы і пабудаваў у сваёй сталіцы 75 або нават 80 цэркваў.

Безумоўна, давяраць такім дадзеным было б неразважліва. У часопісе «Минская старина», які выпускаўся да Кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1911 годзе быў надрукаваны нарыс пра Тураў, дзе гаворыцца, што некалі, сапраўды, Тураў налічваў да 70 цэркваў. Але гэта было зусім не пры Туры, а ў першай палове XVII стагоддзя.

Тым не менш многае гаворыць аб тым, што князь Тур сапраўды хрысціўся, хоць невядома, дзе і як ён падпаў пад уплыў праваслаўных святароў, і чаму Семярым не ўдалося ўтрымаць свайго стаўленіка ад гэтага кроку.

Упартае прыпісванне князю Туру помнікамі беларускага фальклору славы будаўніка праваслаўных храмаў таксама не можа быць выпадковым. Хутчэй за ўсё храмы ён сапраўды будаваў, толькі, на жаль, драўляныя гэтыя пабудовы не вытрымалі выпрабавання часам. З усяго вышэйсказанага вынікае, што Тур быў зусім не адзіным хрысціянінам у сваім княстве, бо былі ж прыхаджане ва ўзведзеных ім цэрквах. Ускосна хрышчанне Турава да 988 года можа пацвердзіць той факт, што ў старажытнарускіх пісьмовых крыніцах адсутнічаюць звесткі пра супраціўленне мясцовага насельніцтва духоўнай акцыі Уладзіміра Хрысціцеля.

Зрэшты, вернемся да храналагічнасці нашага аповеду. Іаакімаўскі летапіс распавядае, што прыкладна ў 70-х гадах X стагоддзя Рагвалод здзейсніў паход на Наўгародскія землі. Гэта не магло не напалохаць князя Уладзіміра, унука княгіні Вольгі, будучага хрысціцеля Русі, які тады быў яшчэ не кіеўскім, а наўгародскім князем. Становішча яго было няўстойлівым: з падданымі сваімі, наўгародцамі, ён канфліктаваў, з братам Яраполкам Кіеўскім — таксама. Варожасці моцнага Полацка ён мог і не вытрымаць. Тады, мабыць, і з'явілася рашэнне паспрабаваць памірыцца з Рагвалодам. Лепшым шляхам да гэтага быў дынастычны шлюб.

Адпраўляючы сватоў у Полацк, Уладзімір кіраваўся не толькі палітычнымі матывамі. Слава аб выбітнай прыгажосці юнай дачкі Рагвалода Рагнеды ўжо дайшла да Ноўгарада. Уладзімір прадчуваў момант, калі зможа назваць дзяўчыну, знешнасць якой так расхвальваюць усе, хто бачыў яе, сваёй жонкай, другой пасля дачкі нейкага скандынаўскага ярла Олафа — Алогіі, па бацьку Аловы.

Але амаль аднachасова з наўгародскім князем скласці саюз з Рагвалодам, ажаніўшыся з яго дачкой, вырашыў Яраполк Кіеўскі. Сваты Яраполка прыбылі ў Полацк раней за наўгародскіх. І князь Рагвалод даў слова, нягледзячы на тое, што і Яраполк прапаноўваў Рагнедзе

толькі становішча другой жонкі пасля балгаркі Мілалікі, былой манахіні грэчаскага манастыра — «грэкіні», якую захапіў у палон падчас аднаго са сваіх далёкіх паходаў і прывёз у Кіеў князь Святаслаў.

Пасланец Уладзіміра, Дабрыня, яго дзядзька па маці і першы дарадца, трохі спазніўся. Магчыма, калі б меў полацкі князь акрамя Рагнеды яшчэ адну дачку, не было б крывавага канца ў гэтай гісторыі. Але Рагнеда з'яўлялася адзінай нявестай у княжацкай сям'і.

Рагвалоду варта было б тактоўна адмовіць свату і найблізкаму сваяку наўгародскага князя. На жаль, ён прыняў няправільнае рашэнне, даручыўшы гэта зрабіць дачцэ. Такім быў старадаўні звычай у славян. Калі да дзяўчыны сваталася адразу некалькі роўных па годнасці, з пункту гледжання яе бацькоў, прэтэндэнтаў, то канчатковы выбар даваўся самой нявесце.

Рагнеда не валодала дыпламатычным досведам. Яна не стала выбіраць слоў для адмовы наўгародскаму жаніху і ганарліва прамовіла: «Не жадаю разбуць сына рабыні!» І гэта было найгоршым з таго, што магла яна сказаць у дадзенай сітуацыі. Гэта была абраза гонару маці Уладзіміра, драўлянскай князёўны Малушы, якая яшчэ ў дзяцінстве патрапіла ў палон да княгіні Вольгі. Калі Малуша падрасла, яе пакахаў адзіны сын Вольгі — Святаслаў, але да паўналецця кіеўскага князя Вольга забараняла яму ажаніцца з Малушай. Яна мела намер дабіцца для Святаслава рукі візантыйскай царэўны Феадоры. Але Святаслаў не жадаў прымаць хрышчанне, і базілеўс адмовіў у шлюбе. Тады Вольга высватала для сына жонку-хрысціянку з Венгрыі — князёўну Ільдзіку, яка я нарадзіла Святаславу дваіх сыноў, Яраполка і Алега. Сын Малушы, Уладзімір, нарадзіўся па-за шлюбам, аднак князь тут жа прызнаў яго. А калі маці саступіла яму ўладу у Кіеве, прызнаўшы паўналетнім, зрабіў Малушу сваёй другой жонкай. Сумненні ў законнасці спадкаемства Уладзіміра балюча ўдарылі па самалюбстве брата Малушы, Дабрыні. Здаецца, акрамя вайны, Полацку чакаць цяпер было ўжо няма чаго. Аднак Рагвалод чамусьці аказаўся зусім непадрыхтаваным для барацьбы. Можа, ён легкадумна меркаваў, што Уладзімір пабаіцца ісці на яго?

А між тым, сумненні і няўпэўненасць у сваіх сілах, якія, уласна, і былі для Уладзіміра першапрычынай пошуку саюзу з Рагвалодам, адразу адышлі на другі план. Лютасць ахапіла маладога князя пасля аповеду Дабрыні аб жорсткіх словах Рагнеды.

Для паходу супраць Рагвалода Уладзімір збірае «вої многі», сярод якіх не толькі наўгародцы, але і славены, чудзь, смаленскія крывічы, варагі — больш дзевяці тысяч ваяроў. Даведаўшыся аб набліжэнні ворага, Рагвалод здзейсніў чарговую памылку — ён не стаў зачыняцца

за надзейнымі гарадскімі сценамі, але вывеў сваю дружыну ў поле, насустрач войску Уладзіміра. Можа, ён разлічваў, што, адцягнуўшы ўвагу супраціўніка, дасць магчымасць выехаць з горада, ўратавацца па нейкім там таемным ходзе дачцэ сваёй і жонцы? Але гэтага не здарылася. Пэўна, Рагнеда не жадала ехаць да жаніха без тых вялікіх багаццяў, якія былі ўжо сабраны ёй як пасаг і чакалі ў вазках на княжым двары. Там жа было нават каштоўнае адзенне для вяселля, здабытае ў самім Царградзе! Царскае адзенне, такое, якое носяць толькі жонкі і дочкі базілеўсаў! А можа, князёўна і маці яе не сумняваліся ў перамозе палачан?

Але полацкі князь быў разбіты. Рэшткі яго дружыны, адступіўшы, атуліліся за сценамі Полацка і там абараняліся да канца. Ратнікі Уладзіміра ўварваліся ў Полацк. Рагвалод разам з абодвума старэйшымі сваімі сынамі быў узяты ў палон. Тады і адбылася страшная помста. Уладзімір, па падказцы пакрыўджанага Дабрыні, згвалціў Рагнеду на вачах у запалоненага яе бацькі. Потым уся сям'я Рагвалода і ён сам былі забіты, а Полацк разбураны і спалены. У якасці баявой здабычы Рагнеда была вывезена пераможцам у Ноўгарад, дзе ў княжым цераме чакала яго першая жонка, скандынаўка Алова. Князь прадставіў Рагнеду ўсім як сваю новую жонку.

Зрэшты, у Ноўгарадзе Рагнедзе давялося пабыць зусім нядоўга. Пасля Полацка Уладзімір пайшоў на свайго брата, Яраполка Кіеўскага, падманам выбавіў яго на сустрэчу, дзе Яраполк быў забіты. Кіеў, зразумела, дастаўся пераможцу. Аб тым, як рэагаваў Тур у сваёй паўднёвай сталіцы на ўсё гэта, звестак, на жаль, няма.

У 988 годзе, пасля таго, як хрышчана была Русь, Уладзімір прызначыў у розныя гарады на кіраванне сваіх сыноў ад розных жонак. Святаполк, сын Уладзіміра ад Яраполкавай удавы — «грэкіні» Міламікі, якая стала трэцяй жонкай Уладзіміра, быў пасланы ў Тураў. Гэта сведчыць шмат пра што.

Па-першае, Тураў, відавочна, у той час падпарадкоўваўся ўжо Кіеву. А гэтага не здарылася б, будзь Тур або яго нашчадкі жывыя. Па-другое, Тураў, верагодна, не быў разбураны падчас змены ўлады, нават калі гэта адбылося ўзброеным шляхам. Бо старэйшы сын кіеўскага князя, яго пераемнік (Святаполк стаў такім пасля смерці сына Аловы Вышаслава і апальнага сына Рагнеды Ізяслава), не мог атрымаць у княжанне руіны. Старэйшаму мусіў дастацца самы багаты, самы прыгожы горад. Як жа Тураў патрапіў ва ўладу кіеўскіх князёў?

Паданне, прыведзенае ў кнізе І. Галуюпскага «Некалькі меркаванняў у пытанні аб князю Туры», дае падставы меркаваць, што Тур правіў сваім горадам да таго часу, як, прыняўшы хрысціянства,

Уладзімір вырашыў распаўсюдзіць яго паўсюль на Русі. І загінуў падчас гэтых падзей. Паводле падання, Тураў аказаў супраціўленне і быў заліты крывёй.

Але гэтае паданне супярэчыць паданню аб хрышчанні Тура. Значна лагічней, на наш погляд, выказаць здагадку, што Тураў стаў падпарадкоўвацца кіеўскім князям пасля таго, як неспадзявана абарвалася княжая дынастыя, заснаваная Турам.

Славутае паданне пра тураўскія саркафагі кажа: «Меў тураўскі князь трох сыноў і пяцёра дачок. Падраслі сыны, князь вырашыў раздаць ім у спадчыну княства. Старэйшаму — Тураў з землямі, сярэдняму — Пінск, маладзейшаму — Дубровіцу».

Іншае паданне распавядае пра тых князёў, што правілі Туравам пасля смерці Тура. І называе дваіх: Уладыку і Комара. Трэцяй была жанчына-чараўніца, імя якой не прыгадваецца. Можна меркаваць, што гэта былі сыны Тура. Яны правілі кожны вельмі няшмат. На трох тураўскіх правіцеляў разам даводзіцца не больш сямі гадоў, бо мы дакладна ведаем, калі ў Тураў прыехаў на княжанне Святаполк Уладзіміравіч.

Што ж гаворыць аб кожным з нашчадкаў Тура паданне?

«Пасля Тура быў Уладыка. Пры ім у Азяранах была вялікая брама, а пры браме замак... З Уладыкінага палаца быў у Тураў насып, а праз раку Язду — мост. Пры Уладыку былі папы і ксяндзы... Памёр Уладыка і пахавалі яго ў каменнай труне...»

Уладыка — гэта не імя, а мянушка. Мабыць, намёк на пабожнасць, хрысціянскі светапогляд сына Тура.

«Пасля Уладыкі быў князь Комар, а пасля Комара княгіня». Комар, другі сын Тура, які таксама ўвайшоў у паданне не з імем, а з мянушкай, правіў, мабыць, наогул мала, ён нават не паспеў зрабіць нічога запамінальнага. Пойдзем далей.

«Імя яе (княгіні. — Аўт.) невядома. Вядома толькі, што яна была вялікая чарадзейка. Калі на Тураўшчыне ў той час разышлася маравая язва, то гэтая княгіня загадала закапаць у зямлю нямога чалавека, жывога бабра і жывога мядзведзя. Калі іх закапалі, то атрымалася гара, якая завецца Бабруйкава гара. Пасля гэтага мор там спыніўся.

Прыходзілі ў Тураў розныя ворагі, але чарадзейка-княгіня абараняла. Аднойчы прыйшло вялікае войска, абклала яно Тураў і спынілася там, дзе зараз Перадол. Княгіня звязала шчотку са свінога шчаціння і кінула. Ворагу здалося, што вырас высокі чарот; кінула курынае яйка, а ворагу здалося, быццам бы разлілася вялікая вада. Доўга стаялі паходнікі, але не хапіла ў іх жыўнасці і харчоў. Сталі

паміраць яны самі і іх коні. На тым жа месцы, дзе пасвіліся коні, з'явілася лагчына — "Перадол".

Калі ў іншы раз дашлі да Турава ворагі, то княгіні-чарадзейкі ўжо не было, і не было каму бараніць Тураў».

Чарадзейка-княгіня — не дачка князя Тура, бо дочкі яго, як і сыны, мусілі быць хрысціянкамі. Верагодна, яна — удава князя Комара. Хрысціянству князёў народная памяць супрацьпастаўляе ярка выяўленае язычніцтва княгіні, якая не проста чаруе на карысць свайго горада, але і святадзейнічае. Яна магла быць вучаніцай і выхаванкай Семярых. Ворагі, ад якіх «бараніла» свой горад княгіня, хутчэй заўсё — кіеўскае войска князя Уладзіміра, які не здолеў заваяваць Тураў, пакуль княгіня была жывая. Што стала прычынай смерці гэтай відавочна маладой жанчыны — мы не ведаем, гэтак жа як не ведаем, чаму за такі кароткі час адзін за адным сышлі з жыцця ўсе сыны Тура. Яны маглі стаць ахвярамі таемнай і відавочнай барацьбы паміж Кіевам і Туравам, з якой першы выйшаў пераможцам.

Падрабязна распавядаючы пра двух сыноў Тура, паданне маўчыць пра лёс трэцяга, гэтак жа, як і пра лёс самога заснавальніка Турава. На першы погляд падаецца, што і летапісы не захавалі ніякіх сведчанняў аб Туры. Але такога проста быць не магло. І сапраўды, звярнемся да працы В. Тацішчава, чалавека, які адзіны з расійскіх даследчыкаў гісторыі бачыў Полацкі летапіс — гэты рэдкі манускрыпт належаў архітэктару Пятру Яропкіну, які дазволіў Тацішчаву працаваць з ім у доме самога Яропкіна. Але неўзабаве рукапіс загінуў падчас пажару. Распавядаючы пра некаторыя гістарычныя падзеі, у адпаведнасці з гэтым летапісам, Тацішчаў, у прыватнасці, піша пад 1144 годам пра існаванне ў Кіеве нейкай Туравай бажніцы. У XII стагоддзі ў цэнтры хрысціянскай сталіцы гэта не магло быць нічым іншым як хрысціянскай царквой.

Менавіта гэтую царкву прыгадвае таксама складальнік «Степенной книги» і аднаго з рукапісных Пралогаў «Слова об успении князя Владимира». У першай крыніцы напісана: «На месцы ж, куды сышоўся кіеўскі люд для хрышчання, была пастаўлена царква ў імя святога пакутніка Турава, і таму названа тое месца Святым месцам». У другой распавядаецца, што ў Кіеве мелася «месца святое, дзе і цяпер ёсць царква святых пакутнікаў ля Турава». Ці Полацкім летапісам карысталіся ў дадзеным выпадку тыя, хто напісаў гэтыя радкі, ці нейкай іншай крыніцай з ліку страчаных — цяжка сказаць, ды гэта і не так ужо важна. Галоўнае тое, што мы можам смела сцвярджаць: у некаторых рускіх летапісах князь Тур прыгадваўся не толькі як брат Рагвалода і заснавальнік Турава. З яго імем звязваецца пабудова ў

Кіеве праваслаўнага храма, які стаў асабліва шануемай мясцовым насельніцтвам святыняй.

Трактуючы цытаваныя тэксты, беларускі даследчык А. А. Мельнікаў мяркуе, што Тур мог пасля хрышчання Русі быць адным з тых, хто «добраахвотна перайшоў да Уладзіміра Хрысціцеля». А значыць, царква гэтая ў Кіеве магла быць пабудавана менавіта ім з дазволу кіеўскага правіцеля.

Але славуты расійскі даследчык летапісаў акадэмік А. А. Шахматаў у сваіх працах звяртае ўвагу на тое, што ў вышэйзгаданых урыўках тэксту перад імем Тура значыцца ў адным выпадку «святы пакутнік», у другім — «святыя пакутнікі». З гэтага вынікае, папершае, што гэта не Тур пабудаваў царкву, а царква пабудавана ў памяць пра святога пакутніка Тура. Падругое, што пабудаваны храм быў не ў гонар аднаго святога Тура, але яшчэ кагосьці са святых пакутнікаў. Традыцыйныя пары святых, шануемых на Русі з самых ранніх часоў, у гонар і ў славу якіх атрымоўвалі імёны храмы — Барыс і Глеб, Кузьма і Дзямьян. Але ніякіх іншых імёнаў акрамя вядомых нам яны не мелі. Зрэшты, існуе і яшчэ адна пара святых пакутнікаў, дарэчы, яны першымі на Русі спадобіліся кананізацыі. Гэта варагі, бацька і сын, Феодар і Іаан, падрабязную гісторыю якіх мы маем у большасці рускіх летапісаў. Гэта тыя самыя Феодар і Іаан, якія яшчэ да прыняцця князем Уладзімірам хрышчання пацярпелі ў Кіеве ад рук язычнікаў за сваю вернасць хрысціянству.

У некалькіх словах нагадаем гэтую гісторыю. Варак Феодар разам са сваім юным сынам прыбыў у Кіеў з Візантыі, дзе, бачна, яны паломнічалі. У Кіеве ў варагаў быў свой двор, дзе яны і спыніліся. Але ў гэты час князь Уладзімір здабыў перамогу над яцвягамі, і вешчуны вырашылі аддзячыць язычніцкіх багоў за гэта, прынесці ім у ахвяру акрамя палонных яцвягаў яшчэ і каго-небудзь з кіеўскіх маладых людзей, юнака альбо дзяўчыну. Жэрабя, выпадкова альбо наўмысна, паказала на Іаана. Феодар адмовіўся аддаваць сына на ахвяраванне і абараняў яго ад натоўпу азвярэлых язычнікаў зброяй і словам, якім хуліў язычніцкіх ідалаў і заклікаў кіеўлян увераваць у Хрыста. Бацька і сын загінулі, разарваныя натоўпам.

Калі Феодар і Іаан былі варагамі, значыць, да свайго хрышчання мусілі мець язычніцкія імёны. Шахматаў лічыць, што такім язычніцкім імем святога пакутніка Феодара і было імя Тур. Пачаўшы першым праслаўляць святых бацьку ды сына, пакутніцкая смерць якіх яшчэ была свежая ў памяці кіеўлян, Уладзімір Хрысціцель загадаў пабудаваць храм у іх гонар.

Апавядаючы пра святых пакутнікаў, летапісец Нестар, між іншым, заўважае, што ў Кіеве двор варага Феодара «стаяў там, дзе цяпер стаіць царква святой Багародзіцы, якую пабудаваў Уладзімір ».

Ці можа быць гэтак, што царква «ў імя святых пакутнікаў», што прыгадваецца ў крыніцах, разгледжаных намі вышэй, і ёсць тая самая «царква святой Багародзіцы»? Цалкам магчыма, бо храмы нярэдка па той ці іншай прычыне мянялі імёны. Але можа, гэта і зусім розныя святыні, проста звязаныя адной гісторыяй.

Аднак Шахматаў, які тлумачыць, чаму святога пакутніка Феодара і святога пакутніка Тура трэба лічыць адной і той жа асобай, тым не менш не атаясамлівае гэтую асобу з заснавальнікам горада Турава. Мала таго, славуты даследчык лічыць князя Тура персанажам міфалагічным, гэтым самым выказваючы недавер паведамленню рускіх летапісцаў пра рэальнасць гэтай асобы.

Але калі ўжо лічыць даказаным факт, што першага рускага святога пакутніка Феодара ў язычніцтве менавалі Турам, то мноства абставін лагічна падвядуць нас да думкі, што гэта менавіта наш князь і што ён цалкам рэальны.

Па-першае, калі варагі, што загінулі ад рук язычнікаў, прыбылі ў Кіеў з Царграда ўжо хрысціянамі, як тое вынікае з летапіснага аповеду, і былі дастаткова цвёрдыя ў сваёй веры, значыць, наўрад ці яны ва ўжытку карысталіся сваімі язычніцкімі імёнамі. Адкуль жа тады язычніцкае імя варага-бацькі становіцца такім вядомым, што нават трапляе ў некаторыя старажытныя крыніцы побач з вылучэннем «святы пакутнік»? Адказ можа быць толькі адзін. Тур-Феодар — не просты вараг. Ен асоба, якую ведалі ў Кіеве яшчэ да хрышчання, гэта значыць, пад язычніцкім імем. А вось язычніцкага імені яго юнага сына не ведае ніхто, магчыма, Іаан быў хрышчаны яшчэ пры нараджэнні, і таму язычніцкага імені ў яго проста не было.

Па-другое, з летапісаў вынікае, што пасля вакняжэння ў Кіеве Уладзіміра і да самага яго хрышчання, у княстве былі ганенні на хрысціян. Хрысціян у Кіеве з часоў святой дабравернай княгіні Вольгі было дастаткова, і цяжка ўявіць, што варагі Феодар і Іаан аказаліся адзінымі ахвярамі язычнікаў. Але імёны іншых ахвяр застаюцца невядомымі, а гісторыя гібелі варагаў трапляе ва ўсе летапісы.

Прычына, на наш погляд, у тым, што забойства Феодара і Іаана з пункту гледжання раннесярэднявечнай маралі было здзейснена з яўным парушэннем законаў таго часу, маецца на ўвазе юрыдычных. І справа тут не проста тым, што бацька і сын былі людзьмі прышлымі, якія не абавязаны былі падпарадкоўвацца кіеўскім унутраным законам. Гэта былі асобы, якія самі мелі права на стварэнне закона, ва

ўсякім выпадку, вараг-бацька. Гэта былі асобы, роўныя па становішчы кіеўскаму правіцелю. Гэта былі князі.

Па-трэцяе, наіўна было б думаць, што ў народа, які толькі-толькі прыняў хрысціянства і яшчэ не да канца адмовіўся ад язычніцкага светапогляду, у народа, які прывык ацэньваць людзей, разглядаючы не іх духоўныя вартасці, а ўладнасць, імяністасць, сілу, выклікаў бы станоўчы рэзананс і атрымаў такое ж распаўсюджванне культ рускіх святых пакутнікаў някняжага паходжання. Жадаючы ў першую чаргу ўказаць падданым найлепшы прыклад для пераймання ў справах веры, Уладзімір Хрысціцель не мог бы знайсці нічога больш прыдатнага, чым звярнуць іх погляды на асобу забітага імі яшчэ не так даўно князя-хрысціяніна.

Ітак, усе сведчанні сыходзяцца. Легендарны заснавальнік Турава аказваецца сапраўды рэальнай асобай, чалавекам, які яшчэ да Уладзіміра Кіеўскага прыняў хрышчанне, хрысціў сваю сталіцу і паказаў вялікаму Кіеву прыклад таго, як трэба вераваць і з годнасцю паміраць. Ён не знікае са старонак «Аповесці мінулых гадоў», застаецца ў ёй, але ўжо пад іншым, хрысціянскім імем, адным з цэнтральных персанажаў старажытнарускай гісторыі. А мы ўсе набываем каштоўныя сведчанні, якія істотна дапаўняюць і робяць яшчэ больш драматычным «Жыціе» першых рускіх святых пакутнікаў.

Для людзей праваслаўных выключна важнае значэнне мае вырашэнне праблемы месцазнаходжання мошчаў святых. У дачыненні да першых рускіх святых пакутнікаў Феодара і Іаана да сёняшняга дня мы мала што маглі дадаць да паведамлення Нестара-летапісца, які сказаў: «І не ведае ніхто, дзе іх паклалі. Бо ж былі тады людзі невукі і нехрысці». Аднак, калі пакутнікі — гэта князь Тур і яго малодшы сын, то, магчыма, вылучэнне месцазнаходжання іх мошчаў не безнадзейная справа.

Вядома, что 24 жніўня 1909 года члены Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта прыбылі ў Тураў дзеля таго, каб правесці раскопкі на Барысаглебскіх могілках, дзе вясной 1909-га быў знойдзены каменны саркафаг. У працэсе раскопак было ўстаноўлена, што саркафаг належыць да таго ж часу, што і заснаванне горада, і што ў ім — рэшткі аднаго ці дваіх чалавек (у народзе потым узнікла легенда пра тое, што гэта — мошчы святых Барыса і Глеба), прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя.

Чэрап аказаўся толькі адзін і выглядаў ён гэтак, што можна было сцвярджаць: гаспадар гэтага чэрэпа быў не проста забіты, але разарваны: «Патылічная костка адбіта, на лобе прабоіна. Ніжняя сківіца засталася на месцы, але на ёй ляжыць трохкутны кавалак ад верхняй

пліткі. Перадплеччы складзены на грудзях, прычым правае знаходзіцца над левым. Паміж бядровымі косткамі заўважаны ў слоі зямлі варонкі. У зямлі зіхацяць тонкія залатыя ніткі, яны размешчаны па ўсім касцяку, даходзячы да галёнкі. На ўзроўні плеч іх больш, месцамі ніткі даўжэйшыя, утвараюць як быццам бы кутасікі. У іншых месцах ніткі гэтак размешчаны, што бачна, што яны былі ў нейкай вузкай тканіне, верагодна, служылі ўтокам галуна...» Саркафаг з рэшткамі забітага князя (альбо дваіх забітых князёў, бо костак аказалася больш, чым належыць для рэшткаў аднаго чалавека) быў пакінуты ў Тураве, «за выключэннем чарапной чашкі, бедранай і вялікай бядровай костак, якія разам з большай часткай залатых нітак узяты ў Мінск...». Потым яны, здаецца, аказаліся ў Санкт-Пецярбургу. Вялікая верагоднасць, што ў саркафагу, знойдзеным у 1909 годзе на могілках пры Барысаглебскай царкве, і былі рэшткі святых пакутнікаў Феодара-Тура і яго сына Іаана, прывезеныя ў родны горад іх прыхільнікамі. Невыпадкова саркафаг Тура аказаўся пахаваным насупраць Туркалодзежа, у якім князь прыняў хрышчанне.

У гэтай сувязі набывае іншы сэнс і вядомае тураўскае паданне пра каменныя крыжы, якія прыплылі ўверх па плыні Прыпяці з самога Кіева і, вылаўленыя тураўцамі, афарбаваліся крывёю. У атэістычным XX стагоддзі нярэдка кровацячэнне крыжоў каментавалася як згадванне аб быццам бы меўшым месца праліцці крыві пры хрышчанні Кіевам Турава. Але, папершае, мы ведаем цяпер, што Тураў не меў патрэбы ў прыняцці хрысціянства ад Кіева, бо быў хрышчаны раней. А па-другое, каменныя крыжы — гэта хрысціянскі цуд. І калі яны кроваточылі, то гэта мог быць выключна толькі знак, што сведчыць пра пакутніцтва хрысціян, а не язычнікаў. Хто ж з тураўскіх хрысціян пацярпеў за веру ў Кіеве ў тыя часы, да якіх адносяць цуд з каменнымі крыжамі? Князь Тур-Феодар і яго сын Іаан. Магчыма, менавіта пра іх гібель і мусілі распавядаць хрышчанаму Тураву крыжы, якія прыплылі з язычніцкага Кіева.

Як бы там ні было, са сходам у нябыт князёў Рагвалода і Тура скончыўся легендарны «залаты век» раннефеадальнай Беларусі.

## РАГНЕДА — СІМВАЛ БЕЛАРУСІ

Пэўна, няма цяпер нікога ў Беларусі, каму было б невядома імя Рагнеды. Яна даўно ўжо стала своеасаблівым сімвалам нашай краіны.

Але ці так ужо добра на самой справе ведаем мы падрабязнасці лёсу нашай любімай гераіні? Сведчанні пра яе абмяжоўваюцца толькі двума ў чымсьці супярэчлівымі запісамі з Іпацьеўскага і Лаўрэнць-

еўскага спіскаў «Аповесці мінулых гадоў» ды навелай, якая трапіла ў Цвярскі і Гунстынскі летапісы. Астатняе даводзіцца аднаўляць пры супастаўленні ўскосных сведчанняў і фактаў.

Некаторым айчынным даследчыкам вельмі хочацца падкарэктаваць лёс гэтай неардынарнай асобы так, каб цалкам падвесці яе пад характарыстыку «станоўчага персанажа. Дзеля гэтага яны нават бяруцца аспрэчваць тыя нешматлікія дадзеныя аб ёй, якія захаваліся, дзякуючы самаадданай працы старажытнарускіх летапісцаў.

Аўтары гэтай кнігі таксама часам мелі смеласць не згаджацца з фактамі, выкладзенымі ў летапісах. Але выпадак з Рагнедай — асаблівы. Таму што летапісныя аповеды — адзіныя пакуль вядомыя нам першакрыніцы, якія згадваюць гэтую полацкую князёўну. І калі ўсумніцца ў іх, то можна будзе дазволіць сабе ўсумніцца, у рэшце рэшт, і ў самім існаванні Рагнеды. А ці не яе чароўна-прыўкрасны ў сваёй непасрэднасці вобраз з хваляваннем апісвае цвярскі летапісец? Ці не яе сіле волі і мэтанакіраванасці дзівіцца суровы Нестар?

Нельга гэтак ярка і выразна пісаць пра асобу, якая рэальна не існавала. І прыцягальнасць Рагнеды, пэўна, толькі ўзрасце, калі мы прымем яе ва ўсёй супярэчлівасці яе натуры і, забыўшы ўсе магчымыя «перабольшванні» і «прычэсванні» фактаў біяграфіі, зробленыя нашымі сучаснікамі, зірнём на Рагнеду не як на бронзавую статую-сімвал, а як на жывога чалавека.

Мы ўжо распавядалі вышэй ва ўсіх падрабязнасцях гісторыю крывавага сватаўства да прыгажуні Рагнеды наўгародскага князя "Уладзіміра Святаславіча. Гэта — тая частка гісторыі Рагнеды, якая звычайна даследчыкамі не аспрэчваецца. Працяг жа гэтай гісторыі — вось што выклікае бурныя абмеркаванні сучаснікаў. «Другое» і «трэцяе» жыцці Рагнеды, як ярка вызначыў іх пісьменнік-гісторык К. Тарасаў, не вывучаны больш. Пагаворым пра іх.

Такім чынам, пасля вакняжэння ў Кіеве Уладзіміра, ён перавёз туды і Рагнеду. Яе і першую жонку Алову пасялілі ў адным цераме з удавой Яраполка, «грэкіняй» Міламікай, якую Уладзімір пасля забойства яе мужа абвясціў чарговай сваёй жонкай. Год, калі адбыліся ўсе гэтыя драматычныя падзеі, у летапісах адзначаны як 980-ы. Але даследчыкі падлічылі, што насамрэч гэта было не пазней за 976 год. Такая дата ўсплыла дзякуючы сапраўды вядомым гадам жыцця другога сына Рагнеды, Яраслава Мудрага. 976 год можна таксама ўмоўна лічыць годам нараджэння першынца Рагнеды — Ізяслава.

Уладзімір не абмежаваўся трыма жонкамі. Дзве князёўны, багемка Адэль і мараўка Малфрыда папоўнілі гарэм кіеўскага правіцеля. Акрамя іх, паводле летапісных сведчанняў, Уладзімір завёў мноства

наложніц. Хаця колькасць іхняя, прыведзеная тым жа Нестарам-летапісцам, прымушае ўсумніцца. Пра тое, як суіснавалі разам наложніцы князя, нічога невядома. А вось паміж законнымі жонкамі міра яўна не было.

Урэшце, каб пакончыць з распачатымі інтрыгамі, сцэнамі рэўнасці, жаночымі спрэчкамі, якія даходзілі да боек, Уладзімір прыняў рашэнне аб пабудове ў навакольных сёлах асобных церамаў для сваіх сужэнак. Мяркуючы па ўсім, перасяленне Уладзіміравых жонак з Кіева адбылося не раней за 977 год, таму што ў Рагнеды ў гэты час было ўжо і другое дзіця — дачка Прадслава. Такую выснову можна зрабіць, таму што сялу, у якім пасялілі Рагнеду, Уладзімір даў новае імя — Прадславіна.

Гвалтоўна стаўшы жонкай Уладзіміра, полацкая князёўна, трэба думаць, пэўны час вагалася, шукаючы магчымасці прымірыцца са сваім становішчам, як зрабіла гэта, напрыклад, іншая ахвяра мужчынскіх амбіцый, удава Яраполка Мілаліка. На працягу васьмі гадоў цярпела полацкая князёўна ласкі свайго крыўдзіцеля, спрабуючы суцешыць сябе тым, што сярод усіх жонак і наложніц яна застаецца для яго самай жаданай. Доказам гэтаму з'яўляецца тое, што за восем гадоў Рагнеда нарадзіла Уладзіміру шасцярых дзяцей: чатырох хлопчыкаў і дзвюх дзяўчынак. Аднак спроба Рагнеды апраўдаць Уладзімірава злачынства ў Полацку апантанасцю закаханага не ўдалася. У 988 годзе кіеўскі князь абвясціў, што ён прыняў рашэнне хрысціцца ў праваслаўе, ажаніцца з візантыйскай царэўнай Ганнай і распусціць свой гарэм. Значыць, кахання не было, была толькі страсць і палітычны разлік, — зразумела Рагнеда. І тады смяротная крыўда за сябе і за дзяцей авалодала ёю.

Цвярскі і Гунстынскі летапісы апавядаюць, як, даведаўшыся пра намер Уладзіміра знайсці ёй іншага мужа сярод сваіх баяр, Рагнеда ўзарвалася яраснай прамовай: «Княгіняю была, ды не стану рабыняю!» А яе пяцігадовы сын Яраслаў, разумны, але ўбогі хлопчык, які ад нараджэння не мог хадзіць, раптам узняўся, уражаны, са свайго крэсла і кінуўся да маці з крыкам: «Ты княгіня над княгінямі і царыца над царыцамі!»

Уладзімір, якога не магло не ўразіць цудоўнае вылячэнне сына, выказаў жаданне пераначаваць у Рагнедзіным цераме на Лыбедзі. І хто ведае, якое б рашэнне да раніцы выспела ў яго галаве, калі б сярод ночы абражаная Рагнеда не кінулася на мужа з кінжалам.

Па сведчанні Лаўрэнцьеўскага летапісу, муж са здзіўленнем спытаўся, што паслужыла прычынай такога ўчынку жонкі. На гэта Рагнеда адказала, безумоўна, успомніўшы ўсе грахі Уладзіміра, і ў пер-

шую чаргу — забойства яе родных: «Ты бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў дзеля мяне, а цяпер не кахаеш мяне...»

Успомніць аб Полацку, аб бацьках і братах Рагнеду прымусіла здрада чалавека, у пачуццях якога да яе яна не сумнявалася. Зрэшты, ці нам судзіць учынкі Рагнеды? Тым больш з сучасных пазіцый. Жорсткім быў свет, у якім жыла жанчына. І гэта не магло не паўплываць на фармаванне яе характару, яе светапогляду. І ўсё ж Рагнеда не была дачкой толькі сваёй эпохі. Яна значна апярэдзіла ў развіцці самасвядомасць сваіх сучасніц. Таму яе і запомнілі, таму яе ўчынак і выклікаў здзіўленне і захапленне ў суровых летапісцаў. Была б Рагнеда іншай, летапісы нічога б не сказалі нам пра яе лёс.

Першым імкненнем князя было: забіць непакорную. Але нечакана ў справу ўмяшаўся іншы Рагнедзін сын, сямігадовы Ізяслаў. Са сваім дзіцячым мячом паўстаў ён на шляху раз'юшанага бацькі, каб абараніць маці. І адступіўся Уладзімір, спалохаўшыся гэткай любові дзяцей сваіх да іхняй маці.

Разам з маленькім сваім абаронцам Ізяславам Рагнеда была выслана з Кіева на землі, што калісьці належалі яе бацьку. Там, у спецыяльна пабудаваным для іх горадзе Ізяслаўлі, жыла некаторы час непакорная, адмаўляючыся даць Уладзіміру развод, каб не прынізіць сваё княскае становішча.

Гісторыкі і зараз спрачаюцца аб тым, на якім становішчы жыла Рагнеда ў Ізяслаўлі. Беларускі гісторык У. Ігнатоўскі, напрыклад, лічыць, што ў гэтым невялікім мястэчку Рагнеда пачувалася гаспадыняй. М. Ермаловіч таксама схіляецца да такой думкі, гаворачы нават больш: «Новапабудаваны Ізяслаўль хутчэй стаў уладаннем Рагнеды (некаторыя даследчыкі лічаць яго "першым феадальным валоданнем ва Усходняй Еўропе")». Тым не менш К. Тарасаў упэўнена гаворыць аб бяспраўным становішчы Рагнеды ў Ізяслаўлі, гвалтоўным пастрыжэнні ў манахіні, фактычна зняволенні яе ў манастыр без права бачыцца з сынам і потым аб магчымым атручванні абодвух.

Перачытаем яшчэ раз летапісы, адзіныя крыніцы, спаслацца на якія мы зараз можам. У Лаўрэнцьеўскім спісе «Аповесці мінулых гадоў», дзе найбольш падрабязна апісаная гісторыя Рагнеды, гаворыцца: «І апусціў ён (Уладзімір. — Аўт.) свой меч, склікаў баяраў і распавёў ім. Яны ж параілі яму: "Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці (Ізяслава. — Аўт.), а аднаві яе спадчыну і дай ёй з яе сынам". І пабудаваў Уладзімір горад, аддаў яго ім і назваў гэты горад Ізяслаўлем. І з таго часу меч узнімаюць Рагвалодавы ўнукі супраць Яраслававых унукаў».

Відавочна, гутарка тут ідзе хутчэй аб ганаровай ссылцы жанчыны, якая сваім учынкам уразіла не толькі кіеўскага правіцеля, але і яго баяр. Аб міжвольнай павазе сведчыць і тое, як падбаў Уладзімір аб іншых сынах Рагнеды. Яраславу ў княжанне ён аддаў Ноўгарад, Мсціславу — Тмутаракань, Усеваладу — Уладзімір-Валынскі.

Хутка пасля таго, як Рагнеда апынулася ў Ізяслаўлі, у грэцкай Корсуні адбылося ўрачыстае хрышчанне Уладзіміра, пасля якога ён наладзіў не менш пышнае вянчанне з царэўнай Ганнай. Без ахвоты ішла за нядаўняга язычніка сястра візантыйскіх базілеўсаў, са слязьмі пакідала родныя берагі, бо чула і пра крывавыя паганскія ахвярапрынашэнні, у якіх прымаў удзел яе жаніх, і пра яго гарэм. Адно толькі саграvала ёй душу — думка пра тое, што яе святой місіяй стане хрышчанне «дзікунскай Русі». Уладзімір мусіў як мага хутчэй рэабілітаваць сябе перад візантыйкай, даказаўшы, што хрышчанне дзіўным чынам памяняла і яго натуру, і яго светапогляд. Адразу ж па прыездзе ў Кіеў ён прадставіў Ганне сваіх былых жонак. Дзве з іх былі ўжо замужам за кіеўскімі баярамі, Алогія і Мілаліка выбралі цнатлівае жыццё, падобнае да жыцця ўдоў. Але заставалася Рагнеда. У любы момант Ганне маглі данесці, што недзе там, за межамі Кіева, жыве жонка Уладзіміра, якая працягвае лічыць сябе яго княгіняй. Пытанне з Рагнедай трэба было тэрмінова вырашаць. Тады Уладзімір, трэба думаць, таемна ад Ганны, паслаў Дабрыню на перамовы з ганарлівай палачанкай. Суровы дзядзька Уладзіміра быў гатовы да ўсяго. Магчыма, ён здольны быў нават дзеля спакою свайго выхаванца зрабіць яго ўдаўцом. Але размова з Рагнедай нечакана прыняла зусім іншую афарбоўку.

Аднойчы Слова Божае, магчыма, прынесенае скандынавам-прапаведнікам Торнвальдам, які прыйшоў з місіянерскімі мэтамі ў Полацк і не мог не пачуць там пра сумны лёс дачкі Рагвалода, дасягнула горніцы княгіні. І зразумела Рагнеда, як можа развітацца з крыўдзіцелем сваім, не прынізіўшы сябе. Яна сказала Дабрыні, што згодна адпусціць Уладзіміра, бо абрала сабе ўжо і жаніха. Жаніх гэты — Хрыстос.

Бунтарка Рагнеда стала самай першай на ўсходнеславянскіх землях манахіняй, маральна ўзняўшыся ў вачах нашчадкаў сваіх да такой недасяжнасці, вышэй за якую знаходзяцца толькі святыя. Яна памерла на мяжы новага стагоддзя, у 1000 годзе, які канчаткова адмяжоўвае летапісную гісторыю ўсходніх славян ад далетапіснай.

## ДАЧКА КНЯЗЯ ТУРА

У другой палове XIX стагоддзя дапытлівы расійскі падданы нямецкага паходжання А. Ф. Гільфердынг, вандруючы па рускай Поўначы, зрабіў нечаканае і для сябе, і для еўрапейскіх вучоных, і нават для айчыннай лінгвістычнай навукі адкрыццё. Ён высветліў, што ў фальклор рускага насельніцтва гэтых мясцін уваходзяць творы нікому не вядомага раней жанру — быліны. Даследчык пачаў запісваць пачутае, і неўзабаве выдаў цэлы зборнік. Услед за ім збіраннем былін заняліся і іншыя навукоўцы-фалькларысты. Яны высветлілі, што гэты від вуснай народнай творчасці распаўсюджаны сярод вясковага насельніцтва на велізарнай тэрыторыі. Сказіцелі былін, у адрозненне ад казачнікаў, лічаць былінных герояў асобамі, якія існавалі на самой справе. А падзеі, аб якіх распавядаюць, — рэальнымі фактамі далёкага мінулага.

Навукоўцы спачатку не ўспрынялі сур'ёзна падобныя выказванні. Але з часам вымушаны былі перайначыць свае погляды, таму што змаглі аднавіць біяграфіі большасці былінных герояў і ідэнтыфікаваць падзеі, апісаныя ў былінах.

Мошчы самага ўслаўленага багатыра Іллі Мурамца пакояцца ў Кіева-Пячорскай лаўры. Ён жыў у XII стагоддзі, сапраўды доўгі час быў хворы, не хадзіў з-за рэдкай хваробы гіпофіза і толькі ў сталым ўзросце быў якімсьці чынам вылечаны. Пасля 45 гадоў з-за абвастрэння хваробы пастрыгся ў манахі. Загінуў жа ад удару кап'ём у сэрца, верагодна, падчас прапаведвання язычнікам — пальцы правай рукі волата-манаха складзены для хрэснага знамення. Праваслаўная царква кананізавала гэтага героя, дзень яго памяці — 1 студзеня па новым стылі.

Алёша Паповіч быў сучаснікам Іллі. Растоўскі багатыр, ён служыў у дружыне Андрэя Багалюбскага. Дачка Мурамца, Шуша (Аляксандра), стала жонкай сына Алёшы Паповіча, Ямелі. З Растовам жа звязана і імя волата Святагора. Ён быў сынам растоўскага князя. Сапраўдным імем яго было Самсон Самойлавіч, а мянушку Святагор ён атрымаў з-за таго, што ў маладосці здзейсніў поўны небяспекі шлях да святых Афонскіх гор. У быліннага персанажа Дабрыні Нікіціча адразу тры прататыпы — кіеўскі багатыр, які жыў у часы Іллі і Алёшы; дзядзька князя Уладзіміра Хрысціцеля Дабрыня Малавіч і адважны дружыннік Дабрыня, які разам з нейкім нашчадкам Алёшы Паповіча, Аляксандрам Паповічам, загінуў у бойцы з мангола-татарамі на Калцы.

Але нас найбольш цікавяць тыя быліны, якія маюць дачыненне да беларускай гісторыі. На вялікае шкадаванне, такіх твораў няшмат. Аднак, гэта яшчэ больш павялічвае іх каштоўнасць. Не так даўно мы былі прыемна здзіўлены, даведаўшыся, што прататыпам быліннага Волха (у іншых варыянтах Волхва) Усяслава з'яўляецца полацкі князь Усяслаў Чарадзей. Затым «прывязалі» да беларускіх зямель быліннага волата-аратая Мікулу Селянінавіча. І, нарэшце, даследчыкі ўсходнеславянскага фальклору адкрылі, што ў быліне «Дунай», якая, дарэчы, з'ўлялася адной з першых знаходак Гільфердынга, у вобразе «літоўскага караля» і яго дачкі Апраксы выведзены полацкі князь Рагвалод і князёўна Рагнеда.

Так, напрыклад, сучасны рускі навуковец-фальклярыст Віктар Калугін піша: «Здабыванне нявесты князю Уладзіміру Дунаем і Дабрыняй Нікіцічам мае бясспрэчную гістарычную паралель. Гэта знакаміты расказ пра тое, як Дабрыня, "ваявода храбры і прыбраны муж" накіроўваўся сватам да полацкага князя Рагвалода і атрымаў адмову яго дачкі, гордай Рагнеды...»

Быліна гэтая вельмі цікавая і незвычайная. Яшчэ ў XIX стагоддзі яна мела вялікую папулярнасць і была запісана збіральнікамі фальклору ў некалысіх варыянтах, якія даволі моцна адрозніваюцца адзін ад аднаго.

Наша цікавасць да быліны пра Дуная ўзнікла яшчэ і таму, што ў ёй дзейнічае адначасова з персанажамі, прататыпы якіх ужо вызначаны, цэлы шэраг «нерасшыфраваных». І ў першую чаргу гэта датычыць галоўнай гераіні быліны Настассі, якую тут называюць старэйшай сястрой Апраксы-Рагнеды. Што ж нам вядома пра яе?

Гэтая дзяўчына была багатыркай, альбо, як звалі іх яшчэ ў тыя часы, паляніцай. Гэтак жа, як і іншыя багатыр-дзяўчыны, вяла яна поўнае прыгод і небяспекі жыццё. Настасся была вельмі моцнай. Дасканала валодала зброяй. А ў стральбе з лука яе не маглі перамагчы не толькі паплечніцы-паляніцы, але і багатыры-мужчыны. І пры ўсім тым, як сцвярджае быліна, Настасся была яшчэ пісанай прыгажуняй.

Падзеі ў быліне развіваюцца гэтак. Кіеўскі князь Уладзімір Чырвонае Сонейка вырашыў ажаніцца. З дзвюх дачок свайго дальняга суседа, «караля харобрай Літвы», кандыдатуры якіх прапанавалі яму багатыры-дружыннікі, ён выбраў малодшую, Апраксу-каралеўну. Жаноцкую, крыху какетлівую прыгажуню, якая

...ходзіць па цераме, залатым версе
у адной тонкай кашульцы без пояса,
у адных тонкіх панчошках без чобатаў,
у яе русая каса параспушчаная.

І выракся ад старэйшай Настассі-каралеўны, якая

Ездзіць у чыстым полі паляніцаю,
Мае ў плячах моц вялікую...

Сватамі паслаў Уладзімір дваіх сваіх дружыннікаў-багатыроў Дабрыню Нікіціча і Дуная Іванавіча, які ў свой час служыў у бацькі Апраксы і Настассі.

«Кароль харобрай Літвы» спачатку выказаўся супраць шлюбу Апраксы. Спаслаўся на звычай, згодна якому, нядобра выдаваць замуж малодшую дачку раней за старэйшую. Але пасля таго як Дунай прадэманстраваў «паважанаму гаспадару» і яго слугам сваю моц маладзецкую, вымушаны быў даць згоду. Узрадаваныя сваты паспяшаліся ў Кіеў з прыемнай для сваго князя навіною. Але раптам заўважылі, што іх нехта даганяе, і затрымаліся. Дунай выйшаў насустрач таму, хто гнаўся за імі. Нечакана той гэтак свіснуў, што кіеўскі волат абрынуўся з каня на зямлю. Зрэшты, Дунай хутка ачуняў і ў сваю чаргу збіў супраціўніка з каня. Маючы намер зарэзаць ворага, кіеўскі багатыр разарваў на тым кашулю і атарапеў... Невядомы двубоец аказаўся дзяўчынай. Абяззброены нечаканасцю, багатыр адступіў, і тады пераможаная паляніца спыталася:

«Што жа ты, Дунай, мяне ды не пазнаў?
Ці ж адной дарожкай мы не ездзілі,
З адной чарачкі ды не пілі?
А ты жыў у нас роўна тры трыгоды:
Першы трыгод жыў ты ў конюхах,
А другі трыгод жыў у чашніках,
А трэці трыгод жыў у стольніках».

І волат пазнаў тую, з кім змагаўся. Прыгадаў ён дзяўчынку-падлетка, старэйшую дачку «караля літоўскага», у якога служыў калісьці. І ўразіўся, пабачыўшы, у якую прыгажуню яна ператварылася. Дунай тут жа прапанаваў ёй ехаць з ім у Кіеў і там абвянчацца. Настасся, верагодна, даўно ўжо была закаханая ў багатыра, бо адразу ж згадзілася.

Але сямейнае жыццё не прынесла ёй шчасця. І прычынай гэтаму стаў яе незалежны, праўдзівы характар. Падчас аднаго з піроў Дунай пад уздзеяннем хмяльных напояў развыхваляўся, пачаў сцвярджаць, што ён — самы лепшы волат у Кіеве. Настасся не вытрымала і запярэчыла мужу:

«Ці не пустым ты, Дунаюшка, выхваляешся?
А і нядоўга я ў горадзе прабыла,
А шмат у горадзе даведалася:
Няма асілка лепшага на барацьбе
За Дабрыню за Нікіціча.

А на стрэл ды лепшага няма
За Настассю за каралеўну».

Распалены выпітым, Дунай вырашыў неадкладна даказаць усім, што ягоная жонка дарэмна сумняваецца ў яго вартасцях. Ён прапанаваў ёй наладзіць спаборніцтвы па стральбе з лука і прайграў. Настасся расшчапіла ўсе тры стралы аб лязо нажа. А Дунай пры першых двух стрэлах прамахнуўся. У шаленстве багатыр накіраваў апошнюю стралу ў сваю жонку. Настасся маліла захаваць ёй жыццё, бо ўжо шэсць месяцаў насіла пад сэрцам дзіця. «Другога такога немаўляці ў горадзе няма», — спрабавала жанчына абудзіць дабро і бацькоўскія пачуцці ў душы п'янага мужа. Аднак Дунай ужо не мог стрымаць сваю лютасць.

І толькі пасля таго, як упала Настасся-паляніца на зямлю са стралою ў грудзях, зразумеў ён, што здарылася, і тут жа кінуўся на ўласны меч. А кроў яго, змяшаўшыся з крывёю Настассі і крывёю іх ненароджанага дзіцяці, дала пачатак рэчцы Дунай. Вось такі былінны аповед.

І зноў узнікае пытанне — колькі тут праўды і колькі выдумкі? Ці можна лічыць Настассю рэальнай гістарычнай асобай? В. Г. Бялінскі, напрыклад, пісаў: «У Настассі-каралеўне ажыццёўлены ідэал амазонкі па разуменні рускага чалавека. Жонка багатыра павінна нараджаць багатыроў, а дзеля гэтага сама павінна быць багатырам свайго полу».

Але нават калі ён памыляецца, і гісторыя Настассі — фальклярызаваная біяграфія канкрэтнага чалавека, што жыў у X стагоддзі, то ў якой ступені яна фальклярызавана? Што ў быліне рэальна, а што з'яўляецца прыгожым домыслам? Паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні, прааналізаваўшы, як быліна сказіла факты біяграфій іншых сваіх персанажаў.

Драматычная гісторыя сватаўства Уладзіміра (тады яшчэ наўгародскага князя) выдатна вядома. Рагнеда адмовіла князю, заявіўшы, што не жадае «...разбуць сына рабыні». Вядома і тое, як жорстка адпомсціў Уладзімір за абразлівую адмову. У быліне ж язычніцкае імя Рагнеды заменена на хрысціянскае. Прычым на такое, якое пасля прыняцця хрысціянства на Русі стала найбольш папулярным сярод прадстаўніц кіеўскай княжацкай дынастыі, Апракса — Еўпраксія. Бацька ж Рагнеды, полацкі князь Рагвалод, паўстае ў быліне безыменным «каралём харобрай Літвы». Адбылася такая замена, хутчэй за ўсё, дзесьці ў XIV-XV стагоддзях, у той час, калі Полацкае княства ўвайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага. Калі ўжо гэтыя гістарычныя персанажы спазналі такую трансфармацыю ў народнай фантазіі, то што ж можна гаварыць пра іх менш вядомых сучаснікаў?

Дарэчы, ці можна давяраць быліне ў тым, што паляніца Настасся і жонка кіеўскага князя Уладзіміра сапраўды з'яўляліся сёстрамі? Вядома, што ў Рагнеды родных сясцёр не было. А былі толькі два браты. Але тут, магчыма, мелася на ўвазе яе стрыечная сястра, адна з дачок заснавальніка Турава, князя Тура.

Згодна паданню пра тураўскія саркафагі, у малодшага Рагвалодавага брата, Тура, было ажно пяць дачок. Усе яны, быццам бы, загінулі ў адну ноч, у якую святкавалі Купалле, і былі пахаваны ў каменных саркафагах. У XIX — пачатку XX стагоддзя ў Тураве сапраўды былі знойдзены старажытныя саркафагі часоў князя Тура. І хаця ў адным з іх аказаліся мужчынскія рэшткі, аднак у іншых маглі пакоіцца і тураўскія князёўны. Ва ўсякім разе, цалкам адмаўляць тое, што Тур меў дачок, мы не можам. Магчыма, што хто-небудзь з дачок князя і загінуў таямнічай смерцю падчас правядзення паганскага абраду. Але малаверагодна, каб смерць напаткала ўсіх адначасова. У рэчаіснасці ж магло быць так, што адна з дачок Тура альбо выхоўвалася ў полацкага князя, альбо часта бывала ў яго ў гасцях. А калі прыгадаць, што Настасся была паляніцай, то можна выказаць здагадку, што яна часцяком наведвалася да стрыечнай сястры і, магчыма, нават апекавала яе.

Звернем увагу на той факт, што наша гераіня носіць хрысціянскае імя. Гэта цалкам супастаўляецца з версіяй аб хрышчанні Тура і Турава.

А вось полацкі ўладар прытрымліваўся старога веравызнання. Нават у быліне падкрэсліваецца, што звычаі пры двары «караля літоўскага» былі зусім не такімі, як у Кіеве. Дунай ведаў, напрыклад, што, заходзячы на «каралеўскі» двор, не трэба «жагнацца, маліцца». Рагвалод не толькі сам прытрымліваўся язычніцтва, але і дачку сваю, прыгажуню Рагнеду, выхоўваў у веры продкаў. Гэта потым, нацярпеўшыся замужам за Уладзімірам, здзейсніўшы замах на мужа і апынуўшыся ў ссылцы ў Ізяслаўлі, яна прыняла хрышчанне і пастрыглася ў манахіні. І зноў цікавы факт. Манаскім імем полацкай князёўны стала — Анастасія. Ці не ў памяць аб любімай сястры? Хто ведае?

І яшчэ адно пытанне ўзнікае пры аналізе быліны. Дзе адбыліся падзеі, якія прывялі да крывавай развязкі? Дзе знаходзіцца гэтая самая рака Дунай? Славутая рака, пра якую аўтар «Аповесці мінулых гадоў» прыгадваў, кажучы: «...сядзелі славяне на Дунаі», калі расказваў пра часы, што папярэднічалі рассяленню славян на ўсход і поўдзень, была цудоўна вядома на Русі ў былінныя часы. Бацька Уладзіміра Хрысціцеля, Святаслаў, шмат гадоў ваяваў у Балгарыі з візантыйцамі, меў нават пэўны час намер перанесці на берагі гэтай ракі

сталіцу сваёй дзяржавы. Так што звязваць паходжанне вялікага Дуная са смерцю якога-небудзь, хай сабе і наймагутнага, багатыра нашы продкі не сталі б. А ці не магло так здарыцца, што на тэрыторыі старажытнай Русі працякаў іншы Дунай, малы? Такі, які па сваіх памерах мог асацыявацца з ракой, узніклай з крыві волата?

Трагічныя падзеі, апісаныя ў быліне, па сцвярджэнні яе сказіцеляў, адбываліся пад Кіевам. Аднак у тых мясцінах ні рэчкі, ні ручая з такой назвай няма і ніколі не было. А што калі сказіцелі, якія перадавалі адзін аднаму на працягу стагоддзяў гэты прыгожы паэтычны сюжэт, проста «забыліся», дзе на самай справе знаходзіцца месца гібелі іх герояў? Дык можа мы шукаем не там? Можа, апісаны ў быліне пір адбываўся ва ўладаннях не кіеўскага князя, а тураўскага ці полацкага? На карысць гэтай гіпотэзы такі факт: у няпоўных паўтара кіламетрах ад сталіцы Беларусі, каля старажытнага гарадзішча, там, дзе па меркаванні шэрагу даследчыкаў першапачаткова знаходзіўся Мінск, і ў наш час цячэ рачулка з назвай Дунай. Землі ж гэтыя ў часы, апісаныя ў быліне, уваходзілі ў склад Полацкага княства. Больш таго, падобная назва нідзе больш на былой тэрыторыі Старажытнай Русі не сустракаецца.

Дарэчы, для беларускай тапанімікі наогул вельмі характэрна «прывязваць» назву населенага пункта, узгорка, рэчкі, возера да якога-небудзь уласнага імя. У такім выпадку, магчыма, сапраўды існаваў чалавек з імем Дунай. І падзеі, што былі апісаны ў быліне (хай сабе і не зусім такія ў дэталях), маглі адбывацца на гэтым месцы. Праўда, рачулка Дунай, зразумела, не магла ўзнікнуць у выніку той крывавай драмы. Але нельга выключаць верагоднасць таго, што менавіта на яе берагах здзейсніў жорсткае забойства, а затым і самагубства кіеўскі волат. Кроў забойцы і яго ахвяры змяшалася з рачнымі хвалямі. Мясцовыя ж жыхары былі настолькі ўражаны ўсім тым, што адбылося, што перанеслі імя волата, які тут загінуў, на рэчку.

У апошні час шмат людзей імкнецца наведаць старажытны Ізяслаўль, цяперашні горад Заслаўе. Гэта своеасаблівае паломніцтва ў месцы, дзе правяла апошнія гады свайго жыцця полацкая князёўна і кіеўская княгіня, першая ўсходнеславянская манахіня Рагнеда-Анастасія. Дык, можа, з часам такім жа месцам паломніцтва стане і старажытнае гарадзішча, абмываемае рэчкамі Менка і Дунай, а аб'ектам пакланення вернутая з цемры забыцця тураўская князёўна Настасся?

# СПІС ВЫКАРЫСТАНАЙ І ПРАПАНУЕМАЙ ЛІТАРАТУРЫ


Авдусин, Д. А. Археология СССР / Д. А. Авдусин. — М., 1977.

Аксенова, А. Краткое жизнеописание святой Ольги, Великой княгини / А. Аксенова // Православные святыни : сб. — СПб., 1996.

Алексеев, Л. В. Полоцкая земля в IX-XIII веках / Л. В. Алексеев. — М. 1966.

Арлоў, У. Ад Рагвалода да Брачыслава / У. Арлоў // Беларусь. — 1992. — № 8.

Арлоў, У. Таямніцы полацкай гісторыі / У. Арлоў. — Мінск, 1994.

Артамонов, М. И. Киммерийцы и скифы : (от появления на исторической арене до конца IV в. до н. э.) / М. И. Артамонов. — А., 1974.

Археалогія і нумізматыка Беларусі : энцыклапедыя. — Мінск, 1993.

Асіноўскі, С. Там, дзе была Неўрыда / С. Асіноўскі. — Мінск, 1996.

Бантыш-Каменский, Д. Н. История Малой России от водворения славян в сей стране до уничтожения гетманства / Д. Н. Бантыш-Каменский. — Киев, 1993.

Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: т. 1-12. — Мінск, 1969-1975.

Беларуская энцыклапедыя : т. 1-7. — Мінск, 1996-1999.

Белинский, В. Г. Статья о народной поэзии // Белинский, В. Г. Полное собрание сочинений : т. 5 / В. Г. Белинский. — М., 1954.

Богданов, А. Владимир Святой / А. Богданов. — М., 1994.

Богданов, А. Аыбедь, сестра Киева / А. Богданов. — М., 1994.

Бонгард-Левин, Г. М. От Скифии до Индии. Древние арии: мифы и история / Г. М. Бонгард-Левин, Э. А. Грантовский. — М„ 1975.

Брашинский, И. Б. Сокровища скифских царей / И. Б. Брашинский. — М., 1967.

Брокгаузъ, Ф. А. Энцйклопедйческій словарь : т. 24 / Ф. А. Брокгаузъ, И. А. Ефронъ. — СПб., 1898.

Булгаков, С. В. Настольная книга священно-церковно-служителя : т. 1 / С. В. Булгаков. — М„ 1993.

Бутрамееў, У. Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі / У. Бутрамееў. — Мн., 1995.

Былины / сост. В. А. Калугин. — М., 1986.

Быченкова, Л. Сватовство в Константинополе / Л. Быченкова // Крестьянка. — 1993. — № 1.

Велесова книга. — М., 1995.

Велесова книга // Лесной, С. Откуда ты, Русь? / С. Лесной. — Ростов-на-Дону, 1995.

Велесова книга /пер. и комментарии В. Гнаткжа и Ю. Гнатюк. — М. 2006.

Вергей, В. С. Раннеславянское поселение Струга 1 на нижней Горыни / В. С. Вергей // ARCHAEOSLAVICA. — 1993. — № 2.

Витебская старина : т. 1 / сост. А. Сапунов. — Витебск, 1883.

Віцебскі летапіс // Беларускія летапісы і хронікі : зб. — Мінск, 1997.

Воскобойников, В. Повесть о равноапостольном святом Великом князе Владимире / В. Воскобойников. — СПб., 1996.

Вяргей, В. С. Сляды сівой даўніны / В. С. Вяргей // 1 Іамяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Жыткавіцкага раёна. — Мінск, 1994.
Вяргей, В. С. Снядзін / В. С. Вяргей // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Петрыкаўскага раёна. — Мінск, 1995.
Вяргей, В. С. Пінск старажытны / В. С. Вяргей, А. Іоў // Беларуская мінуўшчына. — 1997. — № 2.
Гаусман, М. Исторический очерк местечка Туров, прежней столицы Туровского княжества / М. Гаусман. — Минск, 1877.
Геродот. История в девяти книгах / Геродот. — Л., 1972.
Гісторыя Беларусі: т. 1 / пад. рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. — Мінск, 1998.
Гобарев, В. М. Предыстория Руси / В. М. Гобарев. — М., 1994.
Гобарев, В. М. Русь до Рождества Христова / В. М. Гобарев. — М., 1996.
Граков, Б. Н. Скифы / Б. Н. Граков. — М., 1971.
Греков, Б. Киевская Русь / Б. Греков. — М., 1953.
Гринблат, М. Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории / М. Я. Гринблат. — Мн., 1968.
Гумилев, Л. Н. От Руси к России: Очерки этнической истории / Л. Н. Гумилев. — М. 1992.
Гуревич, Ф. Д. Древности Белорусского Понемонья / Ф. Д. Гуревич, —М.-А, 1962.
Двинская, Я. Легенды Полоцкой земли / Я. Двинская. — Рига, 1991.
Демин, В. Н. Священная летопись Севера / В. Н. Демин // Наука и религия. — 1999. — № 1.
Дневник раскопки в м. Турове Мозырского у. Минской губ. // Минская старина. — Вып. 2. — 1911.
Доўнар-Запольскі, М. В. Гісторыя Беларусі / М. В. Доўнар-Запольскі. — Мінск, 1994.
Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь : Полацкі і наваградскі перыяды / М. Ермаловіч. — Мінск, 1990.
Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Литовское и Белорусское Полесье / репринтное воспроизведение издания 1882 года. — Минск, 1993.
Житие святой равноапостольной великой княгини Ольги // Жития святых: 1000 лет русской святости : т. 2. — Джорданвилль-Нью-Иорк, 1984.
Загорульский, Э. М. Археология Белоруссии / Э. М. Загорульский. — Минск, 1965.
Загорульский, Э. М. Древняя история Белоруссии / Э. М. Загорульский. — Минск, 1977.
Заичкин, И. А. Русская история: Популярный очерк IX — середины XVIII ст. / И. А. Заичкин, И. Н. Почкарев. — М. 1993.
Залашка, Г. М. Скіфскія помнікі напоўдні Беларусі / Г. М. Залашка // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці: зб. — Мінск, 1985.
Заяц, Ю. Заславль X-XVIII веков / Ю. Заяц. — Минск, 1987.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Гомельская вобласць. — Мінск, 1985.

Ігнатоўскі, У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У. Ігнатоўскі. — Мінск, 1991.
Иордан. О происхождении и деяниях гетов. Getica / Иордан. — М. 1960.
История БССР : т. 1 / под ред. Л. С. Абецедарского [и др.]. — Минск, 1961.
История БССР / под ред. В. В. Чепко, А. П. Игнатенко. — Минск, 1981.
История России и ее ближайших соседей : энциклопедия для детей : т. 5, ч. 1. — М„ 1995.
История СССР с древнейших времен до конца XVIII в. / под ред. Б. А. Рыбакова. — М., 1995.
Каганец, К. Творы / К. Каганец. — Мінск, 1979.
Карамзин, Н. М. История государства Российского : т. 1-3 / Н. М. Карамзин. — М., 1989.
Ключевский, В. О. Курс русской истории : т. 1 / В. О. Ключевский. — М„ 1987.
Книга Белеса. — М., 1997.
Константин Багрянородный. Об управлении империей / Константин Багрянородный. — М., 1989.
Костомаров, Н. И. Начало Руси / Н. И. Костомаров. — СПб., 1860.
Крйп'якевіч, I. Історія Украіни / І. Крип’якевіч. — Львів, 1992.
Кузьмин, А. Одоакр и Теодорих : кн. 1 / А. Кузьмин // Дорогами тысячелетий : сб. — М., 1987.
Аабынцев, Ю. А. Во глубинном Полесье: (Турово-Пинская земля) / Ю. А. Аабынцев. — М. 1989.
Ластоўскі, В. Ю. Кароткая гісторыя Беларусі / В. Ю. Ластоўскі. — Мінск, 1992.
Лесков, А.М. Курганы: находки, проблемы / А. М. Лесков. — А, 1981.
Лесной, С. Откуда ты, Русь? / С. Лесной. — Ростов-на-Дону, 1995.
Литва : краткая энциклопедия. — Вильнюс, 1985.
Лихоталь, Т. Повесть о славных Богатырях, златом граде Киеве и великой напасти на землю рускую / Т. Лихоталь. — М., 1974.
Ловмянский, X. Русь и норманны / X. Ловмянский. — М., 1985.
Лойка, Л. Этнагенез беларусаў / Л. Лойка // Беларуская мінуўшчына. — 1997. — № 4.
Лотоцький, А. Княжа слава / А. Лотоцький. — Кйів, 1991.
Лысенко, П. Ф. Дреговичи / П. Ф. Лысенко. — Минск, 1991.
Магілёўская хроніка Трафіма Сурты і Юрыя Трубніцкага // Беларускія летапісы і хронікі: зб. — Мінск, 1997.
Макарий (Булгаков), Митрополит Московский и Коломенский. История русской Церкви : кн. 1. История христианства в России до равноапостольного князя Владимира как введение в историю Русской Церкви / Макарий (Булгаков), Митрополит Московский и Коломенский. — М., 1994.
Масленицына, И. Мог ли быть князь Тур первым восточнославянским святым? / И. Масленицына, Н. Богодзяж // Тысячелетие Туровской епархии : материалы XI Минских епархиальных чтений 24 июля 2005 года, посвященных 1000-летию Туровской епархии. — Минск, 2005.

Масляніцына, І. «І былі яны нам браты...» / І. Масляніцына, М. Багадзяж // Беларуская мінуўшчына. — 1997. — № 1.
Масляніцына, І. Слава і няслаўе / І. Масляніцына, М. Багадзяж. — Мінск, 1995.
Мельников, А. А. Путь непечален: Исторические свидетельства о святости Белой Руси / А. А. Мельников. — Минск, 1992.
Мельниковская, О. Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке / О. Н. Мельниковская. — М., 1967.
Мысліцелі і асветнікі Беларусі : энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1995.
Найдзюк, Я. Беларусь учора і сёння : папулярны нарыс з гісторыі Беларусі / Я. Найдзюк, І. Касяк. — Мінск, 1993.
Нарысы гісторыі Беларусі : ч. 1 / пад рэд. Касцюка М. П. [і інш.]. — Мінск, 1994.
Наш край. — 1928. — № 8-9.
Нечволодовъ, А. Сказанія о русской землъ: т. 1/ А. Нечволодовъ. — СПб., 1913.
Никитин, А. Х. Королевская сага // Никитин, А. Костры на берегах / А. Х. Никитин. — М., 1986.
Новгородская первая летопись старшего и младшего сводов. — М.-Л., 1950.
Острембский, Я. Daianava — название одного из ятвяжских племен / Я. Острембский // Вопросы славянского языкознания. — Вып. 3. — М„ 1963.
Отечественная история. История России с древнейших времен до 1917 года : энциклопедия : т. 1-2. — М., 1994-1996.
Очерки по археологии Белоруссии : ч. 2. — Минск, 1972.
Петрухин, В. Я. Начало этнокультурной истории Руси IX-XI веков / В. Я. Петрухин. — Смоленск, 1995.
Петрухин, В. Я. Славяне / В. Я. Петрухин. — М., 1998.
Пилипенко, М. Ф. Этнография Белоруссии / М. Ф. Пилипенко, —Мн„ 1981.
Повесть временных лет // Лаврентьевская летопись : т. 12. — М.-Л., 1950.
Полевой, Н. Йсторія русского народа / Н. Полевой. — М., 1830.
Полное собрание русских летописей : т. 2. — М., 1962.
Полное собрание русских летописей : т. 32. — М., 1975.
Полное собрание русских летописей : т. 35. — М., 1980.
Прозоровский, Д. И. О родстве св. Владимира по матери / Д. И. Прозоровский // Записки Императорской Академии наук : т. 5, кн. 1. — СПб., 1864.
Пропп, В. Я. Русский героический эпос / В. Я. Пропп. — Л., 1955.
Рагач, П. Кароткі агляд гісторыі Беларусі / П. Рагач. — Кліўленд-Нью-Йорк-Талін, 1990.
Рассадзін, С. Я. Землі амаль невядомыя: Буду чая Беларусь паводле антычных манускрыптаў / С. Я. Рассадзін. — Мінск, 1996.
Ричка, В. М. За літопйсным рядком / В. М. Ричка. — Кйів, 1991.
Русь и варяги: Русско-скандинавские отношения домонгольского времени / А. Н. Кирпичников, И. В. Дубов, Т. С. Лебедев // Славяне и скандинавы : сб. — М., 1986.

Рыбаков, Б. А. Киевская Русь и русские княжества XII-XIII веков / Б. А. Рыбаков. — М., 1982.
Рыбаков, Б. А. Мир истории: Начальные века русской истории / Б. А. Рыбаков. — М„ 1987.
Рыбаков, Б. А. Первые века русской истории / Б. А. Рыбаков. — М. 1964.
Рыбаков, Б. А. Христианство и язычество / Б. А. Рыбаков // История СССР с древнейших времен до наших дней : т. 1. — М., 1986.
Рылеев, К. Ф. Полное собрание сочинений / К. Ф. Рылеев. — М., 1931.
Сага о Тидрике Бернском : отрывки // Откуда есть пошла Русская земля: Века VI-X : кн. 1. — М., 1998.
Сведения арабских ученых Арабского Халифата. — М., 1988.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии. Брестская область. — Мн., 1990.
Свяжынскі, У Балты і балцкія гаворкі у старажытнай Беларусі / У. Свяжынскі // Кантакты і дыялогі. — 1999. — № 2, 3, 4.
Святая благоверная великая княгіня Ольга. — СПб., 1868.
Седов, В. В. Восточные славяне в VI-XIII вв. / В. В. Седов. — М., 1982.
Седов, В. В. Курганы ятвягов / В. В. Седов // Советская археология. — 1964. — № 4.
Седов, В. В. Ятвяжское племя Дейнова / В. В. Седов // Короткие сообщения института археологии. — 1968. — № 113.
Серебрянский, Н. Древнерусские княжеские жития / Н. Серебрянский. — М., 1915.
Сказание о княгине Ольге // Семья. — 1982. — № 27. Скифы : хрестоматия. — М., 1992.
Скуралатова, О. Загадка «Велесовой книги» / О. Скуралатова // Техника молодежи. — 1979. — № 12.
Слово о полку Игореве. — М., 1976.
Снисаренко, А. Б. Рыцари удачи / А. Б. Снисаренко. — СПб., 1991.
Соловьева, Г. Ф. К вопросу о приходе Радимичей на Русь / Г. Ф. Соловьева // Славяне и Русь : сб. — М., 1968.
Соніч, А. «...а цар яго жыве ў Артыі» / А. Соніч // Беларуская мінуўшчына. — 1997. — № 2.
Соротокина, Н. История России: Женский взгляд / Н. Соротокина. — М. 1999.
Степи европейской части СССР в скифо-сарматское время / под ред. А. И. Мельникова. — М., 1989.
Страданіе и чудеса святага славнага великомученика Димитрія // Жйтія святыхъ : кн. 2. — М., 1904
Субтельный, О. Украина : история / О. Субтельный. — Кйі'в, 1994.
Тарасаў, К. Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны / К. Тарасаў. — Мінск, 1990.
Татищев, В. Н. Собрание сочинений : т. 2,3,4 / В. Н. Татищев. — М. 1995.
Татищев В. Н. История Российская : в 4-х т. Т. 2 / В. Н. Татищев. — М.-Л., 1962-1964.

Тихомиров, М. Список русских городов дальних и ближних / М. Тихомиров // Исторические записки. — 1952. — № 40.
Третьяков, П. Н. Восточнославянские племена / П. Н. Третьяков. — М., 1953.
Трофимов, А. Святые жены Руси / А. Трофимов. — М., 1993.
Фроянов, И. Я. Древняя Русь: Опыт исследования истории социальной и политической борьбы / И. Я. Фроянов. — СПб., 1995.
Фроянов, И. Я. Старинная история: Былинный эпос / И. Я. Фроянов, Ю. И. Юдин. — М., 1991.
Хазанов, М. Золото скифов / М. Хазанов. — М., 1975.
Цветков, В. Житие святой Ольги, княгини Российской / В. Цветков. — М. 1900.
Чаропка, В. Імя ў летапісе / В. Чаропка. — Мінск, 1994.
Чарняўскі, М. Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях / М. Чарняўскі / / Маладосць, — 1992, —№4.
Членов, А. По следам Добрыни / А. Членов. — М., 1986.
Шахматов, А. А. Древнейшая судьба русских племен / А. А. Шахматов. — Петроград, 1919.
Шахматов А. А. Разыскания о русских летописях / А. А. Шахматов. — М. 2001.
Шахматов А. А. Как назывался первый русский святой мученик? / А. А. Шахматов // Известия Императорской Академии Наук. — 6 серия. — 1907, май. — Т. 1.
Шелов Д. Б. Северное Причерноморье 2000 лет назад / Д. Б. Шелов. — М. 1975.
Штыхаў, Г. В. Ажываюць сівыя стагоддзі / Г. В. Штыхаў. — Мінск, 1982.
Штыхаў, Г. В. Гісторыя Беларусі: Старадаўнія часы і сярэднявечча / Г. В. Штыхаў, У. Н. Пляшэвіч. — Мінск, 1993.
Штыхов, Г. В. Города Полоцкой земли / Г. В. Штыхов. — Минск, 1978.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: т. 1-4. — Мінск, 1993-1997.
Этнаграфія Беларусі: энцыклапедыя. — Мінск, 1989.

**ЗМЕСТ**

Падарожжа ў тумане
Таргітай — сын Прыпяці
Скрэва, прамаці крывічоў
Няўрыда — краіна ваўкалакаў
«Дзікі, але мужны народ»
Вандраванне апостала
Сага пра Вальдэмара Полацкага
Кій — герой усходніх славян
Ад племені доблесных
Яны прыйшлі апошнімі
Далёкія паходы Хагана
Палеская Атлантыда
Абградзе Іскарасцене і князі драўлян Мале
Княгіня-здань
«Залаты век» Рагвалода і Тура
Рагнеда — сімвал Беларусі
Дачка князя Тура
Спіс выкарыстанай і прапануемай літаратуры

Навукова-папулярнае выданне
МАСЛЯНІЦЫНА Ірына Аляксандраўна
БАГАДЗЯЖ Мікола Канстанцінавіч

БЕЛАРУСЬ ДАЛЕТАПІСНАЯ
Гістарычныя нарысы

Рэдактар М. Н. Мінзер Мастак А. М. Кашкурэвіч Камп'ютэрная вёрстка Л. В. Касцюкевіч Карэктар К. С. Голуб
Падпісанаў друк 1.03.2010. Фармат70х100 '/зь Папера афсетная.
Гарнітура Garamond. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 9,1. Ул.-выд. арк. 8,93. Тыраж 1500 экз. Заказ 2240.
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва». ЛИ 02330/0494044 ад 03.02.2009. Бул. Захарава, 19, 220034, г. Мінск.
Вытворчае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
ЛП 02330/0494156 ад 03.04.2009. Вул. Каржанеўскага, 20,220024, г. Мінск.